# ЗЬМЕСТ.

Стар.



## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.



## ХРОНІКА.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

№ 10 (49) Кастрычнік 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# 1-я Ўсебеларуская Выстаўка Сельскай Гаспадаркі, Прамысловасьці і Краязнаўства БССР.

1-ая Ўсебеларуская Выстаўка Сельскай Гаспадаркі і Прамысловасьці організуецца ў Менску, і адчыненьне яе прыстасоўваецца да дня дзесяцігодзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў—11 ліпня 1930 году.

Паводле „Палажэньня аб Выстаўцы“, зацьверджанага Саветам Народных Камісараў БССР ад 17 ліпня 1929 г., Выстаўка мае на мэце:

а) выяўленьне ўсіх дасягненьняў у галіне соцыялістычнага разьвіцьця і рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці і індустрыялізацыі народнай гаспадаркі ў цэлым;

б) усебаковае асьвятленьне становішча сельскай гаспадаркі і прамысловасьці ў цэлым і ў паасобных яе частках да часу адчыненьня выстаўкі;

в) выяўленьне ўсіх дасягненьняў у галіне рэорганізацыі масавай сялянскай гаспадаркі, як вынікаў самадзейнасьці шырокіх мас працоўнага сялянства Рэспублікі на падставе вытворчага коопэраваньня мерапрыемстваў аграрнай і нацыянальнай політыкі савецкай улады БССР;

г) выяўленьне ўсіх нацыянальных і бытавых асаблівасьцяй у разьвіцьці мясцовай народнай гаспадаркі;

д) выяўленьне прыродных багацьцяў Рэспублікі, ступень іх скарыстаньня і пэрспэктыў далейшай эксплёатацыі;

е) высьвятленьне дасягненьняў і пэрспэктыў навукова-дасьледчых прац у галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасьці;

ж) высьвятленьне далейшых шляхоў і пэрспэктыў разьвіцьця сельскай гаспадаркі і прамысловасьці Рэспублікі з выясьненьнем умоў, якія могуць дапамагаць пашырэньню і паглыбленьню далейшага соцыялістычнага будаўніцтва Рэспублікі;

з) выяўленьне ўзораў прыкладнай працы колектыўнага і індывідуальнага характару ў галіне сельскай гаспадаркі БССР;

і) нагляднае азнаямленьне шырокіх працоўных мас Рэспублікі і іншых частак Саюзу з дасягненьнямі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці БССР, а таксама і ў прыстасаваньні навукі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці наогул;

к) правядзеньне шырокай культурна-асьветнай, агітацыйнай і пропагандыцкай працы сярод працоўных мас Рэспублікі на падставе ўсіх матар'ялаў, выяўленых на выстаўцы;

л) устанаўленьне і пашырэньне дзелавых сувязяй з іншымі рэспублікамі Саюзу, а таксама з чужаземнымі ўстановамі і прадпрыемствамі на аснове ўзаемнага азнаямленьня з становішчам і пэрспэктывамі разьвіцьця экспортных і імпортных магчымасьцяй.

Выстаўка павінна прадэманстраваць і падагуліць вялікія дасягненьні ўсяго колектыву рабочых і сялян БССР у галіне сельскае гаспадаркі і прамысловасьці за пэрыод 10-гадовага існаваньня Савецкай Беларусі.

Пастановай СНК БССР ад 30.9.29 перад Выстаўкай пастаўлены наступныя задачы:

а) „Выстаўка павінна яскрава адбіць уплыў і значэньне індустрыялізацыі на социялістычнае ператварэньне сельскае гаспадаркі“.

б) „У максымальным разьмеры павінна выразна адбіваць процэсы аграмаджваньня сельскае гаспадаркі (колгасы, саўгасы, с.-г. вытворчыя т-вы і інш.) у дынамічным разрэзе (вытворчасьць, культура, быт і інш.)“.

Апрача мэты дэмонстрацыі, Усебеларуская Выстаўка павінна зьявіцца колектыўнай школай, якая на яскравых удалых прыкладах павінна паказаць шляхі далейшага социялістычнага будаўніцтва, даць новы стымул да колектыўнага спаборніцтва паасобных раёнаў і організацый БССР у іх працы па социялістычнай перабудове народнай гаспадаркі і культуры.

Выстаўка бярэ кірунак на тое, каб менш дэманстраваць мёртвыя экспонаты ў штучнай абстаноўцы, адарванай ад вытворчай дзейнасьці, а галоўным чынам паказаць нашы дасягненьні ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці ў натуральнай, звычайнай для вытворчасьці абстаноўцы і ўмовах. Максымум натуральнасьці, мінімум штучнасьці — такі організацыйны лёзунг кіраўніцтва Выстаўкі.

Пад Выстаўку адведзена плошча да 75 гэктараў зямлі з тыповай для Меншчыны глебай. Плошча Выстаўкі непасрэдна мяжуецца з Камароўскім балотам, на якім будуць паказаны дасягненьні Менскай Цэнтр. Балотнай станцыі. Большая частка плошчы вызначана пад паказ севазваротаў і розных насаджэньняў, уласьцівых Беларусі. Непадалёку ад Выстаўкі будуць разьмешчаны Расьлінаводная станцыя, Сьвінаводная станцыя, Рыбная гаспадарка, Махавое балота — установы Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна.

Абсталяваньне і галоўныя экспонаты рыхтуюцца ня толькі на час Выстаўкі, а каб іх і ў далейшым магчыма было скарыстаць. Па зачыненьні ўся тэрыторыя і пабудовы Выстаўкі перадаюцца памянёнаму Навукова-Дасьледчаму Інстытуту.

Паводле „Палажэньня“ ў выстаўцы ўдзельнічаюць:

а) дзяржаўныя, коопэрацыйныя, грамадзкія, профэсыйныя ўстановы і організацыі Рэспублікі;

б) дзяржаўныя коопэрацыйныя, колектыўныя, грамадзкія прадпрыемствы і вытворчасьці сельска-гаспадарчага і прамысловага тыпу (уключаючы ў апошні таксама і дробную саматужную прамысловасьць);

в) індывідуальныя сялянскія гаспадаркі;

г) асобныя дробныя саматужнікі;

д) асобныя навуковыя працаўнікі, дасьледчыкі і вынаходцы ў галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасьці;

е) іншыя савецкія рэспублікі ўдзельнічаюць на выстаўцы па спэцыяльных запрашэньнях Галоўнага Выставачнага Камітэту.

У аснову разьмеркаваньня (групаваньня) экспонатаў выстаўкі выдзяляюцца наступныя аддзелы выстаўкі з адпаведнымі іх п-аддзеламі:

1) Навукова-асьветнага.
2) Земляробскага (расьлінагадоўлі, гародніцтва).
3) Жывёлагадоўлі, малочнай гаспадаркі і вэтэрынарыі.
4) Лясной гаспадаркі і паляваньня.

5) Зямляўпарадкаваньня і сельскага будаўніцтва.
6) Мэліорацыі, культуры балот і торпавай справы.
7) Аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі.
8) Мэханізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.
9) Рыбнай гаспадаркі.
10) Дамаводзтва і быту (у сельскай гаспадарцы).
11) Прамысловасьці рэспубліканскай, мясцовай і саматужнай.
12) Экспорту, імпорту і гандлю.




13) Працы і быту.
14) Дарожнае гаспадаркі.
15) Комунальнае гаспадаркі.

Канчатковы лік груповак на аддзелы і п-аддзелы ўстанаўляе Галоўны Выставачны Камітэт.

На тэрыторыі Выстаўкі ў сучасны момант вядзецца кіпучая праца па пабудове павільёнаў, падрыхтоўцы засеваў і насаджэньняў, вопытных вучасткаў і г. д. Падрыхтоўчая праца да ўдзелу на Выстаўцы вядзецца і цэнтральнымі ўстановамі і організацыямі.

Але гэтая справа павінна ахапіць і ўсю тэрыторыю БССР. Паводле „Палажэньня аб Выстаўцы“ на мясцох організаваны мясцовыя выставачныя камітэты і акрэсьлены іх мэты, задачы і дзейнасьць.

15. Для забясьпечаньня больш шырокага і організаванага ўдзелу на Выстаўцы прадстаўнікоў вясковага насельніцтва, мясцовых устаноў, організацый і прадпрыемстваў, пры акруговых выканаўчых камітэтах утвараюцца акруговыя выставачныя камітэты, пры раённых выканаўчых камітэтах — раённыя выставачныя камітэты і пры сельскіх саветах — сельскія выставачныя камітэты.

Старшынямі мясцовых выставачных камітэтаў зьяўляюцца: акруговых — старшыні акруговых выканаўчых камітэтаў альбо іх намесьнікі, раённых — старшыні раённых выканаўчых камітэтаў альбо іх намесьнікі, сельскіх — старшыні сельскіх саветаў.

16. Мясцовыя выставачныя камітэты зьяўляюцца стала дзейнымі органамі (да моманту ліквідацыі выстаўкі).

У сваёй бягучай працы мясцовыя выставачныя камітэты карыстаюцца тэхнічным апаратам: акруговыя — акруговых выканаўчых камітэтаў, раённыя — раённых выканаўчых камітэтаў і сельскія — сельскіх саветаў.

У задачы мясцовых выставачных камітэтаў уваходзіць:

а) распрацоўка мясцовых плянаў удзелу ў выстаўцы (у адпаведнасьці з раёнам дзейнасьці камітэту) і адпаведных фінансавых каштарысаў і паданьне іх у Вышэйшы Выставачны Камітэт;

б) шырокае апавяшчэньне насельніцтва, устаноў, організацый і прадпрыемстваў у раёне дзейнасьці камітэту аб Усебеларускай Выстаўцы (яе мэтах, задачах, часе, месцы, парадку ўдзелу экпонатаў і інш.);

в) ужываньне захадаў да магчыма шырокага ўцягненьня выставачных экспонатаў, асабліва ад коопэраванага насельніцтва, колектыўных гаспадарак, цэлых весак і паселішчаў;

г) падрыхтоўка матар'ялаў (картарграм, дыяграм, модэляў і інш.), якія характарызуюць этапы разьвіцьця, дасягненьні і пэрспэктывы разьвіцьця мясцовай сельскай гаспадаркі і мясцовай прамысловасьці;

д) падбор прызначаных на Выстаўку экспонатаў з погляду іх тыповасьці для данай акругі, раёну, асобных гаспадарак альбо прадпрыемстваў і адпраўка адабраных экспонатаў на Выстаўку;

е) дапамога мясцовым экспонатам у перавозцы іх экспонатаў на Выстаўку і назад з Выстаўкі;

ж) падбор груп мясцовых экскурсантаў і організацыя экскурсіі на Выстаўку;

з) фінансаваньне мясцовых мерапрыемстваў па падрыхтоўцы ўдзелу ў Выстаўцы, організацыі экскурсій і інш., паводле зацьверджаных каштарысаў;

і) вядзеньне грашовай справаздачнасьці па выдатках на ўдзел у Выстаўцы, складаньне і паданьне справаздач выставачным камітэтам аб ходзе працы па падрыхтоўцы да выстаўкі.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ўвайшло ў сувязь з Галоўным Выставачным Камітэтам і вызначыла ўдзел краязнаўчых організацый у падрыхтоўцы і правядзеньні Выстаўкі.

Мяркуецца даць пэўнае месца на Выстаўцы для дэмонстрацыі дасягненьняў у краязнаўчай працы ў БССР, асабліва ў справе вывучэньня мясцова - сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, а таксама прыродных умоў, быту, народнай творчасьці і інш. На лепшых экспонатах з месц мяркуецца паказаць ня толькі конкрэтны зьмест працы мясцовых краязнаўчых таварыстваў, гурткоў, але і мэтоды і спосабы вывучэньня паасобных галін і пытаньняў. Ёсьць думка паказаць узорны раённы краязнаўчы музэй, сабраны з найбольш удалых тыповых

экспонатаў з розных музэяў. Будуць дэманстравацца краязнаўчыя фотоздымкі, зарысоўкі, дыяграмы і іншае, што будзе адлюстроўваць жыцьцё і працу колгасаў, саўгасаў і іншых форм колектыўнай гаспадаркі на мясцох.

Але галоўны ўдзел мясцовых краязнаўчых організацый павінен выявіцца ў вызначэньні, зьбіраньні і адборы матар'ялаў і экспонатаў, якія найбольш яскрава паказваюць мясцовыя асаблівасьці сельскай гаспадаркі, прамысловасьці, культуры і быту.

Мясцовым краязнаўчым організацыям патрэбна шчыльна ўвязацца з мясцовымі выставачнымі камітэтамі, вылучыўшы туды сваіх прадстаўнікоў. Чарговым пытаньнем сваёй працы краязнаўчыя т-вы павінны паставіць вывучэньне мясцовых сельска-гаспадарчых зьявішч і процэсаў: формы зямлякарыстаньня, тэхніка апрацоўкі, ураджайнасьць, заняткі і промыслы насельніцтва. Гэтае дасьледваньне павінна выявіцца ў дыяграмах, табліцах, замалёўках, фотоздымках, апісаньнях і г. д. Лепш вызначыць адно-два пытаньні, але распрацаваць іх больш дакладна і выявіць яскрава.

Праз Выстаўку мяркуецца прапусьціць да 10% рабочых і сялян БССР. Таму паўстае пытаньне аб падрыхтоўцы экскурсій і популярызацыі мэт, задач і організацыі 1-ай Усебеларускай Выстаўкі сярод шырокіх мас працоўнага насяленьня.

Гэту задачу таксама павінны ўскласьці на сябе мясцовыя краязнаўчыя таварыствы.

На старонках „Нашага Краю“ сыстэматычна будуць высьвятляцца пытаньні ўдзелу краяведаў у падрыхтоўцы да Выстаўкі і будзе давацца сьціслая інформацыя аб ходзе прац па Выстаўцы.

Патрэбна, каб і мясцовыя краяведныя організацыі ўнесьлі гэтае пытаньне ў бягучы плян сваёй працы і сваёй дзейнасьцю дапамаглі агульнай справе Соцыялістычнага пэратварэньня нашай краіны, што павінна прадэманстраваць 1-я Усебеларуская Выстаўка Сельскай Гаспадаркі і прамысловасьці.

---

**В. Самцэвіч.**

# Аб організацыі краязнаўчае працы на фабрыках і заводах.

Шпаркі тэмп разьвіцьця нашае соцыялістычнае гаспадаркі і культуры патрабуе ня толькі капітальных укладаньняў на разьвіцьцё тэхнікі, максымальнага выкарыстаньня прыродных і энэргетычных рэсурсаў, але таксама і організаванага масавага ўдзелу працоўных мас у пляінаваньні працы па соцыялістычным будаўніцтве ў паасобных вытворчых прадпрыемствах, гаспадарчых і культурных установах. Працоўныя масы, непасрэдныя будаўнікі соцыялістычнае гаспадаркі і культуры, павінны ведаць агульны кірунак нашага будаўніцтва, пэрспэктывы разьвіцьця паасобных галін народнае гаспадаркі і конкрэтныя пляны працы таго прадпрыемства, у якім працуе кожны рабочы. Рацыяналізацыя працы, падняцьце вытворчасьці фабрыкі ці заводу магчымы толькі тады, калі ня толькі адміністрацыя, але і самі рабочыя будуць прымаць удзел у вырашэньні ўсіх вытворчых задач прадпрыемства, ведаць яго бліжэйшыя чарговыя задачы, процэсы вытворчасьці, рынкі збыту продуктаў вытворчасьці і г. д.

Будаўніцтва новага быту і новай культуры, палепшаньне ўмоў жыцьця і працы рабочых у даных умовах магчыма ставіць для практычнага вырашэньня толькі тады, калі мы будзем дакладна ведаць усе асаблівасьці жыцьця і працы рабочых.

Социялістычнае будаўніцтва ва ўсіх яго галінах ёсьць плянавае будаўніцтва, будаўніцтва на навуковай базе, на падставе падліку ўсіх магчымасьцяй. Плянавасьць у социялістычным будаўніцтве павінна праводзіцца, пачынаючы ад плянаваньня ўсёй гаспадаркі ў дзяржаўным маштабе і канчаючы плянаваньнем працы паасобных установ і прадпрыемстваў і наадварот. Плянаваньне і далейшая організацыя працы паасобных прадпрыемстваў (фабрык, заводаў і інш.) вымагаюць усебаковага папярэдняга вывучэньня прадпрыемства, як социяльна-экономічнай адзінкі ў агульнай сыстэме народнае гаспадаркі.

Організацыя краязнаўчае працы ў галіне прамысловасьці ў сучасны момант набывае асабліва актуальнае значэньне і ў значнай меры можа дапамагчы вырашэньню цэлага шэрагу практычных задач, зьвязаных з разьвіцьцём і палепшаньнем продукцыі нашай мясцовай прамысловасьці з аднаго боку і палепшаньнем дабрабыту рабочых з другога. Організацыя краязнаўчых гурткоў пры найбольш буйных фабрыках і заводах ужо пасьпела і можа быць вельмі карыснай у справе непасрэднага вывучэньня сіламі рабочых усяго процэсу вырабу продуктаў вытворчасьці данага прадпрыемства, умоў падняцьця вытворчасьці працы, палепшаньня жыцьця рабочых і г. д.

Мы лічым мэтазгодным і патрэбным, каб пры прамысловых прадпрыемствах у бліжэйшы час былі зорганізаваны гурткі з мэтай вывучэньня ўсёй організацыі вытворчай працы свайго прадпрыемства і організацыі найлепшых умоў працы і жыцьця рабочых, організацыі новага быту і пастаноўкі культасьветнай справы ў залежнасьці ад нацыянальнага складу рабочых, іх культурнага ўзроўню і г. д. Мы лічым зусім натуральным і мэтазгодным, калі праца краязнаўчага гуртка на прамысловым прадпрыемстве будзе цесна ўвязвацца з практычнай працай вытворчай камісіі, культкамісіі, гуртка бязбожнікаў, з працай рабкораў і інш. Усе вытворчыя і культасьветныя організацыі, паколькі яны для сваёй працы будуць браць і вывучаць мясцовы матар'ял, матар'ял, узяты з жыцьця свайго прадпрыемства ў першую чаргу, пастолькі яны будуць у сваёй дзейнасьці набліжацца і да задач краязнаўчых організацый. Вытворчая камісія, напр., у сваім распараджэньні можа мець вельмі каштоўны матар'ял аб організацыі ўсяго процэсу вытворчасьці данага прадпрыемства, аб запасах і якасьці сыравіны для прадпрыемства, аб рынках збыту продуктаў свайго прадпрыемства, аб кваліфікацыі рабочых і г. д.; культкамісія можа і павінна мець весткі аб культурным узроўні рабочых свайго прадпрыемства, аб іх пісьменнасьці, аб іх культурных запатрабаваньнях, аб характары газэт і часопісаў, якія выпісваюцца, чытаюцца і найбольш цікавяць рабочыя масы і інш.; ячэйка бязбожнікоў павінна мець даныя аб пашыранасьці розных рэлігійных забабонаў, аб колькасьці рэлігійных і антырэлігійных рабочых і г. д. Бяз гэтых даных нельга весьці карыснай практычнай працы, бо гэтая праца павінна выцякаць з мясцовых умоў і запатрабаваньняў. Нельга *наогул* ставіць пытаньні аб падняцьці вытворчасьці прадпрыемства, аб будаўніцтве новага быту, трэба гаварыць і ставіць пытаньні аб конкрэтнай працы *ў даных умовах*, пры наяўнасьці пэўных сіл і сродкаў, а для гэтага трэба ведаць гэтыя ўмовы і сілы, патрэбна папярэдняе вывучэньне ўсіх бакоў данага пытаньня.

Тут мы якраз і падыходзім да пытаньня вытворчага краязнаўства, да краязнаўства, цесна і непасрэдна зьвязанага з практычнымі задачамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Толькі пры такой пастаноўцы працы можна будзе гаварыць аб уцягненьні рабочых ад варштату ў краязнаўчую працу, няхай самую маленькую, самую малапрыкметную. Што да рабкораў, дык яны і да гэтага часу ў значнай меры зьяўляліся да некаторай ступені краязнаўцамі, зьмяшчаючы ў сьценгазэтах і на старонках акруговых і цэнтральных газэт шмат матар'ялу краязнаўчага характару (аб росьце продукцыі вытворчасьці, аб барацьбе старога і новага быту і г. д.).

Краязнаўчы гурток на прадпрыемстве, выходзячы з агульных задач соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне гаспадаркі і культуры і з пэрспэктыўных плянаў у гэтых галінах свайго прадпрыемства, усебаковым яго вывучэньнем павінен даць пэўную падставу, пэўнае абгрунтаваньне для пастаноўкі тых ці іншых конкрэтных задач. Краязнаўчы гурток на прамысловым прадпрыемстве будзе мець магчымасьць ня толькі вывучаць паасобныя пытаньні, ня толькі прымаць удзел у абгаварэньні і складаньні плянаў працы, але ён цалкам у розных галінах будзе прымаць непасрэдны ўдзел і ў рэалізацыі, у практычным вырашэньні гэтых плянаў. А гэта вельмі важна ў сэнсе паглыбленьня самае дасьледчае працы і наданьня ёй жыцьцёвага характару.

Дзеля таго, каб належным чынам організаваць і праводзіць працу краязнаўчага гуртка на прамысловым прадпрыемстве, патрэбен сьвядомы і падрыхтаваны кіраўнік-організатар гэтае справы. І можна напэўна сказаць, што пакуль мы такіх організатараў краязнаўчае працы на фабрыках і заводах ня маем, да тых часоў цяжка чакаць і якіх-небудзь вынікаў у гэтай справе. Аднэй пропаганды ідэі і патрэбнасьці краязнаўчае працы мала. Трэба распачаць самую працу, няхай і маленькую на першыя часы. Вось чаму паўстае сур'ёзнае і вельмі важнае пытаньне аб падрыхтоўцы інструктароў і організатараў краязнаўчае працы на прамысловых прадпрыемствах. Практыка нашага жыцьця паказала, што без падрыхтоўкі кадраў інструктароў нельга наладзіць працы належным чынам ні ў аднэй галіне соцыялістычнага будаўніцтва. З гэтае прычыны ў сучасны момант і зьвяртаецца вялікая ўвага на падрыхтоўку інструктароў для працы ў галіне коопэрацыі, мэліорацыі, у справе організацыі колектыўнага будаўніцтва, працы сярод жанчын і г. д. Тое-ж самае нам трэба зрабіць і ў галіне разьвіцьця краязнаўчае працы сярод працоўных мас. Гэтую задачу трэба паставіць як чарговую задачу ў працы ЦБК і акруговых краязнаўчых організацый. Аднак, мы лічым, што на першых часах значную дапамогу ў справе організацыі краязнаўчае працы на фабрыках і заводах маглі-б і павінны зрабіць краязнаўчыя гурткі пры школах сямігодках, калі яны прымацаваны да паасобных прадпрыемстваў. Асабліва гэта трэба сказаць адносна фабрычна-завадзкіх сямігодак, праца якіх павіна быць абавязкова ўвязана з працай (вытворчай, грамадзкай, культасьветнай і інш.) фабрык і заводаў, да якіх школы прымацаваны. Мы лічым, што ў такіх выпадках магчыма організацыя і аб'яднаных краязнаўчых гурткоў (вучняў старэйшых груп, занятых у вытворчасьці, і рабочых), хаця, праўда, такога вопыту мы яшчэ ня маем. Праца аб'яднаных гурткоў была-б карысна ў тым сэнсе, што яна давала-б пэўную практычную ўстаноўку для гэтае працы, насіла-б відавочна патрэбны характар і ўцягвала-б вучняў у запраўднае жыцьцё рабочых і соцыялістычнае будаўніцтва. Самая апрацоўка матар'ялаў (апісаньні, скла-

даньне дыяграм, колекцыянаваньне і г. д.) у значнай меры выйграе, калі будзе пераважна перададзена школе (вучням краязнаўчага гуртка).

Асноўным мэтодам працы краязнаўчых гурткоў на прамысловых прадпрыемствах павінен застацца мэтод непасрэдных назіраньняў у процэсе жыцьця і самае працы рабочых. Поруч з гэтым магчыма выкарыстаньне ўсіх матар'ялаў пісьмовага характару (пляны, справаздачы, насьценныя газэты і інш.), успаміны старых рабочых аб мінулых часох.

Організаванае правядзеньне экскурсій з рабочымі ў прыроду, у мясцовыя культурныя колектыўныя і савецкія гаспадаркі, у падшэфныя вёскі, на суседнія прамысловыя прадпрыемствы і інш. зьяўляецца адным з патрэбных і карысных відаў масавай краязнаўчай працы.

Краязнаўчыя выстаўкі вельмі патрэбны і пажаданы, як спосаб популярызацыі краязнаўчае справы і працы прадпрыемства ў розных галінах. Краязнаўчыя выстаўкі на фабрыках і заводах могуць быць шырока выкарыстаны і для сувязі рабочых з рознымі профсаюзнымі, культурнымі і іншымі організацыямі. Экспонаты выставак, дыяграмы і розныя іншыя матар'ялы могуць зьявіцца пачаткам для організацыі і краязнаўчага музэю на прадпрыемстве, які, па нашай думцы, павінен адлюстроўваць вытворчасьць данага прадпрыемства, яго гісторыю, умовы жыцьця і быту рабочых, профсаюзную і культурную працу на прадпрыемстве.

Падаем кароткі пералік тэм, якія могуць быць зьместам працы краязнаўчага гуртка на прамысловым прадпрыемстве:

### I. Вывучэньне вытворчасьці прадпрыемства.

Процэс вытворчасьці паасобных машын і варштатаў у паасобных цэхах (аддзяленьнях); роля машыны і рабочага; стадыя апрацоўкі матар'ялу; недахопы ў працы машын і організацыі працы; магчымыя і патрэбныя палепшаньні.

### II. Сыравіна.

Месца здабываньня сыравіны і запасы яе; якасьць сыравіны; дастаўка яе на прадпрыемства, захаваньне і падрыхтоўка да апрацоўкі; магчымасьці набыцьця сыравіны лепшай якасьці.

### III. Продукцыя вырабу і збыт тавару.

Продукцыя вырабу розных цэхаў і яе каштоўнасьць. Дынаміка вырабу продуктаў прадпремства і каштоўнасьці іх за некалькі год. Якасьць продукцыі; магчымасьці і ўмовы яе палепшаньня (працоўная дысцыпліна, барацьба з прагуламі, рацыяналізацыя вытворчасьці).

Рынкі збыту продуктаў вырабу прадпрыемства.

### IV. Умовы працы і жыцьця рабочых.

У колькі зьмен працуюць рабочыя на прадпрыемстве і па колькі гадзін у розных аддзяленьнях. Напружанасьць працы; забясьпечанасьць сьвятлом, сьвежым паветрам, спэцвопраткай. Мерапрыемствы па ахове працы.

Дзе жывуць рабочыя: на праватных кватэрах, у комунальных дамох ці фабрычных пасёлках; жылая плошча, сьвятло, вадазабясьпечаньне; гігіенічна-санітарныя ўмовы; харчаваньне (у сталоўках, дома; норма харчаваньня, пераважныя віды страў і г. д.). Заробак рабочых і бюджэт усяе сям'і; асноўныя віды расходаў у сям'і.

### V. Рабочыя организацыі.

Нацыянальны і соцыяльны склад рабочых; лік членаў профсаюзу. Праца фабкому, розных камісій, гурткоў і таварыстваў.

Партыйны склад рабочых і партыйная праца сярод рабочых на прадпрыемстве. Партыйная і саюзная праца ў падшэфнай вёсцы і ваколічных сялян.

### VI. Рабочы рух на прадпрыемстве.

Першыя рабочыя організацыі на прадпрыемстве і іх праца. Гісторыя разьвіцьця профсаюзнае і партыйнае працы. Стачкі, дэмонстрацыі, забастоўкі; экономічныя і палітычныя лёзунгі выступленьняў рабочых (па матар'ялах і ўспамінах старых рабочых).

### VII. Культурна-асьветная праца.

Масавая культурная праца (даклады, лекцыі, кіно, спэктаклі і г. д.). Праца бібліотэкі (склад кніг, якога характару кнігі найбольш чытаюцца); выпіска кніг, газэт і часопісаў рабочымі. Праца клюбу і гурткоў пры ім; праца лікпункту і школ для рабочых, дзіцячых пляцовак і ачагоў.

### VIII. Стары і новы быт.

Узаемаадносіны паміж рабочымі і паміж рабочымі і адміністрацыяй (раней і цяпер). Сямейнае жыцьцё і ўзаемаадносіны членаў сям'і (лаянкі, бойкі і г. д.). Рэлігійныя забабоны (царкоўныя шлюбы, наведваньне сынагогі ці царквы, абразаньне і хрышчэньне дзяцей, рэлігійныя сьвяты і г. д.) і антырэлігійнае выхаваньне. Выяўленьне нацыяналізму і барацьба за інтэрнацыянальнае выхаваньне. Нараджэньне новых колектывістычных звычак і рэшткі індывідуалістычных звычак. Выяўленьне новага быту ў народнай творчасьці (прыказкі, частушкі і інш.).

### IX. Гісторыя прадпрыемства.

Калі і кім прадпрыемства заснавана. Асноўныя моманты з гісторыі прадпрыемства да Кастрычнікавай рэволюцыі, у часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны і ў часы савецкай улады. Віды і рост продукцыі; да рэволюцыі, да моманту рэконструкцыі прадпрыемства і цяпер; рост рабочых, уплыў фабрыкі (заводу) на мясцовую гаспадарку і жыцьцё насельніцтва і інш.

### X. Вывучэньне мовы і тэрмінолёгіі вытворчасьці.

Складаньне слоўніка слоў і тэрмінаў, якія ўжываюцца ў працы і жыцьці рабочых прадпрыемства; вызначэньне тэхнічнай тэрмінолёгіі

данай вытворчасьці: мясцовыя назвы машын, іх частак, прылад, сыравіны, фабрыкатаў, паасобных процэсаў у вытворчасьці і да г. п.

Вызначэньне асаблівасьцяй гаворак рабочых прадпрыемства.

Зусім зразумела, што ўсе пытаньні павінны вывучацца ў іх паступовым разьвіцьці, у іх дынаміцы і разам з тым у іх пэўнай залежнасьці і сувязі з цэлым шэрагам іншых экономічных і політычных зьяў, якія ў сваёй злучнасьці абумоўлівалі і абумоўліваюць жыцьцё прадпрыемства ўцэлым, як социяльна-экономічнай адзінкі.

Мы назвалі толькі паасобныя тэмы (сьпіс якіх можна было-б значна пашырыць), якія магчымы для вывучэньня на месцы сіламі краязнаўчых гурткоў на фабрыцы ці заводзе (пры некаторай, зразумела, падрыхтоўцы сяброў гуртка і належным кіраўніцтве гэтай працай). Пры конкрэтнай пастаноўцы тае ці іншае задачы патрэбна будзе дэталізацыя кожнае тэмы ў залежнасьці ад асаблівых умоў данага прадпрыемства.

Пасьля вывучэньня таго ці іншага пытаньня краязнаўчы гурток ня толькі фіксуе сваю працу ў адпаведных апісаньнях, табліцах, дыяграмах і г. д., але і складае пэўны плян зьнішчэньня заўважаных недахопаў, ненормальнасьцяй і палепшаньня справы, уносячы свае прапановы ў адпаведныя організацыі (культкамісію, вытворчую камісію, камісію па ахове працы і г. д.). Такім чынам краязнаўчая праца будзе ўвязвацца з працай іншых організацый, ставячы перад імі конкрэтныя заданьні і атрымоўваючы належны стымул для сваёй далейшай працы.

---

Я. Раманчук.

# Вывучэньне гісторыі мясцовага рэволюцыйнага руху.

Вывучэньне гісторыі мясцовага рэволюцыйнага руху — боўнейшая політычная задача, якая ня можа быць не заўважана краязнаўчымі організацыямі. Наша пролетарская рэволюцыя будзе прадметам асаблівай увагі і дасканалага вывучэньня шмат якіх пакаленьняў. І было-б зусім недапушчальна, калі-б мы, удзельнікі і сучасьнікі гэтай рэволюцыі, нічога не зрабілі-б, каб затрымаць зьніканьне тых каштоўнейшых крыніц дзеля гэтага вывучэньня, якія яшчэ могуць быць захованы, якія яшчэ не загінулі разам з іх жывымі насіцелямі.

Наша Комуністычная партыя зьяўляецца тэй партыяй, што мае найбольш багатую рэволюцыйную практыку, якой няма ў іншых компартый. Мы маглі-б гэты рэволюцыйны вопыт разгарнуць перад замежнымі рабочымі і перад компартыямі захаду. Але ці-ж мы гэта робім больш-менш здавальняюча? Мы да гэтых часоў мала зрабілі для таго, каб нашу рэволюцыйную практыку перанесьці на захад для скарыстаньня яе ў тых вялізных клясавых бойках, якія час ад часу выбухаюць і якія яшчэ ўперадзе ў заходня-эўропейскага пролетарыяту. У сувязі з новым пэрыодам нарастаньня міжнароднай пролетарскай рэволюцыі, у сувязі з пагрозай новай інтэрвэнцыі савецкаму саюзу, міжнароднае значэньне вывучэньня рэволюцыйнага руху набывае асаблівую войстрасьць і вагу.

Але ня менш важнай задачай у рабоце па вывучэньні мясцовага рэволюцыйнага руху зьяўляецца задача скарыстаньня нашага рэволюцыйнага мінулага дзеля рэволюцыйнага сучаснага, дзеля выхаваньня новых колаў рабочых і падрастаючай рабоча-сялянскай моладзі. Вывучэньне нашага рэволюцыйнага мінулага, гэроічных пэрыодаў і эпізодаў трох рэволюцый і гісторыі нашай партыі — гэта магутны сродак дзеля выхаваньньня з нашай моладзі рэволюцыйных барацьбітоў.

Настойлівая неабходнасьць вывучаць мясцовы рэволюцыйны рух выклікаецца нашай сучаснасьцю і з другога боку. Вывучэньне гісторыі рэволюцыйнага руху і гісторыі нашай партыі павінна мець сваёй мэтай ня толькі навуковае апісаньне і тлумачэньне тых альбо іншых гістарычных фактаў. Гэтае вывучэньне павінна даць ключ да разуменьня сучаснай запраўднасьці. „Марксызм — ня догма, а кіраўніцтва да зьдзяйсьненьня“. Мэтай марксыцкай гісторыі зьяўляецца ня толькі навуковае тлумачэньне грамадзкіх зьяў, але і паказаньне правільных шляхоў да зьмены социяльна-экономічных адносін, да завяршэньня социялістычнага будаўніцтва.

Сучасная барацьба Комуністычнай партыі (бальшавікоў) з рознымі ўхіламі ад Ленінскага шляху ў яе асяродзішчы выразна паказвае, што гэтыя ўхілы сваімі карэньнямі выходзяць з глыбіні гісторыі партыі, з яе старой барацьбы з дробна-буржуазнымі плынямі, якія прыкрываліся социялістычнай шыльдай. Вывучаць наша рэволюцыйнае мінулае патрэбна дзеля таго, каб дапамагаць рабочай клясе і яе авангарду, Комуністычнай партыі, у барацьбе ў сучасны пэрыод социялістычнай рэконструкцыі.

На вялікі жаль праца па зьбіраньні матар'ялаў з гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі яшчэ ня мае шырокага размаху. Пачатак гэтай рабоце ўжо паложаны Гістпартам ЦК КП(б)Б і Музэем Рэволюцыі БССР. Гістпартам выданы вялікай каштоўнасьці літаратурныя працы, якія характарызуюць асноўныя этапы гісторыі рэволюцыі і гісторыі бальшавіцкай партыі на Беларусі. Музэй рэволюцыі БССР таксама сабраў і экспанаваў некаторую частку матар'ялаў гэтага зьместу.

Але ўсім гэтым мы ні ў якім разе ня можам быць задаволены. Праца ў гэтым напрамку павінна быць значна пашырана. І тут нашы краязнаўчыя організацыі могуць і павінны дапамагчы Гістпарту ЦК КП(б)Б і Музэю Рэволюцыі БССР у зьбіраньні і першапачатковай апрацоўцы матар'ялаў па гісторыі мясцовага рэволюцыйнага руху.

Цяжка ўявіць сабе вывучэньне краю мінуючы гэроічныя эпізоды рэволюцыйнай барацьбы: сялянскія бунты, стачкі на фабрыках і заводах, падпольную партыйную работу, грамадзкія організацыі і шмат іншага, што падрыхтавала перамогу Кастрычніка і вызваленьне часткі Беларусі (у межах сучаснай БССР) ад социяльнага і нацыянальнага ўціску. Калі да гэтага часу краязнаўчыя організацыі зьвярталі мала ўвагі пытаньням вывучэньня гісторыі рэволюцыйнага руху, то, паміж іншым, тлумачыць гэта можна і тым, што ня было кіраўнічых паказаньняў, не распрацованы мэтоды, карыстаючыся якімі краязнаўчыя організацыі змаглі-б разгортваць работу па вывучэньні гісторыі рэволюцыйнага руху ў тэй ці іншай мясцовасьці. Гэтым артыкулам мы ставім некаторыя пытаньні *програмна-мэтодычнага* парадку не прэтэндуючы на поўнае іх вырашэньне.

Перш за ўсё аб *програме* зьбіраньня і вывучэньня рэволюцыйнага руху.

Па нашай думцы програма гэтае работы павінна складацца з наступных сямі вузлавых тэм: а) ад сялянскіх паўстаньняў 18 стагодзьдзя да зараджэньня соцыял-дэмократыі; б) ад зараджэньня соцыялдэмократыі да рэволюцыі 1905 году; в) рэволюцыя 1905 году; г) паміж дзьвюма рэволюцыямі (1905—1917 г.г.); д) Лютаўская і Кастрычнікавая рэволюцыі; е) грамадзянская вайна; ж) соцыялістычнае будаўніцтва. Гэтыя тэмы ахопліваюць усё рэволюцыйнае мінулае нашай краіны і яе сучаснае грамадзка-політычнае жыцьцё.

Якім-жа зьместам павінна запаўняцца кожная тэма паасобку?

а) *Ад сялянскіх паўстаньняў 18 стагодзьдзя да зараджэньня соцыял-дэмократыі*. Адносна гэтай тэмы нам могуць сказаць, „дзеля чаго вы бярэце такі далёкі пэрыод рэволюцыйнай гісторыі?“ У нізавых організацыях няма такіх гісторыкаў, якія маглі-б выконваць з посьпехам такую складаную навукова-дасьледчую працу. Нам гэта не пад сілу. На справе-ж гэта ня так. Не абавязкова, каб кожная краязнаўчая організацыя бралася адшукваць і вывучаць матар‘ялы якраз гэтага пэрыоду. Але-ж нам вядомы выпадкі, калі ў мясцовых архівах і ў паасобных старажылаў знаходзіліся матар‘ялы аб сялянскіх бунтох 17 і нават 16 стагодзьдзя. У некаторых мясцох захаваліся сьляды дзейнасьці дэкабрыстых: вядомы прозьвішчы іх і г. д. Зразумела, што ўсё гэта мае надзвычайна вялікую каштоўнасьць для складаньня гісторыі рэволюцыйнага руху. Затым да гэтага часу яшчэ ня досыць яскрава вывучаны такія гістарычныя падзеі, *як паўстаньне 1863 году*. У гэтай тэме павінны быць высьветлены такія асноўныя моманты: паўстаньне 1830 і 1863 г. г.; рэволюцыйнае народніцтва на Беларусі; партыя „Зямлі і Волі“ на Беларусі; рабочы рух 70—80 г. г. і „Народная Воля“.

б) *Ад зараджэньня соцыял-дэмократыі да рэволюцыі 1905 г.* Характэрным для гэтага пэрыоду матар‘ялам, які патрэбна зьбіраць, будзе: разьвіцьцё прамысловасьці (фабрыка, завод) і рост пролетарыяту. Забастовачны рух. Сьвяткаваньне 1 мая; як яно праводзілася ў тыя часы. Зубатаўшчына. Расійска-японская вайна і надыход рэволюцыі 1905 г. Існаваньне і работа яўрэйскага соцыял-дэмократычнага рабочага саюзу „Бунд“. Зараджэньне нацыяналізму ў яўрэйскім рабочым руху, формы і характар яго праяўленьня ў мясцовых організацыях „Бунду“ і Беларускай соцыялістычнай грамады. Іншыя рэволюцыйныя організацыі. Існаваньне і работа мясцовых організацый соцыял-дэмократычнай партыі Польшчы і Літвы і Польскай партыі соцыялістых (П.П.С.). Заснаваньне мясцовай організацыі бальшавікоў і характар яе дзейнасьці.

в) *Рэволюцыя 1905 году*. Пры высьвятленьні гэтае проблемы неабходна асабліва зьвярнуць увагу на наступныя моманты: ад 9 студзеня (крывавая нядзеля) да ўсеагульнай Кастрычнікавай забастоўкі. Аграрны рух у данай мясцовасьці. Кастрычнікаўскія дні 1905 г., як яны адбіліся ў данай мясцовасьці. Бальшавіцкія організацыі ў пэрыод рэволюцыі 1905 г. і іх работа. Ад Кастрычніка да сьнежня. Ад узброенага паўстаньня (сьнежань 1905 г.) да разгону II-й Дзяржаўнай Думы, як агульныя падзеі гэтага пэрыоду адбіліся ў данай мясцовасьці.

г) *Паміж дзьвюма рэволюцыямі (1907—1917 г.г.)*. Разгул урадавай рэакцыі ў данай мясцовасьці. Барацьба ўнутры РСДРП у гады рэакцыі, як яна адбівалася на працы мясцовай організацыі. Водгукі Ленскага растрэлу 1912 г. у данай мясцовасьці. Новы ўздым рэволю-

цыйнага руху 1912—1914 г. г.; формы яго праяўленьня. Аднаўленьне бальшавіцкіх партыйных організацый. Імпэрыялістычная вайна 1914—1917 г. г. і рэволюцыйны рух ваеннага часу ў данай мясцовасьці.

д) *Лютаўская і Кастрычнікаўская рэволюцыя на Беларусі і Заходнім фронце.* Зьбіраньне і вывучэньне матар'ялаў гэтага пэрыоду нам прадстаўляецца мэтазгодным праводзіць па наступных чатырох разьдзелах: 1) рухомыя сілы рэволюцыі, 2) організацыі, якія адыгралі рашучую ролю ў перамозе Кастрычнікавай рэволюцыі, 3) контр-рэволюцыйныя організацыі і 4) Лютаўская і Кастрычнікаўская рэволюцыя і нацыянальнае пытаньне. 1) *Рухомыя сілы рэволюцыі:* а) асаблівасьці экономікі данай мясцовасьці напярэдадні лютаўскай рэволюцыі, паміж лютым і кастрычнікам 1917 г. і ў часы захопу пролетарыятам дзяржаўнай улады. Становішча рабочых і сялянскіх мас за гэты-ж пэрыод у сувязі з крызісам народнай гаспадаркі; б) характар рабочага руху ў данай мясцовасьці (напярэдадні Лютаўскай рэволюцыі, у пэрыод паміж лютым і кастрычнікам і ў часы захопу ўлады мясцовымі саветамі). Водгукі падзей Пецярбургу і Масквы ў данай мясцовасьці. Экономічная і палітычная барацьба мясцовых рабочых мас (экономічны і палітычныя забастоўкі, дэмонстрацыі, узброеныя выступленьні, барацьба з часовым урадам, барацьба за мір, барацьба за рабочы контроль, захоп фабрык і інш.). Барацьба бальшавікоў з буржуазнымі і дробна-буржуазнымі партыямі за ўплыў на рабочыя масы. Бальшавізацыя рабочых мас. Роля рабочых мас у часы захопу ўлады і ў барацьбе з контр-рэволюцыяй; в) сялянскі рух у данай мясцовасьці напярэдадні лютаўскай рэволюцыі. Клясавая барацьба на вёсцы перад Лютаўскай рэволюцыяй і паміж лютым і кастрычнікам. Лютаўская рэволюцыя ў вёсцы, органы часовага ўраду. Сялянскі рух у данай мясцовасьці паміж лютым і кастрычнікам. Барацьба партый за ўплыў на сялянства. Барацьба за зямлю і мір. Кастрычнік на вёсцы. Роля вясковай беднаты, серадьнякоў і кулакоў; г) рэволюцыйны рух у арміі перад лютаўскай рэволюцыяй, у пэрыод паміж лютым і кастрычнікам і ў часы Кастрычнікаўскага перавароту. 2) *організацыі, якія адыгралі рашучую ролю ў перамозе Кастрычнікавай рэволюцыі ў данай мясцовасьці:* а) мясцовая партыйная організацыя бальшавікоў з часу імпэрыялістычнай вайны і канчаючы пэрыодам захопу ўлады пролетарыятам; б) узьнікненьне рабочых, сялянскіх, салдацкіх Саветаў на мясцох у 1917 г., агульная характарыстыка іх складу і работы. Барацьба партый у мясцовых саветах (бальшавікі, меншавікі, „Бунд“, эс-эры ды інш.) і бальшавізацыя саветаў; в) гісторыя ваеннай організацыі, яе сувязь з мясцовай партыйнай організацыяй і яе работа сярод мясцовага гарнізону; г) гісторыя рабочай чырвонай гвардыі ў данай мясцовасьці. Яе роля ў часы Кастрычніка і на франтох грамадзянскай вайны; д) профсаюзы і іх роля ў рэволюцыі. 3) *Контр-рэволюцыйныя організацыі ў данай мясцовасьці:* а) палітычныя партыі контр-рэволюцыйных колаў насельніцтва ў данай мясцовасьці напярэдадні Кастычнікавай рэволюцыі; б) органы часовага ўраду на мясцох. Адносіны да часовага ўраду ў розных колаў насельніцтва; в) баявыя сілы контр-рэволюцыі. Узброенае супроцьдзеяньне контр-рэволюцыі і саботаж у часы захопу ўлады Саветамі на мясцох. 4) *Лютаўская і Кастрычнікаўская рэволюцыя і нацыянальнае пытаньне ў данай мясцовасьці;* а) нацыянальны склад насельніцтва і нацыянальныя супярэчнасьці ў данай мясцовасьці. Рэволюцыйныя і контр-рэволюцыйныя элемэнты сярод паасобных нацыянальнасьцяй; б) адбітак нацыянальнай

політыкі царызму ў данай мясцовасьці напярэдадні лютаўскай рэволюцыі. Нацыянальная політыка часовага ўраду; в) барацьба прыгнечаных нацыянальнасьцяй за сваё вызваленьне перад Кастрычнікавай рэволюцыяй і ў часы яе. Нацыянальна-рэволюцюйныя партыі і іх дзейнасьць; г) супраціўленьне нацыянальнай контр-рэволюцыі Кастрычнікаўскаму перавароту. Форма ліквідацыі гэтага супраціўленьня. Асабліва трэба падкрэсьліць, што пры зьбіраньні матар'ялаў, зьвязаных з пытаньнем аб нацыянальным руху, неабходна *строга праводзіць розьніцу* паміж нацыянальна-рэволюцыйным і нацыяналістычным контр-рэволюцыйным рухам, ня зьмешваючы іх пры апісаньні тых альбо іншых падзей.

*е) Грамадзянская вайна.* Буйнейшыя падзеі грамадзянскай вайны (першы Ўсебеларускі Конгрэс 14. XII. 1917—25. II. 1918 і дзейнасьць яго Рады). Нямецкая окупацыя. Вызваленьне Беларусі ад нямецкай окупацыі і аднаўленьне савецкай улады. Белапольская окупацыя і падпольная рэволюцыйная барацьба (партызаншчына). Вызваленьне Беларусі ад белапалякаў. Барацьба з політычным бандытызмам на Беларусі (Булак-Балаховіч, Савінкаў ды іншыя). Дзейнасьць мясцовай організацыі бальшавікоў, яе выдатнейшыя ўдзельнікі, героі і ахвяры. Формы ваеннага комунізму ў данай мясцовасьці.

*ж) Социялістычнае будаўніцтва* (партыя, профсаюзы, саветы, комсамол). Важнейшымі момантамі социялістычнага будаўніцтва, якія патрэбна вывучыць у тэй ці іншай мясцовасьці — будуць: нацыяналізацыя і аднаўленьне прамысловасьці, уздым сельскай гаспадаркі, рост коопэрацыі, ажыцьцяўленьне нацыянальнай політыкі, культурнае будаўніцтва, разьвіцьцё мясцовых партыйных, комсамольскіх і піонэрскіх організацый, уцягненьне працоўных жанчын у грамадзка-політычную работу.

Вось якой у агульных рысах павінна быць програма зьбіраньня матар'ялаў па гісторыі рэволюцыйнага руху. Пры зьбіраньні і вывучэньні матар'ялаў неабходна кіравацца тым, каб на першым пляне былі ўчынкі *рабочых і сялянскіх мас,* падкрэсьліваючы *кіраўнічую ролю пролетарыяту* і значэньне яго політычнага саюзу з сялянствам. Разам з тым неабходна высьветліць *значэньне кіраўнічага пролетарскага авангарду—УсеКП(б).* Масы і партыя павінны быць прадстаўлены ў процэсе неперарыўнай барацьбы, у абставінах вострых клясавых сутычак, ва ўмовах конкрэтнай социяльна-экономічнай сытуацыі. У выніку такога падбору матар'ялаў кожны, хто захоча і будзе знаёміцца з гісторыяй рэволюцыйнага руху, павінен упэўніцца ў закономернасьці Кастрычнікавай рэволюцыі і яскрава ўявіць яе прадпасыкі, асноўныя этапы і дасягненьні.

Пры практычным разгортваньні работы па вывучэньні мясцовага рэволюцыйнага руху, акрамя програмы, паўстае яшчэ цэлы шэраг практычных пытаньняў і адным з першых — гэта пытаньне аб *крыніцах* накапленьня матар'ялаў, *характару* гэтых матар'ялаў і *спосабах іх афармленьня.*

Відавочна, што асноўнай крыніцай, адкуль прыдзецца браць матар'ялы для вывучэньня гісторыі рэволюцыйнага руху, будуць архівы фабрык, заводаў, тых альбо іншых установаў і організацый, раённыя і акруговыя дзяржаўныя архівы. Які-ж гэта можа быць матар'ял, характар яго, якім трэба будзе карыстацца? Гэта будуць рукапісныя і друкаваныя докумэнты эпохі — протоколы сходаў, конфэрэнцый, пленумаў партыйных, порфсаюзных і іншых рэволюцыйных організацый, рэзолю-

цыі, лісты, запіскі, лістоўкі, лёзунгі, пляны, проклямацыі, плякаты, газэты, кнігі, брошуры.

Акрамя таго можна ўмела скарыстаць матар‘ялы, якія знаходзяцца на руках у непасрэдных актыўных удзельнікаў і сьведак рэволюцыйнага руху і грамадзянскай вайны (асабовыя ахівы і перапіска актыўных членаў партыі, успаміны і інш.).

Матар‘яламі і докумэнтамі аб масавым рабочым і сялянскім руху і жыцьці нацыянальнасьцяй могуць быць: протоколы і матар‘ялы саветаў, рэвкомаў, профсаюзаў, заканадаўчыя акты ўраду, рэзолюцыі, адозвы, статыстычныя матар‘ялы і г. д.

Для высьвятленьня барацьбы з контр-рэволюцыяй могуць быць скарыстаны офіцыйныя матар‘ялы і докумэнты белагвардзейскіх урадаў і іх органаў; матар‘ялы і газэты буржуазных і дробна-буржуазных партый. Дзеля асьвятленьня фактаў і падзей дорэволюцыйных часоў можна скарыстаць матар‘ялы жандарскіх і ахранных аддзяленьняў, архівы губарнатараў, земскіх і гарадзкіх упраў, зямельных камісій, фабрык, заводаў (аб чым мы ўжо казалі).

Але побач са зьбіраньнем гатовых матар‘ялаў трэба загадзя організаваць індывідуальныя і колектыўныя апытаньні актыўных удзельнікаў рэволюцыйнага руху таго альбо іншага пэрыоду (організацыя вечароў успамінаў, запаўненьне асобных апытальнікаў).

Сабраўшы некаторы матар‘ял паўстае пытаньне аб яго афармленьні.

Афармленьне сабраных матар‘ялаў і докумэнтаў можа быць двякае: — *папершае* — пярвічная абработка ў раённай ці акруговай краязнаўчай організацыі колектыўна групай таварышоў і напісаньне мэмуараў для *апублікаваньня ў* часопісах *„Наш Край“* і *„Бальшавік Беларусі“; падругое — дасылка* сырых матар‘ялаў непасрэдна *ў Музэй Рэволюцыі* БССР (Менск, вул. Урыцкага д. 4), дзеля іх навуковай апрацоўкі і адпаведнага скарыстаньня. Для Музэю Рэволюцыі асабліва каштоўнымі будуць *аўтэнтычныя матар‘ялы* рэволюцыйнага часу: а) матар‘яльныя рэліквіі (зброя, сьцягі, падпольныя варштаты, уласныя рэчы рэволюцыянэраў і г. д.); б) фотоздымкі рэволюцыйных падзей, рэволюцыйных помнікаў (памяшканьні, гарадзкія вуліцы і г. д.) і рэволюцыйных дзеячоў; в) рукапісных і друкаваных дакумэнтаў протоколаў, рэзолюцый, лістоў, запісак, плякатаў, лістовак, проклямацый і інш.).

Увесь сабраны матар‘ял павінен быць дакладна правераны з пункту погляду запраўднасьці зьместу. Асноўнай крыніцай пры ўстанаўленьні фактаў і апісаньні падзей зьяўляюцца бязумоўна офіцыйныя докумэнты. У тых выпадках, калі матар‘ялы бяруцца з неофіцыйных крыніц, усе факты павінны быць дасканала правераны офіцыйнымі докумэнтамі альбо паказаньнямі ўдзельнікаў і б. наглядальнікаў высьвятляемых падзей, данымі ўспамінаў, лістоў і г. д., якімі ў сваю чаргу таксама трэба карыстацца крытычна. Ні ў якім разе нельга дапускаць пісаньня гісторыі рэволюцыйнага руху па контр-рэволюцыйных матар‘ялах. Скарыстаць іх можна, але з надвычайнай асьцярожнасьцю. Усе весткі і факты, здабытыя гэткім шляхам, павінны быць строга правераны шляхам супастаўленьняў з нашымі газэтамі, матар‘яламі, успамінамі сяброў партыі і іншымі выверанымі крыніцамі.

Мы добра ведаем, якія труднасьці сустракаюць нас на шляху організацыі гэтае справы. Без дастатковых сродкаў, без прыцягненьня ўвагі мясцовых кіраўнічых організацый і мобілізацыі актыўнасьці шы-

рокіх працоўных мас насельніцтва, без уцягненьня ў работу непасрэдных удзельнікаў і жывых сьведак рэволюцыйнага руху нам з выкананьнем гэтай задачы ня справіцца. Калі мы не сумняваемся ў посьпехах гэтай справы, то перш за ўсё таму, што цалкам разьлічваем на падтрыманьне і кіраўнічую дапамогу з боку мясцовых партыйных організацый, а таксама на падтрыманьне і ўдзел шырокіх колаў савецкай грамадзкасьці.

---

Ів. Т. Шпілеўскі і Л. А. Бабровіч.

# Сынхроністычная табліца падзей паўстаньня на Беларусі, Літве і Польшчы ў 1830-1831 г.г.[1]).

Вывучэньне агульнавядомых друкаваных прац аб паўстаньні 1830-1831 гг. навяло аўтараў на думку выканаць гэтую працу, якой зьяўляецца „сынхроністычная табліца падзей паўстаньня на Беларусі, Літве і Польшчы 1830-1831 г.г.“ Мажліва, што архіўныя крыніцы дадуць пэўныя падставы для шэрагу паправак, зьмен і дадаткаў да табліцы. Але мэтазгоднасьць гэтае працы не парушаецца, паколькі застаецца ініцыятыва аўтараў вылучыць падзеі на Беларусі і Літве побач з польскімі, і паколькі імі апрацоўваецца гісторыя паўстаньня з пункту гледжаньня, галоўным чынам, вайсковых дзеяў.

Аўтарамі выкарыстаны ніжэйадзначаныя друкаваныя працы і паводле іх чарговага нумару зроблены цытаты для кожнай падзеі (пасьля коскі даецца для твораў чарговы нумар рымскімі цыфрамі, а старонка арабскімі).

Каля кожнай падзеі даецца першая лічба — парадку падзей, а другая—чысло месяца, у якім здарылася падзея.

1. Будкевич, прелат. Воспоминания. „Польское возстание 1831 г., Перевод с польского. „Русская Старина“ 1878 г., кн. VIII, стр. 591—616.

2. Валицкий. Приезд польского депутата к цесаревичу Константину Павловичу 24-25/XI 1830 г. Перевод Н. П. Бортинкова. „Русская Старина“ 1878 г., кн. I, стр. 29—41.

3. Варун-Секрет. Воспоминания. Война 1826—1831 гг. „Русская Старина“ 1879 г., кн. V стр. 159—172.

4. Война с польскими мятежниками в 1831 году. Переписка императора Николая I с гр. Дибичем-Забалканским. „Русская Старина“. 1884 г. кн. I, стр. 93—123, кн. II, стр. 381—401, кн. VII, стр. 149—157, кн. VIII, стр. 331—341, кн. IX, стр. 529—545; 1885 г., кн. IV, стр. 107—125, кн. V, стр. 281—309, кн. VI, стр. 511—531, кн. VII, стр. 45—61, кн. VIII, стр. 239—255, кн. IX, стр. 411 і 429; 1886 г., кн. III, стр. 539—549.

---

[1]) Табліца зьмяшчаецца як орыентовачны матар‘ял для распрацоўкі гісторыі паўстаньня на мясцох.

Рэдакцыя.

5. Грабеньский В. История польского народа, выд. 1910 г.

6. Давыдов Д. В. Записки о польской войне 1831 г. „Русская Старина" за 1870 г. кн. VI i X, стр.

7. Dangel Stanisław. Rok 1831 w Minszczyźnie. Warszawa 1925 r. st. 189.

8. Евгений Виртемберский, записки. Польское возстание в 1830 г. „Русская Старина" 1880 г. кн. IX, стр. 50—56.

9. Зеланд А. Л. Воспоминания о польском возстании и войне 1830-1831 гг. „Русская Старина" 1892 г. кн. IX, стр. 503—533, кн. X, стр. 81—114, кн. XI, стр. 315—361, кн. XII, стр. 497—528.

10. Galler E. Bitwy i potyczki stoczone przez wojsko polskie w roku 1831. Poznań 1887 r. st. VI+418.

11. Карпович Е. П. Цесаревич Константин Павлович 1779—1831 г.г. „Русская Старина" 1878 г. кн. I, стр. 1—29, кн. II, стр. 237—265, кн. III, стр. 367—385.

12. Колачковский Клементий. Из воспоминаний генерала. Wspomnienia jenerala Klemensa Kołaczkowskiego. W Krakowie 1900 r. Польша в 1814—1831 г.г. „Русская Старина" 1902 г. кн. III, стр. 623—640, кн. V, стр. 409—438, кн. VI, стр. 553—574.

13. Колзаков К. П. Воспоминания о 1815—1831 гг. Перед Взрывом. „Русская Старина" 1873 г. кн. V стр. 587—615.

14. Лишин Андрей Федорович „Воспоминания 1830-1831 г.г.", „Русская Старина" 1890 г., кн. III, ст. 713—743.

15. Мохнацкий. Польское возстание в 1830-1831 г.г. „Русская Старина" 1884 г., кн. VII, стр. 157—203, кн. VIII, стр. 341—363, кн. IX, стр. 545—567, 1890 г., кн. III, стр. 681—713; 1891 г., кн. II, стр. 281—303, кн. III, стр. 537—546.

16. Петров А. П. Воспоминания 17/XI 1830 г. в Варшаве „Русская Старина" 1883 г., кн. X, стр. 99—111.

17. Пузыревский. Русско-польская война в 1831 году. Изд. 2, т. I. СПБ. 1890 г., стр. X+440+IX.

18. Пузыревский. Русско-польская война в 1831 году изд. 2 т. II. СПБ. 1890 г., стр. VII+195.

19. Россия и Польша в 1798—1831 г.г. Письма. „Русская Старина" 1882 г., кн. IV, стр. 241—277.

20. Смит Ф. История польского возстания и войны 1830-1831 г.г. Перевод с немецкого гвардии штабс-капитан Квинтицкий, т. I, стр. XI+497. Изд. 1863 г.

21. Смит Ф. История польского возстания и войны 1830-1831 гг. Перевод с немецкого гвардии штабс-капитан Квинтицкого т. II, стр. VIII+496. Изд. 63 г.

22. Смит Ф. История польского возстания и войны 1830-1831 гг. Перевод с немецкого гвардии штабс-капитан Квинтицкого т. III стр. IX+766, изд. 1864 г.

23. Шильдер Н. К. Император Николай I и Польша в 1825—1831 г.г. „Русская Старина" 1900 г., кн. III, стр. 1—27, кн. IV, стр. 51—69, кн. V, стр. 237—259, кн. VI стр. 477—504, кн. VII, стр. 1—32, кн. VIII, стр. 226—264.

## 1807—1815.

| Польшча. | Беларусь і Літва. |
|---|---|
| | *1807 год.* |
| 1. Наполеон пры заключэньні Тыльзіцкага трактату палажыў пачатак аднаўленьня Польшчы. З провінцый, аднятых ад Прусіі, ён заснаваў так званае Варшаўскае герцагства і падначаліў яго вярхоўнай уладзе караля Саксонскага (XX-2). | 1. У гэты-ж час, жадаючы пасварыць Расію з Прусіяй, Наполеон аддзяліў з ліку гэтых провінцый Беластоцкую краіну і аддаў яе Расіі (XX-2). |
| | *1809 год.* |
| 2. Венскім трактатам Наполеон павялічыў Варшаўскае герцагства дялучэньнем да яго большай часткі зямель, адышоўшых раней ад Польшчы да Аўстрыі (XX-3). | 2. Палякі стараліся абурыць сваіх Літоўскіх землякоў супроць рускага цара і перацягнуць іх на свой бок. Між тым цар Аляксандар прыехаў у Вільню (XX-4). Большасьць літоўскага дваранства спачувала Наполеону ў ранейшую кампанію, цяпер яно ўбачыла сябе пакінутым сваімі былымі саюзьнікамі палякамі і аддадзеным на помсту расійскаму ўраду. З гэтай прычыны яны прасілі цара аб памілаваньні і апошні „вялікадушна“ абяцаў ім памілаваньне (XX-3). |
| | *1815 год. Люты.* |
| 3. На Венскім конгрэсе адбылася канчатковая згода паміж дзяржавамі аб Польшчы, паводле якой Варшаўскае герцагства было далучана да расійскай імпэрыі і цар абяцаўся даць Польшчы конституцыю, прыняўшы тытул „цара польскага“ (XX-8-II). Для складаньня конституцыі, з польскіх дзяржаўных дзеячоў, пад старшынствам Астроўскага і членаў: Матушэвіча, Ст. Замойскага, Лінэўскага і Грабоўскага, была складзена камісія (XX-17). | |
| | *Сьнежань.* |
| 4. У дзень нараджэньня цара конституцыя была абнародавана і быў прызначаны | 4. Гэтая конституцыя не пашыралася на Літву, чым незадаволеньне літоўцаў яшчэ больш павялічылася (XX-84). |

## 1815 — 1825.

**Польшча.**

намесьнікам рэспубліканец генэрал Заёнчык (XX-17). Шэсьць міністраў пад старшынствам намесьніка ўтваралі „савет кіраўніцтва царствам“. Як запраўдны член міністэрства, быў прызначаны ад рускага ўраду тайны саветнік Навасільцаў з тытулам „упаўнаважанага імпэратарскага камісара“. Вялікі князь Канстантын Паўлавіч ня прымаў ніякага ўдзелу ў кіраўніцтве царствам, а знахадзіўся толькі на чале польскай арміі (XX-23).

**Беларусь і Літва.**

*1818 год. Май.*

5. 27. Цар Аляксандар асабіста адчыніў першы польскі сойм (XX-27).

5. З усёй расійскай арміі былі абраны палякі і літоўцы, ураджэнцы Польшчы, Літвы і Беларусі, для організацыі асобнага літоўскага корпусу. У гэтыя часы ў Вільні, Гародні, Расіенах і іншых гарадох Літвы і Беларусі ўтварылася многа масонскіх лёж. У Вільні нават была ўтворана масонская жаночая лёжа, у якую ўступілі „знатныя дамы“ гораду. Галоўным магістрам віленскай лёжы быў Іосіф Гарэцкі. З цягам часу масонскія лёжы прынялі назву патрыётаў (XX-85).

*1820 год. Верасень.*

6. 1. Адчыніліся пасяджэньні новага сойму. Гэты сойм канчаткова парушыў добрыя адносіны паміж царом і яго польскімі падданымі (XX-35).

6. Па загаду намесьніка забаронены ўсе тайныя таварыствы.

*1825 год. Май.*

7. 13. Пачаў працу трэці сойм Польшчы. (XX-39). У гэты час з прызнаньняў некаторых дэкабрыстаў было ўстаноўлена, што яны мелі сувязь з тайнымі таварыствамі ў Польшчы, якія мелі на мэ-

7. Беларусь і Літва ўваходзілі ў склад аднэй провінцыі. Заснавальнікамі тут патрыётычнага таварыства былі: Гружэўскі, Солтан, Зан і Белазор. Было організавана таварыства літоўскіх праменістых з цэнтрам у Вільні (XX-48). На конфэрэнцыях гэтых т-ваў было па-

## 1825—1830.

### Польшча.

це аднаўленьне ранейшай польскай дзяржавы. Гэта т-ва з цягам часу прыняло назву „патрыётаў“. Яно падзялялася на шэсьць провінцый, апошнія — на акругі і абшчыны. Такім чынам, гэтая сэтка пашыралася па ўсім ранейшым польскім каралеўстве.

8. Справы аб тайных таварыствах былі перададзены Сэнату, які пад кіраўніцтвам сэнатара Пятра Бялінскага, пасьля разгляду справы, вызваліў абвінавачаных (XX-59, 60).

### Беларусь і Літва.

станоўлена: зьвярнуць увагу на настрой моладзі ў школах, здабываць весткі аб тайных т-вах у Курляндыі, Прусіі і Расіі, даведацца, якія запасы зброі ў Віленскім арсэналі і вясьці працу за павялічэньне ліку членаў т-ва. Заснаваньне патрыётычнага т-ва адносіцца да часу працы т. з. доўгага сойму 1788—1892 г. г. (XX-47).

*1828 год.*

*1830 год. Лістапад.*

### Польшча.

9. 28.—Паўстаньне ў Варшаве школы прапаршчыкаў з Высоцкім на чале і напад студэнтаў на Бэльвэдэр (памяшканьне князя Канстантына) (XX-103—132). Рускія палкі пакінулі горад і разьмясьціліся ў Макатове. В. кн. перанёс сваю галоўную кватэру ў Вержбу, тры вярсты ад гарадзкой заставы.

10. 29—Галоўным начальнікам войска паўстанцаў адміністрацыйны савет прызначыў Хлапіцкага, які каманду над войскам прыняў з умоваю „камандаваць імі ад імя цара“. Любецкі і Хлапіцкі не хацелі адрывацца ад Расіі. У гэты-ж дзень для кіраваньня грамадзкай думкай, пад старшынствам Лелевэля, быў утвораны камітэт (клюб патрыётаў) для кіраваньня грамадзкай думкай, які не хацеў і слухаць аб прымірэньні з Расіяй, пакуль Польшча ня будзе ў межах 1772 г. (XX-168,9).

### Беларусь і Літва.

9. Польскае насельніцтва Літвы і Беларусі пачало хвалявацца і рыхтавацца да паўстаньня. Галоўным эмісарам у Вільні быў Вікенці Поль. Ён завербаваў студэнтаў Ад. Панятоўскага, Ігната Янкоўскага, Юльяна Гросса, Жаброўскага, Будрэвіча. Організаваны саюз з некалькіх сот моладзі розных соцыяльных груп. Ваенным губарнатарам у гэты час у Вільні быў Рымскі-Карсакоў, але-ж скора яго зьмяніў Храпавіцкі (VII-110—120).

1830.

**Польшча.**

11. 3—В. к. Канстантын Паўлавіч выехаў у Расію (XX-180).

12. 5—Хлапіцкі аб'явіў сябе дыктатарам (XX-197) і выступіў супроць Лелевэля і яго організацыі. Рэволюцыя пашырылася на ўсю країну (XX-193). Хлапіцкі ня верыў, што здабудзе волю і нават ня верыў у далучэньне да каралеўства Літвы, Беларусі і Украіны і пачаў зноў весьці перамаўленьне з царскім урадам, дзеля чаго выслаў князя Любецкага і Іонна Язерскага ў Пецярбург (XX-194). Рэволюцыйная партыя настайвала, каб зрабіць напад на вялікага князя пакуль ён знаходзіўся яшчэ ў межах Польшчы, а цяпер патрабавала нападу на літоўскія провінцыі, каб падняць іх на паўстаньне (XX-195, XV-546).

**Беларусь і Літва.**

*Сьнежань.*

11. 3. Праяжджаючаму праз Вільню галоўнакамандуючаму расійскімі вайскамі Дзібічу віленскія дваране паднесьлі адрэс (XXI-115).

12. 5. Асабліва настойваў на пасылцы людзей на Літву і Беларусь Лелевэль, які меў тут вялікія знаёмствы. Апроч таго Лелевэль меў намер скарыстаць літоўскі корпус, які складаўся з мясцовых ураджэнцаў, чым палягчалася, па яго думцы, падняцьце тут паўстаньня.

13. 10—Генэрал Розэн, камандзір літоўскага корпусу, атрымаў загад ад царскага ўраду выступіць супроць паўстанцаў не раней, як пасьля далучэньня першага пяхотнага корпусу. Мураўёў быў прысланы ўрадам у літоўскі корпус з 24 гвардзейскімі афіцэрамі для замены ненадзейных афіцэраў у гэтым корпусе, асабліва ў яго грэнадзерскай брыгадзе (XX-213).

14. 12—Генэрал Розэн атрымаў загад, у выпадку нападу на яго вялікіх сіл паўстанцаў, адступіць на Горадню да злучэньня з корпусам гр. Палена (XX-213).

15. 13—Сформавана асобная армія (у складзе трох пяхотных і двух кавалерыйскіх корпусаў) пад кіраўніцтвам гр. Дзібіча-Забалканскага. Да яе далу-

## 1830.

### Польшча.

16. 17 — Адозва расійскага ўраду да палякаў аб памілаваньні пры ўмове: „вызваліць палонных, аднавіць Адміністрацыйны Сойм 1826 г., польскаму войску сабрацца ў Плоцк, здаць зброю і г. д.“ (XX-214).

17. 18 — Самаўласна, без царскага дазволу, адчыніўся першы Сойм пад кіраўніцтвам маршалка Астроўскага. Сойм прызнаў паўстаньне народным. Хлапіцкі склаў з сябе дыктатуру (XX-203,4).

18. 20 — На пасяджэньні Сойму 108 галасоў былі пададзены за працяг дыктатуры Хлапіцкага на неакрэсьлены час, супроць аднаго голасу Феофіла Мораўскага (XX-207). Пасьля гэтага Сойм быў распушчаны. Нагляд за дзейнасьцю дыктатара ўзложаны на Чартарыскага (прэзыдэнт), кн. М. Радзівіла, Ал. Глішчынскага, Міх. Кахалоўскага, М. Водчынскага і генэрала Люд. Паца. Была складзена камісія для распрацоўкі маніфэсту аб пачатку паўстаньня, у якую ўвайшоў і Лелевэль (XX-208,9, XV-539).

19. 21—Хлапіцкі паслаў у Пецярбург свайго ад'ютанта падпалкоўніка Вілежынскага з пастановамі абедзьвюх камер, у якіх было абвешчана, што рэволюцыя зьяўляецца нацыянальнаю (XX-252).

### Беларусь і Літва.

чаўся і гвардзейскі корпус. Прымежныя з Польшчай губэрніі: Віленская, Горадзенская, Менская, Валынская, Падольская і Беласточчына — былі абвешчаны на ваенным палажэньні і падпарадкаваны Дзібічу. Яго галоўная кватэра ў Горадні (XX-213).

## 1830-1831.

**Польшча.**

**Беларусь і Літва.**

20. 24. Галоўнакамандуючы Дзібіч з Дынабургу даносіць цару, што ў Вільні і ўва ўсёй Літве і Беларусі не заўважваецца ніякіх адзнак паўстаньня (IV-94).

*1831 год. Студзень.*

21. 13 — Паводле даносу артылерыйскага палкоўніка Дабржанскага былі заарыштаваны, як загаворшчыкі супроць дыктатара Хлапіцкага: Лелевэль, Ксав. Бранікоўскі і Бал. Астроўскі. Праз некалькі гадзін пасьля арышту, пад націскам моладзі і нават пачэснай гвардыі, заарыштаваныя былі Хлапіцкім выпушчаны (XX-250).

22. 15—Заснаваньне нацыянальнай гвардыі (XX-251).

23. 16—На паседжаньні Нацыянальнага Савету Хлапіцкі атрымаў адстаўку (XX-256).

23. 16 — Весткі аб пашырэньні на Беларусі і Літве проклямацый.

Цяга да Варшавы шляхты з Беларусі і Літвы. Шляхта патрабуе дазволу ўтварыць свой асобны легіён.

Утварэньне літоўскага легіёну (XX-75. XVII-162).

24. 19—Пачаў працу польскі Сойм (XX-258). Сойм прыступіў да выбараў галоўнакамандуючага. Абраны князь Радзівіл (V-480. XX-261).

25. 20 — На паседжаньні Сойму, паводле пропозыцыі рэволюцыйнай партыі, Раман Салтык унёс прапанову „абвясьціць расійскі царскі дом пазбаўленым польскага прэстолу“ (XX-264).

25. 20 — Дзібіч даносіць цару, што на Літве спакойна і ён там пакінуў толькі адну брыгаду ў Вільні (IV-385).

26. 22 — На трэцім паседжаньні Сойму ўнесеная Салтыком прапанова большасьцю галасоў, 95 супроць 12, была прынята. Камера дэпутатаў

1831.

**Польшча.**

была ператворана ў Конвэнт, зацьверджаны Сэнатам (XX-266).

27. 24—Лелевэль стаў на чале дэпутацыі „Соединенных братьев“. Пастанова камеры, што ў польскай арміі павінны быць два легіёны, адзін з жыхароў Літвы, Самагітыі і Беларусі, а другі—Валыні, Падольі і Украіны (XX-281).

28. 25—На пасяджэньні Сойму канчаткова зацьверджана пастанова, якая аб‘яўшчае, што польскі прастол стаў вольным (V-481, XX-269). Таварыства патрыётаў у Варшаве пад кіраўніцтвам Лелевэля зрабіла маніфэстацыю ў гонар дэкабрыстых, як мучальнікаў свабоды (V-499).

29. 29—Зацьвержан Rząd Narodowy з 5 асоб: прэзыдэнт кн. Чартарыскі, члены: Вік. Немаеўскі, Феаф. Мараўскі, Бардзікоўскі і Лелевэль (V-481, XX-283).

**Беларусь і Літва.**

*Люты.*

30. 1—Галоўнакамандуючы рускім войскам перанёс сваю галоўнаю кватэру з Горадні ў Беласток і данёс цару, што ў першым корпусе былі не парадкі (IV-337).

31. 5-6—Рускае войска, накіраванае супроць паўстанцаў, перайшло мяжу Польшчы. Насельніцтва вёсак і мястэчак пахавалася па лясох. Войску падкідалі значкі з надпісам: „за вашу и нашу свободу“ (IX-530, XX-335).

32. 11-12—Рускае войска перайшло праз рэчку Буг каля Брока і Нура (XX-338).

## 1831.

### Польшча.

33. 14—Першая сутычка рускіх з паўстанцамі ў м. Ліўы і Сточака. Дзьвярніцкі разьбіў рускі корпус Гейсмара (XX-348, XVII-82).

34. 17—Бойка ў в. Допры. Скрынецкі вытрымлівае корпус Розэна (XX-348, XVII-82).

35. 19—Бойка паўстанцаў з расійцамі пры Ваўры (XX-373, XVII-88).

36. 24—Бойка паўстанцаў з расійцамі пад Белалэнкай (XX-388,XVII-96).

37. 25—Бойка пры Грохаве (XX-400—438, XVII-101). Пасьля Грохаўскай бойкі ў Варшаве па прапанове Лелевэля заснавана аддзяленьне руска-літоўскага таварыства. Арганізаваны сход ваеннага савету па прапанове гэтага-ж аддзяленьня.

38. 27—Галоўнакамандваньне паўстаўшым польскім войскам, па пастанове Сойму, перайшло ад Радзівіла да Скржынецкага (XVII-113). Дзьвярніцкі атрымаў загад ісьці з сваім корпусам на Валынь і Літву для падняцьця і падтрыманьня там паўстаньня, а пры немагчымасьці туды прайсьці, пайсьці на перарэз няпрыяцельскіх зносін (XX-475, XVII-127).

39. 28—Польскае войска пад кіраўніцтвам генэрала Рыбінскага вышла з Варшавы супроць Гейсмара і ў другой бойцы пры Ваўры зноў разьбіла яго. У гэты-ж час быў разьбіты і корпус Розэна пад

### Беларусь і Літва.

34. 17—Недавер'е да літоўскага корпусу ў расійскай арміі. Жаўнеры з гэтага корпусу здаюцца паўстанцам цэлымі палкамі і батальёнамі (XXI-40).

35. 19—Віленскі гарнізон складаецца з аднэй брыгады (5 дывізій) у 3200 чалавек. Гарнізоны іншых гарадоў Беларусі і Літвы яшчэ меншыя (XXI-116).

1831.

**Польшча.**

Вялікім Дубам. Яго корпус з літоўцаў з жоўтымі каўнерамі, замест чырвоных каўнераў у рускіх, здаваўся палякам цэлымі палкамі(XVII-144, XXI-41).

42. 28— Бэрнацкі ўнёс у Сойм закон аб вызваленьні і надзяленьні зямлёю сялян тольскі тых, якія жывуць у дзяржаўных нацыянальных маёнтках. На малым Сойме і камісіі прыняты (XXI-101).

**Беларусь і Літва.**

*Сакавік.*

40. 26—Літва паўстала.

41. 27—Пад кіраўніцтвам Дабраслава Каліноўскага, Сухаржэўскага і Ю. Гружэўскага паўстанцы занялі Расіены. Пасьля гэтага другі атрад з сялян пад камандаю Стравінскага заняў Юрбург (50 вёрст ад Расіен) (XXI-120-121, XVII-163).

41. 27—Сірэвіч з атрадам паўстанцаў заняў Тэльшы і ў Ворнях арганізаваў фабрыку зброі (XXI-122, XVII-163).

42. 28 —Канстантын Херубовіч, Шэмет, Станіслаў Тышкевіч і Адольф Пшэдэцкі сабралі сваіх людзей і занялі Шаўлі. Расійскі гарнізон здаў зброю. У гэты дзень Мацкевіч з коньнікамі адбіў рускі транспорт зброі, які ішоў у Мітаву (XXI-123). З Коўны выступіў з атрадам палкоўнік Барталамей для ўсьмірэньня паўстанцаў. Разам з Шаўлямі паўсталі Упіцкі і Панявескі паветы пад кіраўніцтвам Казіміра Трускоўскага (XXI-126, XVII-163).

43. 30—Расійскі атрад Барталамея заняў Расіены (X-235).

Пад Плімзбургам атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам Станевіча быў разьбіты расійскім атрадам палкоўніка Барталамея (XVII-163).У гэты дзень паўстанцамі (130 ч.), пад кіраўніцтвам Гаштоўта, заняты Бейсаголы і мясцовы склад зброі.

Пад кіраўніцтвам Трускоўскага і Пшэцішэўскага паўстанцы занялі Панявеж.

Каля Дусят Цэзар Плятэр з сястрою Эміліяй пачаў зьбіраць атрад паўстанцаў і далучыўся да паўстанчых атрадаў у ваколіцах Анікшт.

## 1831.

### Польшча.

44. 2—У польскай і расійскай арміях зьявілася халера. Бойкі на некаторы час спынены (XXI-151 і 153, XVII-217).

49. 10 — Атрад Дзьвярніцкага перайшоў рэчку Буг паміж Крыловым і Літовіжам (XXI-155, XVII-180).

### Беларусь і Літва.

*Красавік.*

44. 2—Атрадам паўстанцаў пад кіраўніцтвам Маўрыка Прозара заняты Янаў-Троцкі і забраны вайсковыя склады. Да яго далучыўся Бэрнард Шукшта, які прывёў 100 чалавек коньнікаў і 200 пяхоты.

Паўстанцамі занята Упіта.

45. 3 — Атрад паўстанцаў Вінцука Матусэвіча, які ўзброіў косамі сваіх сялян, заняў Трокі. Расійскі атрад здаўся бяз бойкі (XXI-139).

46. 4—Пад кіраўніцтвам Важынскага, Пршэдэцкага і мясцовага ксяндза Ясінскага паўстанчы атрад заняў Ашмяны (XXI-143). Тут забралі 300 шт. карабінаў і пачалі ўзбройваць людзей. Абшарнік Пшэдэцкі выставіў коньніцу, Зенькевіч—50 чалавек пяхоты і Швэйкаўскі—100 стральцоў.

47. 5—Атрад паўстанцаў, пад кіраўніцтвам Ягеловіча, заняў Палонгу. Расійскі атрад адышоў у Прусы.

48. 8—Пад кіраўніцтвам Цэзара і Эмілії Плятэраў паўстаньне з Дусят і Анікштаў перакінулася ў Вількамірскі і Вяліскі паветы.

Расійскі атрад выбіў паўстанцаў з Палонгі.

Другі расійскі атрад палкоўніка Барталамея разьбіў атрад паўстанцаў, які быў пад кіраўніцтвам Рымкевіча, пад Відуклямі. Адпор расійцам давала выключна школьная моладзь на чале з Нарбутам, які тут і забіты.

49. 10—Паўстанцы Расіенскага і Шавельскага паветаў, злучыўшы свае сілы, якіх набралася да 2000 чалавек, з розным узброеньнем, пад кіраўніцтвам Урбановіча, Сухаржэўскага, Гружэўскага і Каліноўскага, выбіла расійцаў з Расіен.

50. 11—Атрад паўстанцаў (30 ч.) пад кіраўніцтвам Вік. Барткевіча і ксяндза

**1831.**

**Польшча.**

51. 12 — Расійскае войска разьбіта паўстанцамі пры Іогане (XXI-76, 78, XVII-159). Дзьвярніцкі з атрадам у Парэцку. Яго атрад сустракалі холадна, ня гледзячы на раскіданыя ім адозвы, у якіх запрашалася насельніцтва ў паўстанцы. Далучалася толькі шляхта, з сялян-жа ніводзін (XXI-181).

54. 16—Дзьвярніцкі з сваім атрадам дайшоў да Барэмлі (XXI-183, XVII-182).

**Беларусь і Літва.**

Лабудзя заняў Сьвенцяны, разьбіўшы расійскі атрад у 140 чалавек (XXI-359).

Лапацінскі заняў Дзісну. Выбраны часовы ўрад на чале з старшынёю Падпібентам.

Атрад паўстанцаў, пад кіраўніцтвам Каліноўскага, каля Пасьвеньця выгнаў расійскі атрад палкоўніка Барталамея ў Прусы (XVII-165).

51. 12—Расійскі атрад, пад камандаю кн. Хілкова, прышоў у Вільню ў складзе 12 егерскага палка і першай брыгады ўланскай дывізіі. Разьдзяліліся на два атрады: а) ген. Атрошчэнко для аховы дарогі Менск—Горадня і Ашмянскі павет і б) сам Хілкоў паўночна-заходнія дарогі праз Відзу і Дынабург на Пецярбург.

52. 14—Ашмянскімі паўстанцамі, пад кіраўніцтвам Радзішэўскага, заняты горад Вілейка. На 17/IV склікана конфэдэрацыя для ўстанаўленьня ўлады (XXI-331).

53. 15—З Ашмян паўстанцы выбіты расійскім атрадам палкоўніка Варзіліна, які вышаў з Вільні. Тут забіта больш 150 чалавек паўстанцаў. Рэшткі іх накіраваліся праз Крэва на Вішнёва (V-495, XXI-144—364).

54. 16—Паўстанцамі занята Маладэчна. Комэндантам прызначаны кіраўнік паўстанцаў, адвакат Ян Вышамірскі.

55. 17—Конфэдэрацыя ў Вілейцы. Выбраны ўрад. Напісаны адозвы да шляхты і сялянства.

Залуцкі з атрадам паўстанцаў з Трок і Панявежа пад начальствам Агінскага, Матусэвіча і Білевіча, заняў пазыцыю ў шасьці мілях ад Вільні ў вёсцы Каўганы. Паўстанцаў да 3000 чалавек. Рыхтаваліся для нападу на Вільню (XXI-365).

Паўстанцамі пад кіраўніцтвам ксяндза Вайткевіча заняты Радашковічы (VII-132).

## 1831.

### Польшча.

56. 18—На поўным Сойме закон аб вызваленьні сялян, з прычын перагружанасьці павесткі дня, не разглядаўся зусім (XXI-109).

57. 20 — Атрад Дзьвярніцкага дайшоў да Хоціна (XXI--193).

58. 21—Выдадзен загад цара аб сформаваньні рэзэрвовай арміі, пад кіраўніцтвам гр. Талстога, для барацьбы з паўстанцамі. У склад яе ўваходзілі: 4-ты пяхотны і 2-і кавалерыйскі карпусы, а таксама часткі з рэзэрвовых батальёнаў і эскадронаў дзеючай арміі (XVII-331).

### Беларусь і Літва.

У гэты-ж дзень заняты паўстанцамі таксама вёскі Краснае Сяло, Крыпуны і Касьцяневічы.

56. 18—Паўстанчы пад кіраўніцтвам Прозара былі разьбіты расійцамі на Ковенска-Віленскай дарозе каля в. Карнілава і адышлі на Янаў-Троцкі.

57. 20—Атрад Радзішэўскага, пасьля бойкі пад Вішнёвым, быў разьбіты расійскім атрадам генэрала Астрожэнка і ўцёк на Бакшты і далей да Руму.

58. 21—Бойка паўстанчага атраду Залуцкага, у 600 чалавек, пад Аўсянішкамі. Расійцы былі адагнаны ад вёскі.

Паўстанчы атрад Манцэвіча меў бойку з расійскім атрадам генэрала Рэненкамфа пад Дарбянамі. Расійцы адышлі ў Палонгу.

59. 24—Атрад Радзішэўскага пад націскам расійскага войска пакінуў г. Вілейку і праз Любань адышоў на Мядзіол (XXI-360).

Атрад Залуцкага ў гэты-ж дзень пакінуў позыцыю ў вёсцы Каўганы і накіраваўся праз Янава ў Шаты, адкінуўшы намер заняць Вільню (XXI-368).

Расійскі атрад, пад кіраўніцтвам кн. Хілкова, прышоў у Вільню (XXI-373, XVII-284).

Два паўстанчыя атрады, на чале з маёрамі Пушэта і Шона, вялі наступ на Мар‘ямпаль, але былі адбіты. Атрад Пушэта ўцёк у лес (VII-140).

60. 26—Атрад Радзішэўскага заняў позыцыю ў м. Мядзіол і ўмацаваўся паміж вазёр. Яго атрад складаўся з 3000 чалавек пяхоты і 300 чалавек кавалерыі (XXI-362, XVII-281).

З Вільні ўцяклі каля 450 чалавек студэнтаў, адвакатаў і духоўнікаў і, пад кіраўніцтвам Эмэрыка Станкевіча, орга-

1831.

**Польшча.**

61. 27—Дзьвярніцкі з сваім атрадам перайшоў мяжу Аўстрыі. Такім чынам скончылася надзея рэволюцыянэраў злучыць паасобныя атрады для агульнага паўстаньня (XXI-198—207, XVII-187).

**Беларусь і Літва.**

нізавалі ўзброены атрад і пайшлі ў напрамку на Рунікоўскія лясы і далей у Троцкі павет (XXI-398, 99).

62. 28—Атрады Есмана і Яна Гарадэнскага на тракце з Вільні ў Вількамір, у лесе пад Ліпаўкаю, імкнуліся затрымаць расійскую колёну, якая ішла з Вільні, але-ж былі разьбіты і адступілі на Вількамір, а расійцы занялі Шырвінты (XXI-378).

63. 29—Пад Румам атрад Радзішэўскага быў канчаткова разьбіты расійскім атрадам пад кіраўніцтвам палкоўніка Савасьцянава, які ішоў з Менску.

У гэты-ж дзень атрад кн. Хілкова прышоў у Шадаў.

Пад Кейданамі расійскі атрад генэрала Сулімы разьбіў паўстанчы атрад М. Прозара, які адступіў у Датнова (XXI-379).

У гэты дзень атрад моладзі, што вышаў раней з Вільні ў напрамку на Бурбішкі і далей на Рунікі, меў бойку з казакамі пад Эйшышкамі, казакі адступілі.

Пад Кракінавым была сутычка паміж расійскім атрадам Сулімы і паўстанчым Државецкага. Пасьля бойкі паўстанцы адступілі.

Колёна генэрала Хілкова, ідучы з Шырвінт да Сьвянцян, спаткалася пад Ліпаўкаю з паўстанцамі Айсмана і Гарэнскага, апошнія адступілі (VII-147).

64. 30—Расійскі атрад кн. Хілкова прышоў у Панявеж.

*Май.*

**Польшча.**

65. 3—Прыехаў у Варшаву літоўскі дэпутат малады Ўрадкоўскі з дакладам аб станові-

**Беларусь і Літва.**

65. 3—Паўстанчы атрад Залуцкага прышоў на мызу Пржыстовяны (XXI-380).

1831.

**Польшча.**

шчы паўстаньня на Літве і Беларусі. Паўстанчы ўрад прызначыў кіраўніком паўстаньня на Літве і Беларусі генэрала Янкоўскага. Ён праехаць на Літву ня змог (XXI-247).

67. 5—Прыняты закон аб дапамозе Літоўскім провінцыям. Гэтым законам даюцца льготы тым, хто будзе прымаць удзел у паўстаньні, а хто адмовіцца, будзе лічыцца зраднікам (XXI-246, 47).

**Беларусь і Літва.**

66. 4—Расійскі генэрал Суліма нагнаў атрад Залуцкага ў Пржыставянах і разьбіў яго. Залуцкі з рэштками (каля 500 чалавек) адступіў на Расіены (XVII-285, XXI-380).

Расійцы занялі Сьвянцяны і Панявеж.

Прыехалі на Літву і Беларусь эмісары Варшаўскага ўраду Валовіч і Пржэцлаўскі (XXI-377).

Радзішэўскі, сабраўшы новы атрад паўстанцаў, зноў заняў г. Вілейку, але праз некалькі гадзін быў выбіты палкоўнікам Саф'янавым.

Радзішэўскі з рэштками атраду пакіраваўся на Глыбокае для злучэньня з паўстанцамі Дісьненскага павету (XXI-393).

Расійскі атрад генэрала Палена каля Куршан спаткаўся з паўстанчым Ст. Тышкевіча і разьбіў яго.

67. 5—Залуцкі з рэштками свайго разьбітага атраду, перайшоў праз рэчку Дубісу і заняў позыцыю недалёка ад Расіен. Тут у яго атрадзе зьявілася халера. Ён склаў з сябе галоўнае начальства над паўстанцамі і загадаў атрадам самастойна ісьці па сваіх паветах (XXI-381-82).

Генэрал Пален пад Янішкамі разьбіў атрады паўстанцаў Герубовіча і Шэмета.

68. 7—7 мая было вызначана днём для ўзброенага паўстаньня на Ўкраіне.

69. 8—Паўстанцы пад камандаю Брохацкага, Мік. Клоца і Там. Лапацінскага, занялі горад Дзісну (XXI-393).

70. 11—Паўстанчыя атрады з Дзісны былі выбіты і горад заняў расійскі атрад пад камандаю палкоўніка Макарава.

1831.

**Польшча.** | **Беларусь і Літва.**

Расійскі атрад генэрала Палена 9 мая, вышаўшы з Шаўляў, заняў Ворні.

71. 12—Расійскі атрад пад камандаю барона Палена, разьбіўшы паўстанцаў, заняў Тэльшы (XVII-286).

72. 13 — Расійцамі заняты Расіены. Разьбітыя паўстанчыя атрады пахаваліся ў густых Рэўтаўскіх, Куршанскіх і Цытавянскіх лясох (XXI-389).

Радзішэўскі з сваім атрадам прышоў у Глыбокае. Тут сабралася паўстанцаў да 6000 чалавек (XXI-394, XVVII-289).

73. 15—Расійскі атрад пад кіраўніцтвам Саф'янава, каля м. Глыбокага, зноў разьбіў атрады паўстанцаў Радзішэўскага. Радзішэўскі адступіў у Лужкі.

Расійскі атрад генэрала Шырмана разьбіў паўстанчы атрад ў Рэтаве, спаліў там парахавую фабрыку і забраў 8 гармат, якія былі прывезены туды з Ворняў.

74. 17—Паўстанчыя атрады з Лужкоў пайшлі дзьвюма колёнамі — першая (у ліку 2500 чалавек пад кіраўніцтвам Радзішэўскага, добра ўзброеная) на Вількамір; другая (з касіянэраў і іншых людзей, дрэнна ўзброеных) пад камандаю братоў Ігната і Фэлікса Адахоўскіх у Віцебскі павет (XXI-394).

**Польшча:** 75. 19—Генэрал Хлапоўскі з атрадам у 800 чалавек ад Сьнядава пасланы на дапамогу на Літву, куды і рушыў у напрамку на Андржэева і Чыжова (XXI-460).

**Беларусь і Літва:** 75. 19 — Расійскі атрад палкоўніка Бяляева быў разьбіты ў Доўгай Вісны (у Руднікоўскім лесе) вышаўшымі ў паўстаньне з Вільні студэнтамі і іншымі людзьмі, але падышоўшая да расійцаў дапамога ў сваю чаргу разьбіла студэнтаў. Пасьля бойкі студэнты адступілі ў напрамку на Сумішкі.

76. 20 — Паўстанцы пад камандаю Адахоўскіх занялі павятовы горад Лепель (XXI-395).

**Польшча:** 77. 21—Атрад Хлапоўскага ў Міеніе перайшоў мяжу Польшчы, ідучы на Літву і Беларусь (XXI-461).

**Беларусь і Літва:** 77. 21 — В. кн. Канстантын Паўлавіч прыехаў з Слоніму ў Менск.

Паўстанчыя атрады Расіенцаў (Урбановіча, Рымкевіча і Каліноўскага)

1831.

**Польшча.**

78. 23—Атрад Хлапоўскага каля Гайноўшчызны разьбіў расійскі атрад маёра Ліндэна. Палонных не бяруць з прычыны халеры. Пасьля бойкі Хлапоўскі пайшоў праз Нарэўку і Масеева на Рудню і далей па дарозе на Сьвіслач (XXI-462).

80. 26—Пасьля ўпартай бойкі расійцы занялі Астраленка.

На вайсковую службу паўстанцы прызвалі мужчын ад 17 да 50 гадоў пад назваю „паспалітага рушэньня" (XVII-251—269).

81. 27—Гельгуд, Дэмбінскі і Роланд з атрадам у 12000 чалавек з 26 гарматамі накіраваліся з Ломжы праз Ставішкі на Літву і Беларусь на дапамогу паўстанцам (XXI-346, XVII-317).

**Беларусь і Літва.**

злучыліся з Тэльшаўскімі атрадамі (Урбановіча і Тамкевіча), адбілі колёну генэрала Палена і спыніліся ў лесе пад Задвопнямі.

Расійскі атрад генэрала Шырмана канчаткова разьбіў паўстанцаў, якія вышлі з Расіен. З гэтага часу паўстаньне на Жмудзі хіліцца да ўпадку.

Паўстанчы атрад Серакоўскага заняў Ставішкі і, злучыўшыся з атрадамі Заліўскага, выбіў расійцаў з Шчучына і пайшоў на Граеў.

78. 23 — Атрад Радзішэўскага праз Рышманы — Салокі —Довгелі прышоў у Віжунскі лес і стаў лягерам. Тут атрады падзяліліся: Радзішэўскі застаўся начальнікам над Вілейцамі.—Сьвянцянцы і Дзісьненцы выбралі сабе начальнікамі Барткевіча і Брахоўскага (XXI-397, XVII-28).

В. кн. Канстантын Паўлавіч выехаў з Менску ў Віцебск.

Расійскай брыгадаю 4 гусарскай дывізіі пад кіраўніцтвам генэрала Каблукова дашчэнту разьбіты атрад Адахоўскіх і г. Лепель заняты расійцамі.

79. 25—Паўстанчыя атрады Прозара і Пушата спаткаліся з расійскім атрадам у Зялёнай Пушчы на Аўгустоўска-Марыямпальскай дарозе. Паўстанчыя атрады пасьля бойкі адышлі далей для злучэньня з польскімі войскамі.

80. 26—Атрад Хлапоўскага спаткаўся з генэралам Рэнгертам у Белавескай Пушчы і, разьбіўшы яго, забраў усе гарматы і 120 фургонаў.

**1831.**

**Польшча.**

86. 2—Атрад Гельгуда, Дэмбінскага і Роланда прышоў у Мар'ямпаль і ідзе далей у напрамку на Коўню, гонячы

**Беларусь і Літва.**

82. 28—Злучаныя атрады Пушата і Прозара, якія ішлі ў напрамку на Горадню, спыніліся для адпачынку ў Падпірках. Тут іх выдаў расійцам падафіцэр атраду Пушата Маўчановіч і яны былі разьбіты расійцамі.

83. 29—Атрад Хлапоўскага перайшоў праз Нёман і пашоў далей на Горадню, а потым зьвярнуў управа (XXI-463).

Атрад Гельгуда, Дэмбінскага і Роланда разьбіў расійскі атрад барона Сакена каля Райгрода і Войдаў (XXI-469).

84. 30—Атрад студэнтаў, злучыўшыся з атрадам Матусэвіча, быў канчаткова зьнішчаны расійскім атрадам палкоўніка Савасьцянава і іншымі ў Ваштартанскім лесе пад Душмянамі, больш 200 чалавек паўстанчай моладзі было забіта. Рэшткі паўстанцаў далучыліся да войска Хлапоўскага (XXI-401).

85. 31—Атрад паўстанцаў, пад камандаю Барткевіча і Брахоўскага, з Вішунскага лесу пайшоў праз Сьвядосье, Шыманцы, Купішкі і Субач у Трашкуны, дзе і спыніўся. Тут ён атрымаў загад далучыцца да Гельгуда.

Атрад-жа Радзішэўскага, уцякаючы ад кн. Хілкова, пайшоў на Сьвядосье-Купішкі-Каварск і Вількамір да Падшырвінтаў, дзе таксама атрымаў загад далучыцца да атраду Хлапоўскага (XXI-397).

Атрад Хлапоўскага заняў г. Ліду, дзе разьбіў моцны расійскі атрад пад камандаю капітана Камарніцкага (XXI — 463).

Паўстанчы атрад капітана Жылінскага, пераходзячы з Белавежы ў Беластоцкія лясы, напаў на расійцаў у Гарадку (каля Беластоку). Расійцы здаліся.

*Чэрвень.*

1831.

**Польшча.**

перад сабою корпус барона Сакена. Тут іх сустрэлі дэпутаты літоўскіх паўстанцаў, якія інформавалі іх аб становішчы паўстанчага руху на Літве і Беларусі (XXI-473).

89. 6—Атрад Гельгуда, Дэмбінскага і Роланда ля Ніжніх-Гельгудзішак перайшоў праз Нёман (XVII-320).

92. 10—Памёр ад халеры ў Клёшаве (тры вярсты ад Палтуска) галоўнакамандуючы расійскім войскам генэрал Дзібіч-Забалканскі (XXI-459).

**Беларусь і Літва.**

87. 3—В. кн. Канстантын Паўлавіч у Віцебску памёр ад халеры.

88. 4—У Вільню прышоў генэрал Суліма з Ладаскім і Ямбурскім палкамі, усяго каля 2200 чалавек (XXI-482).

89. 6—Атрад Хлапоўскага з Ліды ідзе праз Араны, Стаклішкі ў Кейданы.

Паўстанчы атрад капітана Жылінскага ў лесе „Горы“ разьбіў невялікі атрад казакаў, якія адступілі ў Беласток.

У Мазырскім павеце організаваўся з некалькіх дзесяткаў чалавек паўстанчы атрад пад кіраўніцтвам Каневіча. Спачатку паўстанцы займаюць на Оўруцкім тракце паштовыя станцыі: у Міхалках, Кароліне і Кузьмічах. Тут яны разброілі расійскі атрад і забралі яго ў палон. (VII-140).

90. 8—Атрад Гельгуда, Дэмбінскага і Роланда прышоў у Кейданы, дзе да іх зьявіўся і Хлапоўскі. Атрад яго, перайшоўшы праз рэчку Вілью ля Янава, заняў позыцыю пры Жэйме.

Атака Вільні прызначана на 19 чэрвеня. (V-495, XXI-477).

91. 9—У Вільню прышоў кн. Хілкоў з трыма ротамі егераў і двумя эскадронамі уланаў, усяго каля 600 чалавек (XXI-482).

92. 10—Атрад паўстанцаў пад начальствам Барткевіча і Брахоцкага каля Жэймы далучыўся да атраду Гельгуда. Пяхота была далучана да 19 палка, а з коньніцы сформавалі 10 і 11 уланскія палкі (XXI-397).

93. 11—Атрад паўстанцаў пад камандаю Радзішэўскага ў Чабішэк далучыўся да атраду Хлапоўскага. З пя-

1831.

**Польшча.** | **Беларусь і Літва.**

хоты Радзішэўскага сформавалі 25 пяхотны полк, а з коньніцы 12 уланскі (XVII-289, XXI-397).

Расійскі атрад генэрала Сакена ў 7000 чалавек і 26 гармат прышоў да Вільні і заняў позыцыю ў 9 вярстах ад гораду, на Панарскіх гарах (XXI-476).

Атрад паўстанцаў Шыманскага ў ліку 5000 чалавек прышоў у Расіены і накіраваўся далей праз Шыдлова і Цытавяны да Шаўляў, каб заняць гэты горад (XXI-481).

Каневіч з сваім атрадам паўстанцаў прабуе наступаць на горад Мазыр, але пасьля кароткай бойкі паўстанцы былі разьбіты і адступілі ў Міхалкі. Тут іх канчаткова разьбіў расійскі атрад, вышаўшы з Мазыра. Каневіч уцёк у Міхаеды, дзе злучыўся з рэшткамі паўстанцаў Овруцкага і Радамыскага паветаў (VI-141).

94. 12—Войска Гельгуда прасунулася да Жэймы (XXI-479).

Расійскі атрад генэрала Сакена прышоў у Вільню (XXI-482).

95. 14—Атрад Хлапоўскага зноў, перайшоўшы праз рэчку Вільлю ля Чабішак, заняў позыцыю пры Рыконтах, у 18 вярстах ад Вільні і чакаў падыходу астатніх войск, прызначаных для заняцьця Вільні (XXI-480).

У Вільню прышоў генэрал Острошчэнка з 2000 чалавек (XX-1482).

96. 15—Атрад Дэмбінскага праз Шырвінты па Вількамірскай дарозе прышоў пад Вільню і заняў позыцыю каля Мейшаголы—10 вёрст ад Вільні.

97. 16—У Вільню прышоў праз Мерачанку, Ораны і Лейпуны расійскі атрад генэрала Куруты ў ліку каля 5800 чалавек (XXI-485).

Атрад паўстанцаў, пад камандаю Шыманскага, разьбіты расійцамі пад Шаўлямі, адступіў на Цытавяны. Тут забіта 500 чалавек паўстанцаў (XXI-482).

98. 17—Тры колёны расійцаў, якія вышлі з Вільні па дарогах на Яна-

1831.

| Польшча. | Беларусь і Літва. |
| --- | --- |

ва, Вількамір і Неменчын, пад агульным кіраўніцтвам кн. Хількова, нанесьлі паражэньне атраду Дэмбінскага і ён адступіў на Мэйшаголы (XXI-484).

99. 18—Атрад Гельгуда прышоў у Рыконту. Сюды-ж прышоў і атрад Заліўскага. Гельгуд раскідае свае сілы: ён даў загад атраду Дэмбінскага ісьці ў Немянчын, атраду Шыманскага — у Палонгу (V-495). Наступ на Вільню, як і раней, прызначаны на 19 чэрвеня (XXI-483, XVII-323).

У ваколіцах Брагіна шляхціц Міхал Легенза з дваровых людзей організаваў у 22 чалавекі партызанскі атрад (VII-143)

100. 19—Паўстанцы а 9 гадзіне раніцы пайшлі ў наступ на Панарскія горы для заняцьця Вільні і, пасьля няўдалай бойкі, Гельгуд даў загад паўстанчаму войску адступіць. Усе адступілі ў Жэймы і Кейданы (V-495, XXI-484—489, XVII-325—329).

101. 20—Часьць расійскай рэзэрвовай арміі, 4-я гусарская дывізія пад кіраўніцтвам генэрала графа Талстога, прышла ў Вільню (XXII-122, XVII-331).

З Бабруйску ў Мазырскі і Овруцкі паветы прышоў расійскі атрад палкоўніка Тутольніна 23 стралковага палка (VII-144).

102. 21—23 — Прышлі ў Вільню дадатковыя войскі рэзэрвовай арміі, 13 і 15 пяхотныя дывізіі, 2 кавалерыйскі корпус. Такім чынам, у ваколіцах Вільні сабралася каля 40.000 чалавек войска, больш чым у тры разы болей за паўстанцаў (XXII-123, XVII-331).

103. 24 — Рэзэрвовая армія падзялілася ў Вільні на 2 колёны і рушыла супроць паўстанцаў. Першая колёна з атрадаў Хілкова, Сулімы і Сакена, пад кіраўніцтвам кн. Хілкова, у складзе 19 батальёнаў і 22 эскадронаў — 2700 чалавек кавалерыі і 800 казакаў, усяго 15300 чалавек і 63 гарматы, пашла па вялікай Ковенскай дарозе. Дру-

1831.

**Польшча.**

104. 25—Прыехаў у Пултуск новы галоўнакамандуючы расійскіх войск гр. Паскевіч-Эрыванскі. (XXII-46, XVII-353). Колькасьць яго войск 135000 чалавек і 600 гармат (XXII-51).

**Беларусь і Літва.**

гая колёна, пад кіраўніцтвам графа Куруты, а потым барона Крэйца, з 17 батальёнаў і 21 эскадрона—3000 кавалерыі і 800 казакаў, усяго 15400 чалавек і 52 гарматы, выходзіла правей першай калёны ў напрамку на Янава. Апрача гэтых колён быў вылучаны асобны лятучы атрад пад кіраўніцтвам г. м. Гельфрэйга з 2000 чалавек кавалерыі і 4 гармат, які перайшоў праз рэчку Вілью для ачысткі правага берагу і для прыкрыцьця руху абодвых колён (XXII-123-124, XVII-331).

104. 25 — Атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам Шыманскага зноў заняў Шаўлі, але скора быў выгнаны расійскім атрадам Шырмана і адступіў на Цытавяны.

Расійскі атрад палкоўніка Тутольніна ў Міхаедаўскіх лясох, каля вёсак Сітаўка і Рудня, разьбіў паўстанчыя атрады Каневіча і Легензы. Каневіч уцёк у Варшаву, дзе пасьля быў уведзены ў сойм як пасол ад Мазырскага павету. Легенза забіты (VII-145).

105. 28 — Расійскі атрад ген. Маліноўскага разьбіў паўстанцаў Кекерніцкага і забраў Коўню (XXII-125).

106. 29 — Расійскі атрад ген. Хілкова наступаў на Вількамір, які быў заняты колёнай Дэмбінскага, але быў адбіты (XXII-127).

*Ліпень.*

107. 1—Другая расійская колёна вылучыла атрад пад камандаю барона Делінзгаўзена, які атакаваў перадавыя часткі Дэмбінскага на левым беразе рэчкі Сьвенты (XXII-127).

108. 3—Паўстанчыя атрады Гельгуда вышлі з Кейдан і пайшлі: Гельгуд на Расіены, Роланд—на Бейсаголу, а Дэмбінскі—к Панявежу (XXII-130, XVII-332).

109. 5 — Пасьля бойкі з расійцамі пад Плімбургам ген. Гельгуд адступіў

## 1831.

### Польшча.

113. 10 — Атрад паўстанчых польскіх войск пад кіраўніцтвам Ражыцкага, перайшоўшы праз р. Буг каля Драгічына, пайшоў на Літву і Беларусь праз Семяцічы, Мелейчыцы, Арэшкаў і далей да Белавескага лесу (XX-111).

114. 13 — Колёны Хлапоўскага з Гельгудам перайшлі Прускую мяжу і разброіліся. Афіцэр Казімір Скульскі застрэліў Гельгуда за здраду (V-493, XXII-166—168, XVII-340).

115. 16—Колёна паўстанцаў пад кіраўніцтвам Роланда перайшла Прускую мяжу і разброілася.

### Беларусь і Літва.

на Расіены, дзе злучыўся з атрадам паўстанцаў пад камандаю Шыманскага і накіраваўся на Цытавяны (XXII-131).

Атрад Дэмбінскага атакаваны расійскім атрадам Каблукова каля Панявежу, пасьля бойкі Дэмбінскі адступіў на Невяж і далей (XXII-134—136).

110. 6—Атрад Гельгуда пакінуў Расіены, перайшоў Нёман і накіраваўся на Шаўлі.

111. 7 — Ліквідаваны паўстанчы атрад Заліўскага, сілаю ў 600 чалавек і адну гармату, у балотах недалёка вёскі Саколды (недалёка ад ст. Букштэль, паміж Горадняй і Беластокам) (XXII-181, XVII-341).

Атрад Дэмбінскага з-пад Невяжа прышоў у Шаўлі (XXII-140).

112. 8—Атрады паўстанцаў Гельгуда і Хлапоўскага прышлі ад Расіен, Роланда—ад Куршан пад Шаўлі. Пасьля бойкі з расійцамі пад Шаўлямі яны адступілі ў Куршаны, адкуль пайшлі: Дэмбінскі — на Мешкуці, Роланд — на Палонгу, а Гельгуд і Хлапоўскі — у Горжды да Прускай мяжы (XXII-151—159, XVII-332—337).

115. 16 — Паўстанчы атрад Дэмбінскага нагнаў расійцаў і пасьля бойкі каля Малят Дэмбінскі адступіў далей у Інтуркі (XXII-182).

## 1831.

### Польшча.

Усяго перайшло 6800 чалавек людзей, 4500 коняй і 27 гармат (V-495, XVII-341).

### Беларусь і Літва.

Партызанскі паўстанчы атрад з каманды Есьмана, пад кіраўніцтвам Врублеўскага, опэруе на Віленска-Ількамірскай дарозе (VII-132, XVII-343).

116. 17—Атрад Дэмбінскага разьбіў невялікі расійскі атрад у Падбродзі і пайшоў далей на Зулаў, Міхалішкі, Невсталішкі (XX-188, XVII-345).

117. 19—Дэмбінскі пайшоў з атрадам праз Жодзішкі ў Данушэў, дзе і перайшоў на левы бераг ракі Вільі (XXII-191, XV—345).

118. 20—Дэмбінскі прышоў у Смаргонь і рушыў далей праз Крэва, Баруны ў Гальшаны (XXII-194, XVII-345).

119. 22 — У ваколіцах Навагрудку некалькі дзён таму назад падняў паўстаньне „предводитель дворян“ Кошыц (XXII-261).

Атрад Дэмбінскага зьвярнуў управа і пайшоў на Вялікую Волю, дзе перайшоў праз рэчку Шару і прышоў у Дзярэчын. Тут да яго далучыўся атрад паўстанцаў у 250 чалавек пад кіраўніцтвам абшарніка Бронскага з Слонімскага павету (XXII-196-97, XVII-348).

У Трабах расійскія атрады нагналі Дэмбінскага. Тады ён пайшоў на Іў‘е, перайшоў уночы праз Нёман у Збойска і пасьля адпачынку пакіраваўся на Всялюб, па дарозе на Навагрудак і далей на Дзятлава (XVII-367).

120. 24—Паўстанчы корпус Дэмбінскага адступаючы разьбіў пад Дзятлавым невялікі расійскі атрад на чале Станковіча, які ішоў з Слоніма для зьнішчэньня паўстаньня (XXII-261, XVII-347).

121. 26—Дэмбінскі прайшоў Зельву, Ізабелін і праз дзень пайшоў на Прозарава ў Белавескі лес (XXII-262, XVII-348).

122. 27—Расійская армія пакінула позыцію ў Нешавы (XXII-235).

1831.

## Польшча.

## Беларусь і Літва.

123. 28—Атрад Дэмбінскага прайшоў в. Бернікі і накіраваўся на в. Рудню. Тут далучыўся да яго высланы на Літву і Беларусь, у дапамогу Гельгуду, Ражыцкі, і яны, злучыўшыся, пайшлі далей назад на Варшаву (XVII-350, XXII-268—270).

124. 30—Каля м. Пагост (Піншчына) ў двары Плянтах, пад кіраўніцтвам Тытуса Пуслоўскага, зорганізаваўся з шляхты, дваровых і сялян паўстанчы атрад, які накіраваўся праз Логічын у Слонімскі павет (VII-150).

125. 31—Дэмбінскі праз Орлю і Боцкаў пайшоў на Далабова, Гродзіск, Побікры ў Цэхановец (XXII-273, XVII-350).

*Жнівень.*

126. 3—Атрад Дэмбінскага ад Радзіміна, дзе ён атрымаў спозьнены загад застацца на Літве, пайшоў на Моркі і прышоў у Варшаву (XXII-276, XVII-352).

126. 3—Пуслоўскі, павялічыўшы свой атрад паўстанцаў да 300 чалавек, перайшоў з Слонімскага павету ў Кобрынскі і далей ня мяжу Ковенскага павету аж да Асаўца. Тут яго атрад узрос да 1000 чалавек. Між іншымі да яго атраду далучыліся 20 чалавек рабочых з фабрыкі сукна ў Хомску (VII-135).

127. 6—Супроць атраду Пуслоўскага з Слоніма вышаў расійскі атрад коньніцы пад кіраўніцтвам палкоўніка Лінскага, тады Пуслоўскі адступіў назад у Пінскі павет (VII-158).

128. 8—Атрад палкоўніка Лінскага пад вёскамі Невелем і Хенчыцамі ў дзьвюх бойках разьбіў дашчэнту паўстанчы атрад Пуслоўскага (VII-159).

129. 14—Дэкрэтам Сойму Пронзінскі прызначаны быў галоўным начальнікам паўстанчых войск (XVII-311).

129. 14—Паўстанчы атрад каля 400 чалавек, пад кіраўніцтвам капітана Пашкоўскага, знаходзіцца ў Налібоцкіх, Вішнеўскіх, Бакштанскіх і Івенскіх лясох.

130. 15—Пераварот Крукавецкага ў Варшаве. Скрынецкі здаў Дэмбінскаму часова галоўнае камандваньне

1831.

**Польшча.** | **Беларусь і Літва.**

паўстаўшым польскім войскам (XII-312, XVII-328).

131. 16 — Народны ўрад зацьвердзіў галоўнакамандуючым Дэмбінскага і перадаў сваю ўладу Сойму (V-502).

132. 17—Сойм па закону перадаў усю ўладу прэзыдэнту народнага ўраду Крукавецкаму. Галоўнакамандуючым Крукавецкі прызначыў замест Дэмбінскага — Малахоўскага, а сваім намесьнікам—Бонавентуру Немаеўскага (IV-504, XXII-366).

133. 18—Руская армія заняла позыцыю ў Надаржына (XXII-411).

*Верасень.*

134. 8—Расійцы занялі Варшаву (XVII-400—420). Незанятымі расійцамі засталіся толькі Модлін і Замосьце (XXII-579, 693, XVII-440).

135. 10—Польскім галоўнакамандуючым паўстаўшымі войскамі выбраны Рыбінскі (XXII-596). Сойм перанёс свае паседжаньні ў капуцынскі манастыр у Закрочыме, недалёка ад Модліна (XXII-603).

136. 28—Атрад Ражыцкага ў ліку 1400 чалавек і 6 гармат перайшоў у Прусы каля Хшанова (XVII-431—434).

*Кастрычнік.*

137. 5 — Рэшткі польскага войска, якое не здалося расійцам, у ліку каля 21000 чалавек, 95 гармат і 9000 коняй, разам з галоўнакамандуючым Рыбінскім, каля в. Шуль-

## 1831.

### Польшча.

цова, перайшлі Прускую мяжу і пад Бродніцаю разброіліся (XX-671, XVII-435, 439).

138. 9—Расійцы занялі Модлін. Гарнізон крэпасьці складаўся з 6000 чалавек (XVII—440, XXII—639).

139. 21—Замосьце аддалося расійскаму войску. Гарнізон крэпасьці складаўся з 4000 чалавек (XVII-440, XXII-693).

### Беларусь і Літва.

138. 9—Паўстанчы атрад на чале з кап. Пашкоўскім, які трымаўся да канца верасьня ў Ашмянскім павеце, даведаўшыся, што расійцы ўжо занялі Варшаву і Модлін, раздаў зброю жыхаром Закрочынскай пушчы, а сам пайшоў у Прусію. Таксама да гэтага часу трымаўся на Літве і паўстанчы атрад Трускоўскага.

140. У 1831 годзе паўстанцы галоўным чынам распаўсюджваліся па губэрнях: Ковенскай і Віленскай менш у Менскай і зусім мала ў Горадзенскай і Віцебскай губэрнях. Гэта падкрэсьлівае і сьпіс конфіскаваных маёнткаў у 1834 годзе першых двух катэгорый удзельнікаў паўстаньня. Так па Віцебскай губ. конфіскаваны ў 1 асобы, Магілеўскай—2, Кіеўскай—123, Менскай—каля—125, Горадзенскай—277, Падольскай—460, Валынскай—527 і самая большая лічба, гэта Віленскай—1314 (VII-181).

---

## ГЕОГРАФІЧНЫ ПАКАЗЬНІК ДА ТАБЛІЦЫ І КАРТЫ.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

А. Немцаў.

## Гута „Комінтэрн".

### Месцазнахаджэньне і кароткая гісторыя.

Гута „Комінтэрн" знаходзіцца ў Бабруйскім раёне Бабруйскай акругі ля самай шашы Бабруйск—Слуцак, у адлегласьці 26 кілём. ад г. Бабруйску, 55 кіл. ад Глуску і 80 кіл. ад Слуцку.

Зносіны рабочых гуты і жыхароў з пасёлку ля яе адбываюцца пры дапамозе аўтобусаў, рух якіх наладжаны рэгулярна.

Завод пабудаваны ў 1887 годзе памешчыкам Грыцэнка на яго зямлі, сярод лесу, дзе ёсьць шмат пяску для вырабу шкла. У першыя гады існаваньня гуты на ёй выраблялíся ваконнае шкло і бутэлькі; пазьней — у пачатку 20-га стагодзьдзя — тут выраблялі лямпавае шкло, карафіны, шклянкі, аптэчныя прылады, бутэлькі, ручкі для дзьвярэй і інш.

Перад імпэрыялістычнай вайной гуту ад Грыцэнкі ўзялі ў арэнду браты Ашкінадзе і Лазінскі.

Да рэволюцыі на гуце лічылася каля 200 рабочых, якія працавалі ў 3 зьмены; праца адбывалася пераважна зьдзельна. У часе імпэрыялістычнай вайны завод працаваў з перабоямі з-за нястачы кваліфікаваных рабочых, якіх забіралі на вайну; такая-ж зьява назіралася і ў часе рэволюцыі з дадаткам сюды яшчэ аднэй прычыны — недахопу некаторых матар'ялаў, неабходных для вырабу шкла.

З агульным уздымам і наладжваньнем гаспадаркі ўсяго Саюзу пачынае наладжвацца і праца гуты „Комінтэрн". У 1926 годзе гуту перабудавалі, і ў сучасны момант коштоўнасьць яе выяўляецца наступнымі лічбамі:

| | |
|---|---|
| Ванна . . —124 т. руб. | Будынак заводу . . —25 т. руб. |
| Цянульня . — 7 т. „ | Жылыя будоўлі пры заводзе . . . . . . —55 т. руб. |
| Машыны тэхнічн. абсталяваньня . . . 42 т. „ | Розныя дапаможныя будоўлі . . . . . —35 т. руб. |
| Сілавыя ўстаноўкі . . — 15 т. „ | |

Продукцыя гуты — у сучасны момант бутэлькі і слоікі — на падводах адвозіцца ў Бабруйск у Белшклотрэст і Дзяржсьпірт.

## Процэс вытворчасьці.

Гута мае 4 корпусы: выдувальны, матар'яльны, упаковачны і сілавы. Галоўны корпус — выдувальны — уяўляе з сябе драўляны высокі будынак з гонтавым дахам і з шкянымі перахватамі пасярэдзіне. Матар'ял для вырабу шкла захоўваецца ў драўляных будынках; фабрыкаты складаюцца на непакрытым дварэ.



Завод „Комінтэрн" галоўны корпус.

Машыннае аддзяленьне зьмяшчаецца ў асобным невялічкім драўляным будынку на адлегласьці 100 мэтр. ад галоўнага корпусу. У гэтым аддзяленьні ёсьць 1 паравы рухавік і 2 дынамамашыны. Паравы рухавік ангельскай фірмы „Маршаль" у 24 кон. сілы набыты ўжо даўно і пабываў некалькі разоў у рамонце; працуе ён на торпе.

Машыннае аддзяленьне абслугоўваецца 3-ма рабочымі; праца адбываецца ў 3 зьмены.

Сілай рухавіка прыводзяцца ў рух. матэры:

У газагенэратары . . . — 2 к. с.
„ размолачным аддзял. . — 8 к. с.
„ вэнтылятар. ванны . . — 2 к. с.
„ барабане для зьмяшэньня матар'ялу . . — 2 к. с.
„ 13 вэнтылятарах вакол ванны . . . . . . — 3 к. с.

Акрамя таго, праз прывады рухаецца цэлы шэраг варштатаў, як гатарны, сьвідравальны, тачыльны, такарны, а таксама працуюць помпы.

Побач з машынным аддзяленьнем у тым-жа будынку за сьцяной працуе гашарны станок, які абслугоўвае патрэбы заводу — асабліва ўпаковачнага аддзяленьня.

Электрычная энэргія для асьвятленьня перадаецца ва ўсе аддзяленьні заводу, канторы, склады і ў рабочы гарадок; акрамя таго, устаноўлены ліхтары ўздоўж шашы і ў двары гуты; таксама асьвятляецца электрычнасьцю сталоўка, часовы клюб (сталы клюб згарэў у мінулым годзе) і агульнае памяшканьне для часткі служачых гуты.

*Сыравіна.* Цяпер завод вырабляе толькі бутэлькі (для сітро, гарэлкі) і слоікі. Для гэтага патрэбен наступны матар'ял: пясок, дрэўны вугаль, сода, сульфат і крэйда. Пясок звычайны бярэцца тут-жа—ля заводу, соду, сульфат і крэйду прывозяць з Бабруйску на падводах, вугаль—свой. Акрамя таго, у масу дадаецца яшчэ шкло-бой.

Расход сыравіны за апошнія 2 бюджэтныя гады наступны:

| Сыравіна. | Колькасьць тон 1926—27 г. г. | Колькасьць тон 1927 28 г. г. |
|---|---|---|
| Пясок . . . . . . . | 1986,925 | 1170,759 |
| Сода . . . . . . . . | 280,281 | 330,235 |
| Сульфат . . . . . . | 401,524 | 339,932 |
| Крэйда . . . . . . . | 541,291 | 514,582 |
| Шкло-бой . . . . . . | 192,526 | 690,102 |

Пясок, перад уводам яго ў масу, перапальваюць у асобнай печцы; крэйду таксама высушваюць у печцы. Гэтыя печы апальваюцца дрывамі. Дровы ідуць і для ацяпленьня.

Расход дроў і торпу на патрэбы заводу за тыя-ж 2 гады гэткі:

| | 1926-27 г. г. | | 1927-28 г. г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | На суму | Колькасьць | На суму |
| Дровы . | 21465 кб. м. | 45236 р. | 19426 кб. м. | 57294 р. |
| Торф. . | 1474 тон. | 14751 р. | — | 29948 р. |

Дровы і торп здабываюцца на месцы і перавозяцца сялянамі з вакольных вёсак.

Крэйду спачатку перамалваюць у асобным барабане, які прыводзіцца ў рух электрычнасьцю, потым мэханічна перасяваюць, пры дапамозе элеватара перадаюць угару, адкуль яна мэханічна высыпаецца

на падлогу ў асобным пакоі; адсюль яе бяруць ужо рыдлёўкамі. Склад для матар'ялаў апальваецца, каб яны не псаваліся.

*Мяшальня.* Побач з складам знаходзіцца мяшальня, у якой рыхтуюць масу для плаўкі. Пасярэдзіне пакою стаіць мяшалка, якая прыводзіцца ў рух электрычнасьцю. Мяшалка ўяўляе з сябе круглы барабан, у сярэдзіне якога на восі верцяцца лапатачкі; на дне барабана ёсьць дзьверкі, якія адчыняюцца ўніз. Такім чынам, калі матар'ял ужо перамешаны, рабочы адчыняе зьнізу дзьверцы, маса высыпаецца ў падстаўленыя насілкі з сьценкамі; насілкі ставяць на ваганэтку, а ў барабан зноў сыплюць крэйду, пясок, соду і г. д. Калі на ваганэтцы набярэцца да дзесятку насілак, яе па рэйках 2 рабочых накіроўваюць да ванны ў галоўны корпус (на адлегласьці 20—25 мэтраў).

У склад масы для выплаўкі шкла матар'ялы бяруцца ў такой пропорцыі: пяску—80 част., крэйды—22 ч., соды—20 ч., сульфату—5 ч. і вугалю—0,25 ч.

Маса гэта носіць назву „шыфт"; за дзень шыфту падрыхтоўваюць да 1000 пудоў.

Працаваць у гэтым аддзяленьні вельмі кепска; увесь час у паветры носіцца пыл ад матар'ялу, ён лезе ў вочы, пад адзежу, яго ўдыхаюць. Вэнтыляцыі ў гэтым аддзяленьні няма. Рабочым выдаецца спэцвопратка — кашулі, рукавіцы.

*Ванна.* Прыгатаваная маса праз кожныя паўгадзіны падвозіцца па рэйках на ваганэтках да жарала вялікай печы, пабудаванай з агнятрывалага матар'ялу, і ўсыпаецца ў яе разам з бітым шклом. Печ мае сьпераду тры нявялічкія дзіркі, праз якія відаць агонь такі бліскучы, што вачом балюча; ззаду печ канчаецца паўкругам. Гэта ванна.

У ванне ўвесь час пры дапамозе газа, які здабываецца ў асобнай печы на дварэ гуты, падтрымліваецца тэмпэратура ня ніжэй 1400°. Пад дно ванны па асобных трубах накіроўваецца халоднае паветра, якое ахаладжвае ніжнюю частку расплаўленай масы. З працілеглага ад жорала боку печ мае форму паўкругу, у якім ёсьць 11 дзірак, або, як іх тут завуць, „нумароў", праз якія рабочыя набіраюць масу для выдуваньня.




Каля кожнага нумару працуе 7 чалавек; месца, дзе яны працуюць, завецца „стулам" або „вярстаком"; кожны стул мае вэнтылятар.

З сямі чалавек — тры лічацца майстрамі, яны выдуваюць слоікі альбо бутэлькі; побач з імі працуе адшыбальшчык, які здымае з трубкі бутэльку і перадае яе баначніку, які выціскае на неастылым матар'яле рыла; тут-жа працуюць павяртальшчык і адношчык.

Самы працэс вырабу бутэлькі адбываецца такім чынам. Рабочы набірае на канец трубкі даўжынёю 1,25—1,3 м. невялічкую колькасьць расплаўленай масы, выдувае з яе маленькі пузырок і перадае трубку другому рабочаму, які крыху адстудзіць масу і вешае трубку ля печы. Калі дойдзе чарга да гэтай трубкі (а ў сіх трубак ля нумару 3-4), рабочы набірае на гэты пузырок ужо больш масы, перадае яе другому рабочаму, які на асобным мэталёвым кавалку падраўноўвае гэтую масу і праз трубку раздувае з яе мяшок; апошні ўстаўляецца ў мэталёвую форму бутэлькі, якая зачыняецца націскам нагі. Уставіўшы масу ў форму, майстар раздувае яе яшчэ больш і круціць у форме — калі бутэлька гладкая; калі на бутэльцы павінны адбіцца словы, — вярчэньня ня бывае. Каб маса ня прыстала да формы, апошнюю пасыпаюць у сярэдзіне жытняй мукой — „мукуюць“ форму. Праз некалькі сэкунд майстар вымае бутэльку з формы і перадае яе абрэзчыку.

Слоікі рабяцца такім самым спосабам, як і бутэлькі, але-ж форма для слоікаў не адчыняецца і яе ня мукуюць, а высьцілаюць у сярэдзіне саломай.

Уся работа ў „нумары“ працякае хутка, узгоднена і патрабуе ад рабочых вялікай спрытнасьці і ўважлівасьці, бо калі хто-небудзь зазяваецца, яго можна абварыць расплаўленай масай. У часе працы ня можа адлучыцца ні адзін рабочы, бо тады праца ў вярстаку спыніцца; рабочаго здымаюць з працы і замяняюць іншым толькі ў выпадку няшчасьця.

У часе працы здалёку бачыш, як у паветры лётаюць вагністыя кулькі — гэта рабочыя перадаюць адзін аднаму выдувальныя трубкі. Асабліва прыгожа бывае ўначы.

Абрэзчык зьмяшчаецца побач ля маленькай печы, якая завецца „кукушкай“. У ёй таксама вялікая гарачыня. Тут працуе 2 рабочых. Абрэзаную бутэльку кладуць рылам у печку; яна праз кароткі тэрмін накальваецца; рабочы пры дапамозе асобных шчыпцоў падраўнівае і выціскае рыла бутэлькі. Пасьля гэтага бутэльку кладуць на асобную — падвойную — лапатку, і адносчык нясе яе ў закальную печ, альбо ў „цянульню“.

*Цянульня.* Гэта дзьве доўгія печы з дзіркамі па бакох; у сярэдзіне печы праложаны рэйкі, на якіх стаяць ваганэткі. Дзіркі ў печы разьмеркаваны так, што кожная з іх прыходзіцца супроць ваганэткі. Пустуе ваганэтку ўводзяць з канца A, у аддзяленьнях a і b — гарыць




агонь; далей агню ўжо няма. Цераз першыя 2 вакны кладуць з лапатачак бутэлькі або слоікі на ваганэткі; у 2-м вакне яны ўжо будуць наложаны дагары. Пасьля гэтага даецца званок, і рабочы з канца B пры дапамозе ворату падцягвае ўвесь шэраг ваганэтак на адну ўпе-

рад; з канца А ў першае аддзяленьне падыходзіць пусты вагончык, у В — выпаўзае вагончык нагружаны бутэлькамі проста ў сартавальню. Такім чынам, кожны вагончык абавязкова супыніцца супроць кожнага вакенца печы і, пакуль пройдзе шлях з А ў В, бутэлькі пасьпяваюць астыгаць.

*Сартавальня*. Гэта вялікі, прахаладны і сьветлы пакой. Уздоўж сьцяны пастаўлены шырокія лавы, на якія ставяць бутэлькі. Рабочыя, адсартоўваючы судзьдзё, аглядаюць яго і адстаўляюць у бок брак. Бракованымі лічацца тыя бутэлькі, дзе сустракаюцца вагнутасьць, пузыры, расколіны, альбо нягладкае рыла. Адсюль фабрыкат выносіцца на двор пад адчыненае неба, складаецца і ўпакоўваецца.

На ўпакоўцы занята некалькі жанчын. Яны кладуць у рагожныя мяшкі бутэлькі, слоікі, перакладаючы іх радамі саломы. Бутэлькі—паўлітровыя-кладуцца па 5 бутэлек у рад; мех зьмяшчае 200 бутэлек. Зашытыя мяхі грузяць на падводы і адпраўляюць у Бабруйск. Адна жанчына можа ў 8-мігадзінны працоўны дзень напакаваць 35 мяхоў, атрымліваючы па 5 кап. з меха.

Перад упакоўкай бутэлек агэнты Дзяржсьпірту звычайна іх правяраюць. З тысячы бутэлек выбіраюць сотню і спрабуюць, апускаючы бутэлькі ў растоплены ляк(сургуч), ці вытрымаюць яны тэмпэратуру гарачага ляку; вылічваюць % трэснутых і на кожную тысячу дадаюць гэты %.

На гуце маецца шэраг дапаможных аддзяленьняў, абслугоўваючых завод: сьлясарня, кузьня, ганчарня, пільня.

Сьлясарнае аддзяленьне мае такарны варштат, тачыльны варштат і бор-машыну, вырабляе мелкія часьці для машын, папраўляе папсаваныя. Аддзяленьне знаходзіцца ў асобным памяшканьні. У сьлясарні 10 рабочых.

Невялічкая кузьня зьмяшчаецца ў дрэўнай будыніне; у ёй папраўляюць мэталевыя папсаваныя рэчы (асабліва выдувальныя трубкі).

У ганчарным аддзяленьні вырабляюць з агнятрывалага матар'ялу розныя часткі для пячэй, у тым ліку і для ванны, прыкладам — трубы для „нумароў", пліты для сьценак ванны і інш.

Продукцыя заводу характарызуецца наступнымі лічбамі за 1927-1928 бюдж. год.

| Назва продукту | Лік яго (шт.) | На суму (руб.) |
|---|---|---|
| Шкло лямпавае . . . . . . | 30222 | 1005 |
| Лямпы ручныя . . . . . | 61990 | 2620 |
| Бутэлькі для гарэлкі—1/2 літ. . | 3140366 | 209982 |
| „ „ „ 1/4 „ | 4311406 | 208288 |
| „ „ „ 1/4 вядра. | 63932 | 16402 |
| Падстаўкі для лямп 5 лінейн. | 495768 | 22912 |
| „ „ „ 7 „ | 277911 | 14775 |
| „ „ „ 10 „ | 281001 | 12251 |
| „ „ „ 6 „ | 140001 | 5974 |
| „ „ „ 8 „ | 159469 | 6661 |
| „ „ „ 11 „ | 97397 | 4950 |
| Слоікі аднафунтовыя . . . . | 23395 | 1805 |

| Назва продукту | Лік яго (шт.) | На суму (руб.) |
|---|---|---|
| Слоікі 2 аднафунтовыя . . . | 15808 | 1520 |
| „ 3 „ . . . | 34742 | 4113 |
| „ 5 „ . . . | 41373 | 6087 |
| „ 7 „ . . . | 34957 | 6144 |
| „ 13-ці фунтовыя . . . | 68833 | 7043 |
| „ 12 „ „ . . . | 77593 | 4997 |
| „ 15 „ „ . . . | 28657 | 7424 |
| „ 20 „ „ . . . | 17764 | 6640 |
| „ 25 „ „ . . . | 4190 | 1749 |
| Бутлі 1-фунтовыя. . . . . | 15571 | 2641 |
| „ 5 „ . . . . | 1008 | 158 |
| „ 10 „ . . . . | 3674 | 1785 |
| „ 12 „ . . . . | 9435 | 2577 |
| „ 30 „ . . . . | 171 | 87 |
| Усяго . . . | — | 563589 |

З прычыны цяжкасьці працы выдувальны цэх працуе ў 4 зьмены — па 6 гадз. у суткі; у гэты лік уваходзіць і паўгадзінны перапынак на сьнеданьне.

Усе іншыя аддзяленьні маюць 8-гадзін. працоўны дзень, пры гэтым матар'яльнае аддзяленьне працуе на 3 зьмены, іншыя — у 1 зьмену.

У апошні час завод выпрацоўвае амаль выключна бутэлькі $^1/_4$, $^1/_2$, літровыя і трохлітровыя, атрымаўшы заказ ад Дзяржсьпірту на выраб у працягу году 11.000.000 бутэлек. З задачай завод справіцца раней вызначанага тэрміну — гэта відаць па колькасьці выпрацаванага фабрыкату за апошнія 9 м-цаў.

Спарборніцтва і агульная сьвядомасьць рабочых, дзякуючы працы парт'ячэйкі (каля 70 чал.) і ячэйкі ЛКСМ (каля 150 ч.), значна падвышаюць продукцыйнасьць заводу, што відаць з зьніжэньня браку і бою. Як асаблівасьць працы, трэба адзначыць, што ў летні час продукцыйнасьць заводу зьніжаецца: калі ўзімку адзін „стул" выпрацоўваў 1400—1500 бутэлек у адну зьмену (3 майстры), дык улетку, з прычыны знадворнай гарачыні, толькі 900—1000 бутэлек за той-жа час.

Завод „Комінтэрн" па сваёй продукцыйнасьці лічыцца адным з лепшых.

### Быт.

Усіх рабочых на заводзе лічыцца 508 чалавек; яны разьмяркоўваюцца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| падлеткі | мужч.—29; | дарослых | мужч.—265 ч. |
| „ | жанч.—28; | „ | жанч.—186 ч. |
| | 57 ч. | | 451 ч. |

Партыйцаў на заводзе 70 чалавек, членаў ЛКСМ і кандыдатаў — 150 чал.; ёсьць атрад піонэраў.

Кантора ў сваім складзе налічвае 17 чал.

У склад заўкому ўваходзіць 9 членаў і 2 кандыдаты. Задачы яго — клапаціцца аб паляпшэньні ўмоў працы, абароне інтарэсаў рабочых, падвышэньні якасьці працы. Пытаньні зарплаты, пераабсталяваньня, забудоўлі вырашаюцца разам з дырэктарам заводу; прыём і звальненьне рабочых праводзіцца пад контролем заўкому.

Праца заўкому выяўляецца ў працы камісій—РКК, аховы працы, культасьветнай; ёсьць каса ўзаемадапамогі і вучнёўская камісія, задача якой абмяжоўваецца праверкай ведаў вучняў пры пераводзе іх у больш кваліфікаваную ступень.

Культасьветная праца ў гэтым годзе разгорнута менш, як у мінулым, галоўным чынам з-за адсутнасьці памяшканьня. Як было ўжо сказана, у прошлым годзе згарэў клюб, і праца часова, да пабудовы новага клюбу (да будоўлі яго ўжо прыступілі), перанесена ў агульнае памяшканьне і праводзіцца ў 3-х пакоях. Таму частка гурткоў, якія існавалі раней, часова спыніла сваю працу.

Бібліотэка налічвае 2063 экз. кніг. Яны выдаюцца рабочым для чытаньня на рукі на 2 тыдні; больш за ўсё запросаў ёсьць на бэлетрыстыку. У бібліотэцы запісана 440 чалавек. Газэты і часопісы чытаюцца ў чытальні часовага клюбу.

Ёсьць свая газэта — Ільлічоўка, пераноснага тыпу — „Выдувальщик“—якая налічвае 47 рабкораў; нататкі ў ёй зьмяшчаюцца на расійскай мове. Пры клюбе існавалі наступныя гурткі: драматычны,—які ставіў амаль кожны тыдзень спэктаклі; музычны—струнны оркэстр—які выступаў разам з драматычным; харавы (цяпер ня мае кіраўніка); фізкультурны, праца якога працякае вельмі добра (лыжнікі ўзялі прыз на спаборніцтве ў Бабруйску).

У сьценгазэце зьмяшчаюцца артыкулы лёгкай кавалерыі, якая організавалася тутака з лютага м-ца г/г.; яна ўжо шырока разгарнула сваю працу, зьвязалася з атрадам Маскоўскай лёгкай кавалерыі і імкнецца вайсьці ў сувязь з суседнімі атрадамі.

У клюбе маецца радыё з гучнагаварыцелем.

Некалькі год ужо пры гуце існуе духавы оркестар; кіраўнікі духавога оркестру і спортыўнага гуртка атрымліваюць пэнсію; кіраўнікі іншых гурткоў працуюць у парадку грамадзкай нагрузкі.

Ёсьць пры гуце ячэйкі МОПР'у і Асоавіяхіму; кожная з іх налічвае па 425 членаў. Завод шэфствуе над вёскай Рымаўцы; там рабочыя адчынілі чырвоны куток, даюць туды газэты, ставяць лекцыі і праводзяць чыткі.

Сярод рабочых ёсьць шмат палякаў; для абслугованьня іх у бібліотэцы маецца польская літаратура.

Рэлігія на заводзе аджывае свой век. Калі яшчэ некаторыя старыя наведваюць царкву, дык пра моладзь гэтага сказаць нельга. У рэлігійныя сьвяты праца адбываецца звычайным парадкам; рэволюцыйныя сьвяты спраўляюцца ўрачыста; усе рабочыя прымаюць актыўны ўдзел як у падрыхтоўцы да сьвята, гэтак і ў мітынгах, дэмонстрацыях, вечарынах і інш. Яшчэ ў 1924 годзе да польскага насельніцтва на завод прыяжджаў ксёндз, але з таго часу ён сюды больш не паказваецца.

Лаянкі, грубасьці на заводзе амаль ня бываюць. У прошлам годзе назіраліся мелкія выпадкі антысэмітызму і шовінізму, але-ж дзякуючы працы парторганізацыі ЛКСМ—гэта зьнішчана.

На заводзе працуе сталоўка, якая абслугоўвае выключна рабочых і членаў коопэрацыі. Яна часова зьмяшчаецца ў дрэнным будынку—невялічкім, цёмным, няпрыглядным. Абеды — па 30-35 кап. — адпу-

скаюцца рабочым і пайшчыкам коопэрацыі. Сьнеданьне—чай і да яго вялікі кавалак хлеба з маслам—каштуе 17—19 кап. Продукты ў сталоўку дае коопэрацыя.

Рабочыя жывуць у пасёлку пры гуце ў невялічкіх хатах, абсталяваных досыць прытульна, з фотоздымкамі, портрэтамі правадыроў. Свабодны час рабочыя больш праводзяць у клюбе; калі быў стары клюб, дык там чыталіся лекцыі, ставіліся п'есы, дэмонстраваліся кінокарціны з таннымі месцамі—па 10-15 кап.

Тут-жа ў пасёлку маецца больніца, куды накіроўваюць рабочых у выпадку сур'ёзнага параненьня або хваробы. Пры заводе маецца амбуляторыя, што дае першую дапамогу ў няшчасных выпадках, якія здараюцца даволі часта: парэзы аб шкло, ажогі растопленай масай і інш. Вельмі часта рабочыя хварэюць на лёгкія, асабліва выдувальшчыкі. Такім чынам, на заводзе мы маем:

1) Моцны склад парторганізацыі—партыйцы і комсамольцы складаюць звыш 40% ад усіх рабочых (508 ч.).

2) Добра разгорнута культасьветная справа і выяўляецца значная сьвядомасьць рабочых. Аб апошнім сьведчыць нататка ў газэце „Камуніст“ (№ 73 ад 3/VII-29 г.), дзе сказана, што рабочыя заводу „Комінтэрн“ ня толькі здаюць самі аблігацыі дзярж. пазык на хаваньне, але бяруць на сябе абавязак растлумачыць вакольнаму сялянству значэньне пазык і іх захаваньня і выклікаюць на гэта-ж рабочых заводу „Кастрычнік“.

3) Робяцца захады да мэханізацыі заводу. Гэта можна бачыць на апошнім дасягненьні ў генэратары: раней рабочыя па сьлізкіх сходах (каля 20 шт.) выносілі ўгару на плячох попел з печы, падалі часта і калечыліся; цяпер паставілі лябёдку з каўшамі, куды качагар насыпае попел з печкі, і ён мэханічна (электрычнасьцю) выцягвае ўгару і высыпае ў падстаўленыя скрынкі.

4) Па продукцыйнасьці завод „Комінтэрн“ адзін з лепшых—як па колькасьці фабрыкатаў, гэтак і па якасьці іх. У гэтых 2-х напрамках іншыя заводы раўняюцца з „Комінтэрнам“.

Адначасова:

1) неабходна паставіць выцяжныя трубы і больш моцную вэнтыляцыю ў матар'яльным аддзяленьні;

2) павялічыць асьвятленьне ў выдувальным аддзяленьні;

3) правесьці вадаправодныя краны да ванны;

4) зрабіць паветкі на складзе, бо ў часе дажджу рабочым прыходзіцца альбо спыняць працу, альбо пераносіць у зачыненае памяшканьне, на што дарэмна траціцца час;

5) організаваць, як належыць, сталоўку.

---

**С. Нікіфаровіч.**

# Саўгас „Весялова“ імя т. Чарвякова.

*(Барысаўскі раён).*

Саўгас Весялова знаходзіцца на адлегласьці 20 клм. ад г. Барысава (у паўночна-заходнім кірунку) і 6 клм. ад мястэчка Зембін і займае вельмі прыгожае месца па левым узвышаным беразе р. Бярэзіны. Паверхня тут зьлёгку хвалістая, крыху схіленая да даліны ракі. Праз тэрыторыю саўгасу праходзіць шырокая грунтавая дарога Барысаў—

Зембін—Плешчаніцы. Штодзённа ад Барысава да Зембіна ходзіць аўтобус, што дае магчымасьць саўгасу лёгка зносіцца як з раённым (Барысаў), так і акруговым (Менск) цэнтрамі.

На 3-хвярстовай глебавай карце, складзенай проф. Афанасьевым для ўсяе былой Барысаўскай акругі, відаць, што глебы тут сустракаюцца 2-х тыпаў: слаба падзолістыя і сярэдня падзолістыя. Мэханічны склад іх наступны: 1) пяскі пухкія, дробна-зярністыя і 2) супесі буйнапескаватыя. Слаба падзолістыя глебы на глыбіні 1,5 мэтра падсьцілаюцца морэнай, часта з прамежным пластом шчабенчата-жвіровых пяскоў. Сярэдня падзолістыя — на глыбіні 20—40 см. падсьцілаюцца ці пяском, потым морэнай на глыбіні да 1,5 мэтра, ці непасрэдна морэнай на глыбіні ад 0,5—1 мэтра. Па даліне р. Бярэзіны сустракаюцца пойменныя ўтварэньні, а таксама глебавыя комплексы — падзол, балоцістыя, тарфяна-глеявыя і дробныя травяністыя тарфянікі.

Сярэднія лічбы (за 20 год), характарызуючы клімат, узяты з мэтэоролёгічнай станцыі г. Барысава, як самай бліжэйшай да саўгасу. Сярэднія месячныя тэмпэратуры наступныя: студзень — 6,2°С, люты — 5,4°, сакавік — 1,3°, красавік 5,4°, травень 12,5°, чэрвень 17°, ліпень 18,4°, жнівень 16,6°, верасень 11,7°, кастрычнік 5,6°, лістапад 0,2°, сьнежань — 4,2°. Сярэдняя гадавая тэмпэратура 5,8°С. Такім чынам, самы сьцюдзёны месяц студзень (— 6,2°) і самы цёплы — ліпень (18,4°). Сярэдняя месячная тэмпэратура ніжэй нуля назіраецца 4 месяцы (сьнежань, студзень, люты, сакавік). Пачатак вэгетацыйнага пэрыоду адносіцца да паловы красавіка пры сярэдняй тэмпэратуры 5,4° і канец вэгетацыйнага пэрыоду прыходзіцца на сярэдзіну кастрычніка, які мае сярэднюю тэмпэратуру 5,6°.

Ападкаў выпадае ў дастатковай колькасьці і разьмяркоўваюцца яны па сэзонах году досыць спагадна. Вельмі працяжных сухменяў, ці дажджоў, не назіраецца. Сярэдняя гадавая колькасьць ападкаў 645 мм. У разьмеркаваньні ападкаў па сэзонах году можна бачыць:

| Восень | Зіма | Вясна | Лета |
|---|---|---|---|
| 147 мм. | 102 мм. | 133 мм. | 261 мм. |

што найбольшая колькасьць іх выпадае летам (41% ад гадавой колькасьці, увосень 22%, вясной 21% і ўзімку 16%). Месяц з найбольшай колькасьцю ападкаў—ліпень і з найменшай — люты.

Ясных дзён у год бывае 60, хмарных 165 і воблачных 140. Найбольшая колькасьць ясных дзён прыходзіцца на красавік і травень (7); найменшая на лістапад і сьнежань (2).

Пануючыя ветры паўднёва-заходнія, у асобныя месяцы вецер адхіляецца к захаду (летам) і поўдню (увосень і ўзімку).

Сярэдняе выпадзеньне першага сьнегу восеньню 18 кастрычніка і апошняга 27 красавіка.

Працяжнасьць зімы каля 4-х месяцаў.

Рака Бярэзіна замярзае ў сярэднім 8 сьнежня і ўзьнімаецца 5 красавіка.

У ваколіцах саўгасу сустракаюцца наступныя дрэўныя пароды і хмызьнякі: сасна (Pinus silvestris L.), елка (Picea vulgaris Link), ядловец (Juniperus communis L.). З лісьцвяных — найбольш распаўсюджанай зьяўляецца алешына чорная (Alnus glutinosa Gaertn), (асабліва каля балот, сенажацяў, на поймах рэк), бяроза (Betula verrucosa Ehrh) асіна (Populus tremula L.), дуб (Quercus pedunculata), розныя віды вярбы (Salix), арэшына (Corylus Avellana L.), рабіна (Sorbus aucuparia L.), чарэмха (Prunus Corylus L.).

крушына крохкая (Rhamnus Frangula L.), каліна (Viburnum Opulus L.). Травяное акрыцьцё скадаецца з наступных расьлін. Так, абапал грэблі паміж вёскай Зьвінятамі і саўгасам сустракаюцца белакапытнік балотны (Calla palustris L.), дуброўка балотная (Potentilla palustris Scop), пухоўка шыракалістаявая (Typha latifolia L.), шальнік трыпутнікавы (Alisma Plantago L.), валер'яна лекавая (Valeriana officinalis L.), вятроўнік вязалістаявы (Filipendula Ulmaria Maxim), чальчак звычайны (Lythrum Salicaria L.), геранія лесавая (Geranium silvaticum L.), маруна балотная (Galium palustre L.), казялец вогнікавы (Ranunculus Flammula L.), казялец востры (Ranunculus acer L.).

Каля дарогі в. Крычын-Весялова сустракаюцца: трыпутнік вялікі (Plantago major L.), трыпутнік сярэдні (Plantago media L.), трыпутнік лянцэтаваты (Plantago lanceolata L.), гусялапка звычайная (Alchemilla vulgaris L.). Дуброўка гусіная (Potentilla Anserina L.), брунэлька звычайны (Brunella vulgaris L.), крываўнік звычайны (Achillea Millefolium L.), звонкі лугавыя (Campanula patula L.), звонкі круглалісьцевыя (Campanula rotundifolia L.). дзяцеліна белая (Trifolium repens L.), дзяцеліна чырвоная (Trifolium pratense L.), дзяцеліна палёвая (Trifolium agrarium L.), дмухавец звычайны (Taraxacum officinale L.), маруна праўдзівая (Galium verum L.), сьвятаяньнік дзіркаваты (Hypericum perforatum L.), лазоўка звычайная (Lysimachia vulgaris), баршчэўнік звычайны (Heracleum sibiricum L.), паўночнік звычайны (Knautia arvensis Coult.), рамонак лугавы (Chrysanthemum Leucanthemum L.), панікніца звычайная (Geum urbanum L.), валошка-васілёк (Centaurea Cyanus L.), рамонак праўдзівы (Matricaria Chamomilla L.), вэроніка доўгалісьцевая (Veronica longifolia L.), крапіва рознапнёвая (Urtica dioica L.), Лапушнік (Lappa tomentosa L.), зябер вялікі (Galeopsis speciosa Mill.), купалка вострая (Erigeron acer L.), браткі звычайныя (Viola tricolor L.), сьвірэпка звычайная (Raphanus Raphanistrum L.), стрэлкі звычайныя (Capsella Bursa pastoris Moench), мяжоўка цімафейка (Phleum pratense L.), вострыца дзернавая (Deschampsia caespitosa), Мятліца звычайная (Agrostis vulgaris With.), мятла збожжавая (Apera Spica Venti), каласоўнік жытавы (Bromus secalinus L.), томка пахучая (Anthoxanthum odoratum L.), мурожніца лугавая (Festuca pratesis Huds), Пырнік паўзучы (Agropyrum repens L.), Мятлюжок аднагадовы (Poa annua L.).

У саўгасе ёсьць парк (1,6 гэкт.) з 4 ліпавымі алеямі ў выглядзе літары „П". У флёрыстычным стасунку ён не зьяўляецца вельмі цікавым. У парку растуць наступныя дрэўныя пароды: ліпа (Tillia cordata L.), клён звычайны (Acer platanoides L.), таполя лаўралісьцёвы (Populus laurifolia Ledeb), таполя срэбралісьцёвы (Populus alba), асіна (Populus tremula L.), бяроза гузаватая (Betula verrucosa Ehrh), ясень звычайны (Fraxinus excelsior L.), дуб звычайны (Quercus pedunculata Ehrh), граб звычайны (Carpinus Betulus L.), каштан конскі (Aesculus Hippocastanum L.), ляшчына лесавая (Corylus Avellana L.), рабіна звычайная (Sorbus aucuparia L.), Бэз (Syringa vulgaris L.), вярба крохкая (Salix fragilis L.), вярба звычайная (Salix alba L.), глог чырвоны (Crataegus canguinea Pall), сьпірэя рабіналісьцёвая (Spiraea sorbifolia L.).

Парк мае досыць запушчаны выгляд. Відаць, што даўно ўжо не даглядае яго чалавек. Можна толькі пашкадаваць, што кіраўніцтва саўгасу не зварачвае на яго належнай увагі. Яго лёгка можна прывесьці ў культурны выгляд і зрабіць лепшым месцам адпачынку для рабочых.

Саўгас Весялова зорганізаваўся ў 1917 г. на абшарах б. маёнтку пана фон-Панцара. Крыху пазьней да яго быў далучаны б. маёнтак Цюндзявіцкага Язэпа „Крычын".

Усяго зямлі ў саўгасе налічваецца 1008,2 гэкт., разьмеркаваньне якой па ўгодзьдзях (у гэктарах) можна бачыць з наступнай табліцы:

| Поле | Луг | | Балота | Пад хмызьняком | Гарод | Сад | Парк | Пад сядзібай | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Заліўны | Сухадольн. | | | | | | | |
| 316,8 | 38 | 2,2 | 374,8 | 239,4 | 4,9 | 6,5 | 1,6 | 24 | 1008,2 |

Пад вадой (вазёры, рэчкі) знаходзіцца 24 гэктары і пад дарогамі 6,5 гэкт.

Севазварот у саўгасе 8-мípольны: 1. папар, 2. жыта, 3. бульба, 4. ярына з канюшынай, 5. канюшына (I укос), 6. канюшына (II укос), 7. бульба, 8. авёс. У кожным полі каля 40 гэктараў зямлі. Засеў робіцца сеялкамі, якіх у саўгасе 4. Пасеўны матар'ял выкарыстоўваецца галоўным чынам свой. У 1929 годзе частка ўласнага аўсу („шацілаўскага") была абменена ў Белсельтрэсьце на „залаты дождж".

Угнаеньне ўносілася пераважна ў форме гною і толькі ў 1929 г. стала ўжывацца мінэральнае ўгнаеньне. Колькасьць гною і мінэральных угнаеньняў (у тонах і цэнтнэрах), якая была пакладзена пад асобныя культуры па гадох, відаць з наступнай табліцы:

| Назва культур | 1926 г. | | 1927 г. | | | 1928 г. | | 1929 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гной | | Гной | | Мінэр. угнаен. | Гной | | Гной | | Мінэральн. угнаеньне | |
| | Гэк. | Тоны | Гэк. | Тоны | Тоны | Гэк. | Тоны | Гэк. | Цэнт. | Гэк. | Цэнт. |
| Жыта . . | 58 | 1763 | 29 | 882 | 16,5 | — | — | — | — | — | — |
| Бульба . . | 36 | 127 | — | — | — | 14 | 2696 | 38 | 7208 | 70 | 285 |
| Гародн. . | 5 | 84 | 5 | 135 | — | — | — | — | — | — | — |
| Папар . . | — | — | — | — | — | 38 | 1126 | 5 | 1960 | 35 | 96 |
| Кораньпл. . | 8 | — | — | — | — | 8 | 145 | 8 | 1664 | 13 | 26 |
| Авёс . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 14 | 123 |
| Ячмень . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 4 | 20 |
| Пшаніца. . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | 5 |
| Выка . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 4 | 20 |
| Люпін . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 4 | 20 |
| Сад . . . | — | — | 4,5 | 86 | — | — | - | — | — | — | — |
| Усяго . | 99 | 1974 | 38,5 | 1103 | 16,5 | 60 | 3967 | 51 | 10832 | 145 | 898 |

Апрача гною і мінэральнага ўгнаеньня, саўгас ужывае яшчэ і зялёнае (люпінавае) ўгнаеньне. Так, у 1927 г. пад люпінам знаходзілася 5 гэкт.

Галоўныя палявыя культуры, якія засяваюцца ў саўгасе, наступныя: жыта, авёс, ячмень, бульба, кораньплоды. Сярэдні ўраджай іх у кілёграмах з 1 гэктару па гадох наступны:

| Гады | Жыта | Авёс | Ячмень | Бульба | Карань-плоды |
|---|---|---|---|---|---|
| 1923 | 740 | 700 | 685 | 6759 | 19000 |
| 1924 | 830 | 710 | 720 | 6812 | 20000 |
| 1925 | 886 | 724 | 592 | 8000 | 22000 |
| 1926 | 942 | 767 | 1161 | 9360 | 23200 |
| 1927 | 1080 | 800 | 772 | 12800 | 25600 |
| 1928 | 400 | 800 | — [1]) | 9000 | 9346 |

Зьніжэньне ўраджайнасьці некаторых культур у 1928 г. тлумачыцца вельмі няспрыяючымі мэтэоролёгічнымі ўмовамі, як, напр., празмернае выпаданьне ападкаў, у выніку чаго павымакала значная плошча пад жытам.

Валавая продукцыя (у тонах) памянёных вышэй культур па гадох выражаецца ў наступных лічбах:

| Гады | Жыта | Авёс | Ячмень | Бульба | Карань-плоды |
|---|---|---|---|---|---|
| 1926 | 60 | 47 | 16 | 358 | 34 |
| 1927 | 98 | 48 | 6 | 524 | 115 |
| 1928 | 28 | 34 | — [1]) | 640 | 187 |

Пад лугамі 40 гэктараў. Луг пераважна заліўны (знаходзіцца па цячэньні р. р. Бярэзіны і Гайны). Палепшаньня сенажацяў у форме падсеву траў, скароджаньня і ўгнаеньня пакуль што не праводзілася. У гэтым годзе саўгас прыступае да мэліорацыі балот. Намечана асушыць плошчу ў 308 гэктараў. Праца павінна быць выканана на працягу 2-х год.

Сярэдняя ўраджайнасьць і валавая продукцыя сена па гадох наступная:

| Гады | З 1 гэктара ў кілёграмах | Валавая продукцыя (у тонах) |
|---|---|---|
| 1923 | 2400 | — |
| 1824 | 2800 | — |
| 1925 | 2200 | — |
| 1926 | 3500 | 1003 |
| 1927 | 2600 | 975 |
| 1928 | 2000 | 641 |

*) Ячмень не засяваўся.

Сельска-гаспадарчым інвэнтаром і машынамі саўгас забясьпечаны ў дастатковай колькасьці. Ёсьць наступныя прылады і машыны:

| № па чарзе | Назва прадметаў | Коль-касьць | № па чарзе | Назва предметаў | Коль-касьць |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Плугі . . . . . . | 38 | 13 | Жнейкі . . . . . | 3 |
| 2 | Бароны дыск. . . . . | 2 | 14 | Касілкі . . . . . | 3 |
| 3 | „ сенаж. . . . | 2 | 15 | Бульбакапалкі . . . | 4 |
| 4 | „ зыгзаг. . . . | 33 | 16 | Конныя граблі . . . | 2 |
| 5 | „ спрўнжын. . . | 7 | 17 | Паравая малатарня . . | 1 |
| 6 | Акучнікі . . . . . | 14 | 18 | Лёкомобіль . . . . | 1 |
| 7 | Куп'ярэзы . . . . . | 1 | 19 | Сартыроўка . . . . | 1 |
| 8 | Культыват. . . . . | 6 | 20 | Веялкі . . . . . | 3 |
| 9 | Каткі . . . . . . | 5 | 21 | Корнярэзы . . . . | 1 |
| 10 | Сеялкі раскідн. . . . | 2 | 22 | Саламарэзкі . . . . | 1 |
| 11 | „ радавыя . . . | 2 | 23 | Жмыхадрабілкі . . . | 2 |
| 12 | Машыны для штучн. ўгна-еньня . . . . . | 1 | 24 | Прэсы для сена . . . | 1 |
| | | | 25 | Трыер . . . . . . | 1 |

У 1930 г. намечана набыць трактар.

Пад садам 6,5 дзес. Сад параўнальна яшчэ малады і здаецца ў залежнасьці ад ураджаю за 500 р.—1500 р.

Рост жывога інвэнтару па гадох відаць з наступнай табліцы:

| Гады | Коні | Каровы | Маладняк конскі | Маладняк рагаты | Сьвіньні | Маладняк сьвін. | Жарабцы | Быкі | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926 | 40 | 35 | 14 | 27 | 20 | — | 2 | 2 | 140 |
| 1927 | 29 | 73 | 8 | 53 | 4 | — | 3 | 3 | 173 |
| 1928 | 38 | 77 | 2 | 53 | 4 | 12 | 2 | 2 | 180 |
| 1929 | 38 | 76 | 5 | 55 | 18 | 49 | 2 | 5 | 248 |

Парода кароў яраслаўская і семэнтальская (мэтыс). Маладняк увесь яраслаўскай пароды. Вес 1 каровы ў сярэднім 24 пуды.

Сярэдні ўдой каровы ў літрах у год наступны:

| Гады. | Літры. |
|---|---|
| 1923 . . . . . . | 700 |
| 1924 . . . . . . | 800 |
| 1925 . . . . . . | 1112 |
| 1926 . . . . . . | 1144 |
| 1927 . . . . . . | 1801 |

Жывёла корміцца па норме. Умовы ўтрыманьня яе зьмешаныя. Узімку стойлавыя, улетку пасьбішчныя. У 1926-27 г. усё малако перапрацоўвалася ў голяндзкі сыр, які збываўся ў Ленінград па нарадах Белсельтрэсту і ў Барысаўскі ЦРК. З 1928 г. малако перапрацоўваецца выключна ў масла і здаецца ў Барысаўскі ЦРК.

Колькасьць атрыманага масла і сыру (у кілёграмах) па гадох:

| Гады | Масла | | Сыр голяндзкі | |
|---|---|---|---|---|
| | Кілёгр. | На якую суму ў рублёх | Кілёгр. | На якую суму ў рублёх |
| 1926 | 1315 | 2460 | — | — |
| 1927 | 2000 | 4588 | 7162 | 8043 |
| 1928 | 2106 | 4475 | 4755 | 5323 |

Пры саўгасе ёсьць наступныя тэхнічныя прадпрыемствы: крухмальны завод, лесапілка, сукнавальня і млын, якія абслугоўваюцца паравым катлом магутнасьцю ў 30 конскіх сіл.

Крухмальны завод пачаў працаваць з 1928-29 г. За сэзон выпушчана крухмалю: сырога 31 тона, сухога маркі „экстра“ 800 клгр., маркі „прыма“ 18 тон, 1 сорту 2 тоны і крухмалю-гразі 9 тон. Апошні праданы на патаку арцелі „Чырвоны Харчавік“ (Барысаў), а сухі і сыры крухмаль праданы Белхартрэсту. Выручана за ўсю продукцыю 15.092 р. Сыравіны бульбы пераапрацавана за сэзон 325 тон на суму 8125 р.

Бульба скарыстана свая, а частка атрымана ад насельніцтва па контрактацыі. Невялікая, параўнальна, колькасьць продукцыі заводу тлумачыцца тым, што ён працуе толькі першы год. У далейшым гэтая колькасьць будзе павялічана. Штат рабочых заводу падзяляецца на пастаянных і сэзонных. Сэзонных 6 чалавек: 1 майстар і 5 рабочых. Пастаянных 2: 1 машыністы і 1 качагар, якія абслогоўваюць таксама лесапілку, млын і сукнавальню. Лесапілка, млын і сукнавальня абслугоўваюць саўгас і ваколічныя вёскі.

Вытворчасьць млына па гадох наступная:

| Гады | Пераапрацавана простага памолу ў тонах | | Пераапрацавана шатроўкі і круп у тонах | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | Для сялян | Для саўгасу | Для сялян | Для саўгасу | |
| 1926 | 203 | 35 | 43 | 1 | 282 |
| 1927 | 213 | 35 | 15 | 1 | 264 |
| 1928 | 161 | 16 | 7 | — | 184 |

Вытворчасьць лесапілкі і сукнавальні.

| Гады | Распілавана куба-футаў драўніны | | Усяго | Звалена сукна для сялян у мэтрах |
|---|---|---|---|---|
| | Для сялян | Для саўгасу | | |
| 1926 | 318 | 9384 | 9702 | 1107 |
| 1927 | 25796 | 11015 | 36811 | 222 |
| 1928 | 23735 | 8144 | 31879 | Не працавала |

У 1930 г. будуць электрафікаваны ўсе прадпрыемствы саўгасу. Патрэбныя сродкі ўжо адпушчаны.

Саўгас увaходзіць у Беларускі сельска-гаспадарчы трэст („Белсельтрэст"), якому здае гатовую продукцыю сваёй вытворчасьці. Адміністрацыйны апарат саўгасу складаецца з 7 асоб: кіраўнік саўгасу, два яго памоцнікі, жывёлавод, садоўнік, бугальтар, рахункавод. Непасрэдна кіруе саўгасам кіраўнік, які нясе поўную адказнасьць за становішча яго.

Рабочых, апрача падзённых, налічваецца 38 чалавек (34 пастаянных і 4 сэзонных).

Рабочыя і служачыя падзяляюцца наступным чынам:

| Па роду: | | Па нацыянальнасьці: | | Па партыйнасьці: | |
|---|---|---|---|---|---|
| Мужчын | 38 | Беларусаў | 43 | Чл. КПБ(б) | 6 |
| Жанчын | 7 | Яўрэяў | 2 | Чл. ЛКСМ | 4 |
| | | | | Беспартыйных | 35 |

Рабочы атрымлівае 32 р. у месяц з гатовай кватэрай і апалам. Падзённы рабочы атрымлівае: мужчына 1 р. 20 к., жанчына—70 к. Апрача таго, рабочыя маюць права купляць продукты харчаваньня ўласнай вытворчасьці саўгасу па цане на 5% ніжэй продажнай. З прычыны недастатковай колькасьці абаротных грашовых сродкаў бываюць выпадкі несваечасовай выплаты зарплаты рабочым. Усе рабочыя зьяўляюцца сябрамі саюзу працаўнікоў зямлі і лесу. Рабачком складаецца з 5 членаў, 2 кандыдатаў. Ён рэгулюе рабочую сілу саўгасу, клапоціцца аб палепшаньні працы рабочых і ўмоў іх жыцьця. Два разы ў месяц склікаюцца вытворчыя нарады, на якіх абмяркоўваюцца розныя пытаньні вытворчага характару (напр., падрыхтоўка да пасеўнай кампаніі, падрыхтоўка да ўборкі хлеба і інш.).

Лекавая дапамога рабочым і служачым аказваецца Зэмбінскай больніцай.

Пры саўгасе ёсьць клюб, чытальня, бібліотэка, у якой налічваецца каля 500 экз. розных кніг (творы Леніна і інш.). Пры клюбе працуюць наступныя гурткі: палітгурток, профгурток, драмгурток. Ставяцца спэктаклі. Штомесячна выдаецца насьценная газэта „Уперад", у якой адбіваецца ўсё жыцьцё і праца саўгасу. Выпісваюцца наступныя газэты: Беларускі батрак—33 экз., Рабочы—26, Зьвязда—6, Праўда—8, Работніца і Сялянка—3, Труд—1, Профрух—1. Ёсьць школа, у якой навучаюцца 30 чалавек дзяцей рабочых і служачых. Летам працуе дзіцячая пляцоўка (на 20 дзяцей). Саўгас прыняў удзел у соцыялістычным спаборніцтве (выклікаў на спаборніцтва саўгас „Палелюм" імя т. Хацкевіча).

За апошнія гады заўважваецца пранікненьне новага быту. Так 75% рабочых адмовіліся ад сьвяткаваньня рэлігійных сьвят. Цалкам зжыты сярод рабочых лаянкі, бойкі, п'янства.

Сярод вакольнага насельніцтва вядзецца шырокая аграномічная і культасьветная праца. Робяцца выезды ў вёску, ставяцца спэктаклі. За апошні год прачытана 9 дакладаў на розныя тэмы (павышэньне ўраджайнасьці, ачыстка насеньня, збор попелу і інш.). Дадзена бясплатна беднаце рознага інвэнтару (у днях) 23, барон 34, культыватараў 3. Дадзена на летні сэзон 2 вёскам 2 бараны. Узарана і апрацавана сіламі саўгасу 8 гэктараў бедняцкіх гаспадарак. Адсартавана сялянству

насеньня 42 тоны; абменена аўсу 3 тоны. Прадана аўсу на насеньне 6 тон, бульбы 16 тон. Прадана колгасам і індывідуальным гаспадаркам на племя парасят 25 шт., цялят 23 шт.

З усіх пададзеных вышэй лічбаў відаць, што саўгас экономічна ўмацаваўся, аўторытэт яго, як агрыкультурнага цэнтру, сярод насельніцтва павялічваецца, і можна спадзявацца, што ў недалёкай будучыні ён цалкам апраўдае сваё прызначэньне: 1. быць узорнай гаспадаркай для выколічнага сялянства і 2. зьяўляцца буйным фактарам у перабудове і падняцьці вытворчых сіл вёскі.

---

Забела П. У. і Шацкі Т. С.

# Парк пры саўгасе „Барысаўшчызна“ Гомельскай акругі.

Сярод нашай беларускай, даволі аднастайнай, расьліннасьці дзені-дзе пападаюцца цікавыя куткі, у якіх, дзякуючы творчай дзейнасьці чалавека, могуць вольна расьці некаторыя віды паўднёвых расьлін, якія зьдзіўляюць нас сваёю здольнасьцю акліматызавацца і змагацца з нашымі зімовымі маразамі. Такім кутком, дзе свае мясцовыя расьліны цесна зьмяшаліся з чужаземнымі, прывознымі, зьяўляецца невялікі памерамі, але-ж багаты рознастайнасьцю форм парк саўгасу „Барысаўшчына“ Хойніцкага раёну, Гомельскай акругі, які быў абсьледваны намі па даручэньні Гомельскага акруговага краязнаўчага т-ва.

Гэты парк знаходзіцца на захад ад чыгуначнай станцыі Хойнікі, па левым беразе ракі Віці. Мясцовасьць, дзе ляжыць саўгас, роўная, нізінная, месцамі балоцістая. Глеба супескавая і зьлёгка сугліністая. У нізінных частках пад глебаю ляжыць сіняватая гліна (недалёка ад саўгасу ёсьць 2 невялічкія цагельні). Ад станцыі да самага саўгасу цягнецца поле; за саўгасам на правым беразе р. Віці пачынаецца лясістая мясцовасьць, якая даходзіць да р. Прыпяці. Саўгас знаходзіцца пад 52°7′ паўночнай шырыні і 0°32′ заходняй даўжыні ад Пулкаўскага палудзеньніку. Сяліба саўгасу займае каля 20 гэктараў; з іх 10 гэкт. займае фруктовы сад, 2 гэкт. двор і гаспадарчыя будынкі; апошнія 8 гэктар. знаходзяцца пад паркам. Саўгас да рэволюцыі належаў абшарніку, пры якім у канцы 90-х і пачатку 900-х гадоў і быў засаджаны парк. Вялікі ўдзел у стварэньні парку прымаў садоўнік, які зараз жыве ў 8—10 кілёмэтрах ад саўгасу ў вёсцы Багуслаўцах Юравіцкага раёну, Мазырскай акругі. Парк падзяляецца на дзьве часткі: вышэйшую і ніжэйшую. Вышэйшая частка, уласна кажучы парк, плошчаю ў $1^1/_2$ гэкт. знаходзіцца навакол дому і прылягае да фруктовага саду; апошняя ніжэйшая частка разьмяшчаецца ўздоўж рэчкі. Гэтая частка ўся прарэзана сажалкамі. У ёй пераважаюць наступныя пароды дрэў: вольха, елка і ясен; тут-жа трапляюцца мадрына (Larix), рэдкія экзэмпляры ельніцы (Abies); ёсьць многа хмызьнякоў. Уся гэтая частка парку густа зарасла малінаю і хмелем. Верхні парк па складу дрэў значна адрозьніваецца ад ніжняга рознастайнасьцю парод і багацьцем на рэдкія расьліны. Усіх відаў і адмен ува ўсім парку налічваецца звыш 100. Прыблізны ўзрост насаджэньняў 30—50 год. Ёсьць асобныя экзэмпляры, выдатныя сваім узростам і разьмерамі, як шэры гарэх, туі і ельніцы. Пападаюцца расьліны, вельмі рэдкія для данай мясцо-

васьці, як гінкго, туліпаннае дрэва, вечна-зялёны самшыт, некалькі відаў ельніцы, дэкарацыйныя клёны, вечна-зялёная магонія, шыракалістая ліпа амэрыканская, морва белая, астрагал, сумах, цуга канадзкая, кіпарысавік гарохаплодны, кізыл, ірга і інш. Амаль усе гэтыя рэдкія пароды дрэў і хмызьнякоў зараз знаходзяцца ў дрэнным стане. Ад гэткага вельмі рэдкага дрэва, як гінкго, засталіся толькі каранёвыя парасткі. Некаторыя туі, кіпарысавік і ельніцы зусім заглушаны хмелем. Догляду абсолютна ніякага няма, усюды спусташэньне, чаму і гінуць гэтыя цікавыя для нашай мясцовасьці паўднёвыя расьліны. Гэрбары ўсіх гэтых расьлін, сабраны ў часе абсьледваньня, знаходзіцца ў Гомельскім акруговым краязнаўчым т-ве.

Цяпер застановімся больш падрабязна на некаторых выдатных расьлінах парку, якія заслугоўваюць увагі з боку дэкарацыйнасьці, магчымасьцяй выкарыстаньня і тэхнічнага ўжываньня. З голанасенных значнае месца займае сям'я ельніц (Abies). У парку знойдзена 4 віды ельніц. Ельніцы добра пераносяць зацяненьне, маюць пэўнае лесаводнае значэньне. Драўніна іх ня надта каштоўная, але-ж, як дэкарацыйнае дрэва, ельніца зьяўляецца аздобаю паркаў.

1. Ельніца эўропейская ці грабянёвая (Abies pectinata) зьяўляецца адным з важнейшых дрэў Заходняй Эўропы. Драўніна яе белая, мяккая, лёгкая, элястычная, ужываецца для будоўлі і вырабу дошак для музычных інструмэнтаў; дае вэнэцыянскую тэрпэнтыку. Зьяўляючыся пародаю мернага, заходняга, вільготнага клімату, эўропейская ельніца баіцца асеньніх і вясеньніх замаразкаў і далей Польшчы на ўсход не заходзіць.

2. Ельніца сібірская Abies sibirica — адзін з галоўных прадстаўнікоў расьліннасьці сібірскай тайгі. Прыстасаваўшыся да суровага ўсходняга клімату, гэтая парода добра пераносіць самыя моцныя маразы. Расьце яна галоўным чынам у Сібіры, распаўсюджана таксама і ў паўночна-ўсходняй частцы Эўропейскай Расіі. Драўніна яе мала каштоўная.

3. Ельніца бальзамічная(Abies balsamea) расьце звычайна ў Паўночнай Амэрыцы. У нас яе разводзяць у садох і парках. Кара яе надта багата смалою, якая дае так званы „канадзкі бальзам".

4. Ельніца аднакаляровая (Abies concolor) — вельмі прыгожае паркавае дрэва. Расьце яна ў гарах Паўночнай Амэрыкі; на Беларусі сустракаецца толькі ў парках. Гэтая парода добра пераносіць зацяненьне, хутка расьце, асабліва ў моладасьці. У парку расьце некалькі невялікіх дрэў адмены Abies concolor violacea — асабліва прыгожай, якая вызначаецца блакітнаватай ахварбоўкай хвоі.

З вышэйпамянёных відаў ельніц добра выглядаюць і прыносяць плады першыя 2-3 віды; апошні від ня мае дастаткова добрага выгляду, але зусім здаровы і патрабуе толькі больш уважлівых да яго адносін. Сярод прадстаўнікоў гэтага віду ёсьць дрэўцы вельмі прыгожыя па ахварбоўцы і даўжыні хвоі; асабліва вызначаецца адно з іх каля дому, якое, ня гледзячы на паламаныя ніжнія галінкі, выдзяляецца вельмі буйным ростам і магутным выглядам.

З сям'і хваёвых заслугоўвае ўвагі цуга канадзкая (Tsuga canadensis), вельмі рэдкая, каштоўная парода, якая зьяўляецца пераходнай ступеньню ад ельніцы да елкі. Гэтае дрэўца невялікіх разьмераў, з каронаю, падобнаю да ліставых дрэў, з тонкімі, паніклымі ўніз галінкамі. Кара багата гарбоўнымі матэрыямі і тэрпэнтынаю, дае канадзкі бальзам. Адно з найпрыгажэйшых хваёвых дрэў, расьце ў халодных частках

Паўночнай Амэрыкі. Добра пераносіць зацяненьне і любіць глыбокую, ураджайную, вільготную глебу.

З елак (Picea) у парку расьце некалькі відаў: 1. елка звычайная (Picea excelsa) вялізных разьмераў у значнай колькасьці паасобнікаў; 2. калючая елка (Picea pungens), прыкметная сваёй тоўстай шэрай карой і востра-калючай серабрыстай хвояй, 3. белая елка (Picea alba) з шыза-зялёнаю доўгаю хвояй; у парку растуць 2 экзэмпляры белай елкі, якія маюць выгляд высокіх, зграбных колюмнаў і надта прыгожа выглядаюць; 4. чорная елка (Picea nigra) невялічкае дрэўца з маленькаю, цёмна-зялёнаю, густою хвояй 7—12 mm. даўжыні. Тры апошніх віды растуць у Паўночнай Амэрыцы; на Беларусі гэтыя пароды разводзяцца ў парках, галоўным чынам серабрыстыя і шыза-зялёныя формы іх.

З сэкцыі Pinaster, дзьвёхшыпулькавых хвой, у парку знойдзена горная хвоя (Pinus montana) у выглядзе каравага хмызьняку з галінкамі, якія сьцеляцца па зямлі. За адсутнасьцю шышак цяжка вызначыць, да якой адмены належыць гэтая хвоя; па нашай думцы, гэта будзе форма pumilio. На глебу горная хвоя не пераборлівая: яна добра расьце як на скалах і сухіх вапняковых глебах, так і на мокрых імшарах, а таму можа ўжывацца для аблясеньня нашых балот.

З сям'і хваёвых сэкцыі Strobus варта адзначыць Вэймутавую хвою (Pinus strobus), якая мала пашкоджана чужаедамі і захавалася ў добрым стане. Адзін паасобнік налічвае больш за 30 гадоў.

З сям'і кіпарысавых у парку знойдзены прадстаўнікі дзьвёх падсем'яў: Thujopsidineae (Thujo-туя) і Cupressineae (кіпарысавік—Chamaecyparis). З туяў (Thuja occidentalis) туя заходняя, бацькаўшчынай якой зьяўляецца прыатлянтычная частка Паўночнай Амэрыкі. Яна разводзіцца ў Заходняй Эўропе і ў паўднёва-заходняй частцы СССР. У парку ёсьць больш за 35 экзэмпляраў Thuja occidentalis і 4 экзэмпляры яе адмены—Thuja occlutea прыгожага залацістага колеру.

Chamaecyparis pisifera — кіпарысавік гарохаплодны з даўных часоў разводзіцца ў Японіі, а ў Эўропе толькі з канца XIX стагодзьдзя. У парку расьце невялікае дрэўца, стажкаватай формы, якое належыць да адмены—filifera Beiss., форма з доўгімі зьвіслымі, амаль ня сьціснутымі галінкамі, з парасткамі, разгаліненымі толькі на канцы і пакрытымі падаўгаватымі лістамі. Адно дрэва знаходзіцца ў здавальняючым стане, а другое альбо вымерзла, альбо заглушана хмелем.

Найбольш цікавым, з погляду акліматызацыі, дрэвам, бязумоўна зьяўляецца Ginkgo biloba з групы Голанасенных. Яно зусім зрублена, і толькі каранёвыя парасткі і адросшыя на пні галінкі сьведчаць аб гэтай рэдкай расьліне, шырака распаўсюджанай у старажытныя эпохі, а ў сучны момант амаль вымерлай. Яна належыць да клясы ginkgoales, якая складаецца з аднае сям'і, аднаго роду і віду ginkgoaceae, ginkgo biloba. Драўніна яе малакаштоўная, ужываецца для розных вырабаў. Лісьце, падобнае да вахляра, на зіму ападае. Бацькаўшчына ginkgo—Японія і Кітай, але ў дзікім стане яна рэдка сустракаецца, а звычайна разводзіцца там як аздоба храмаў. У СССР сустракаецца ў Крыме і на Каўказе. На Беларусі ёсьць адно добра выглядаючае дрэва ў Гомельскім парку.

Прадстаўнікоў Пакрытанасенных, якія растуць у парку, налічваецца значна больш. Тут зьвяртае ўвагу значны лік featuresнастайна ахварбаваных форм, што прыдае парку вельмі прыгожы і эфэктоўны вы-

гляд. З асобных прадстаўнікоў, больш цікавых з дэкарацыйнага ці гаспадарчага погляду, трэба вызначыць наступныя.

Род Acer. З розных відаў клёну, які мае даволі вялікае гаспадарчае значэньне, тут расьце 6 экзэмпляраў Acer Negundo — Віргінскі клён; дрэвы добра выглядаюць і прыносяць вялікую колькасьць пладоў.




Гінкго двохлопасная. a, b, c — кветкі, d — плод.

Гэты клён прадстаўлены дзьвюма адменамі: Acer Negundo foliis argenteo marginatis — з серабрыстым па бакох лісьцем і Acer Negundo foliis aureo marginatis — з лісьцем, залаціста-жоўтым па бакох. Абедзьве адмены надта аздабляюць парк, здалёку яскрава адбіваючыся на зялёным фоне другіх расьлін, і належаць да групы амэрыканскіх цукравых клёнаў, з соку якіх у Амэрыцы здабываюць цукар. Ёсьць некалькі добрых экзэмпляраў Acer spicatum — канадзкі клён з прыгожымі, зьлёгка ахварбаванымі ў ружовы колер пладамі. Acer platanoides var. atropurpurea — клён з цёмна-чырвоным лісьцем.

Р. Aesculus. У парку расьце конскі каштан — Aesculus Hippocastanum і другі від Aesculus carnea var. coccinea з чырвонымі кветкамі, у ліку 3 экз. Прыгожае, дэкарацыйнае дрэва Р. Alnus. Вольха чорная — Alnus glutinosa ў вялікай колькасьці засяляе нізінную, балоцістую частку парку. Alnus incana, даволі рэдкая на поўдні Беларусі расьліна, прадстаўлена тут дзьвюма адменамі. Адна мае лісьце, зьнізу зусім белае ад валаскоў, падобнае да таполі серабрыстай. Другая мае лісьце, разрэзанае па бакох, і належыць да формы Alnus incana pinnatifida, якая расьце звычайна ў Фінляндыі.

P. Amelanchier vulgaris — ірга круглалістая. Хмызьняк, які сябе даволі добра адчувае, хоць звычайна ён расьце на поўдні — у Крыме. Гадзіцца для ўтварэньня жывой агароджы.

P. Amorpha fruticosa — круцік. Амэрыканскі дэкарацыйны хмызьняк. Можа мець значэньне, як мёданосная расьліна.

P. Astragalus Arnacanta. — Астрагал (куравай) сьпічасты. Невялікі хмызьняк, мае даволі мізэрны выгляд, бо ўвесь абламаны. Цікавы, як прадстаўнік крымскай расьліннасьці.

P. Berberis vulgaris — барбарыс звычайны расьце ў парку ў выглядзе адмены з цёмначырвоным лісьцем.

Berberis aquifolia (Mahonia aquifolia) і Mahonia japonica. Абодва віды прадстаўляюць невялічкі, вечназялёны хмызьняк, які нявысока падымаецца над зямлёю; як здаецца, добра пераносіць зіму, чым і цікавы, зьяўляючыся амаль адзіным прадстаўніком вечназялёных расьлін, якія і выжываюць у беларускім клімаце. Ёсьць некалькі экзэмпляраў абодвух відаў.

P. Buxus sempervirens — самшыт. Другі прадстаўнік вечназялёных расьлін, які сустракаецца звычайна толькі на поўдні — у Крыме, на Каўказе, не падымаецца вышэй ад сьнегавога насьцілу. У парку ёсьць даволі значны лік яго экзэмпляраў, якія ўтвараюць густую, мініятурную агароджу навакол помніка. Знаходзіцца ён у надта добрым стане, зімуючы без усялякага акрыцьця. Драўніна яго надзвычайна моцная і цьвёрдая, вельмі каштоўная, прадаецца на вагу.

P. Carpinus Betulus — граб звычайны. У парку расьце яго адмена з цёмначырвоным лісьцем. Прыгожае дэкарацыйнае дрэва з пахмурным абліччам, якое добра выглядае сярод іншых дрэў з больш жыцьцярадаснай ахварбоўкай. Carpinus orientalis — чорны граб утварае жывую агароджу ўздоўж прысад, што прарэзваюць парк па ўсёй яго даўжыні.

P. Cornus. У парку ёсьць некалькі розных відаў, як напр. Cornus alba, Cornus sibirica, якія маюць дэкарацынае значэньне. У расадніку растуць экзэмпляры з пладамі віду Cornus mas — кізыл, які расьце ў СССР звычайна ў паўднёвай частцы. Гэта хмызьняк, непераборлівы на глебу, дае надта цьвёрдую драўніну і годныя для спажываньня ягады. Лісьце ўжываецца для гарбаваньня скуры.

P. Corylus Avellana var. atropurpurea — ляшчына лесавая. Ёсьць прыгожая адмена з цёмначырвоным лісьцем. Ёсьць і другая адмена з выразанымі па бакох невялікімі лістамі.

Eleagnus argentea — лох белы, родам з Амэрыкі. Пекны, серабрысты хмызьняк, які мае дэкарацыйнае значэньне. Зімуе добра; можа быць выкарыстаны для замацаваньня лятучых пяскоў, бо дае шмат каранёвых парасткаў.

P. Fagus silvatica — бук звычайны. Ёсьць добра разьвіты экзэмпляр. У кліматычных умовах Беларусі — гэта рэдкая расьліна, бо расьце ён дзіка толькі ў паўднёва-заходняй Эўропе, ня бліжэй Польшчы. Культура яго была-б вельмі пажаданай і прыбыткоўнай, бо ён дае добрую драўніну, а з яго гарэшкаў здабываюць алей, мала горшы ад праванскага.

P. Fraxinus excelsior — ясен звычайны. Значны лік раскошных экзэмпляраў гэтай вельмі каштоўнай пароды расьце ў парку. Другі від — Fraxinus americana — таксама добра расьце ў нашых умовах.

P. Forsythia suspensa — форзыцыя. Прыгожы дэкарацыйных хмызьняк, вясною ўвесь абсыпаны жоўтымі кветкамі яшчэ да зьяўленьня лісьця.

P. Hydrangea paniculata — гортэнзія. Раскошны хмызьняк з вялізарнымі, эфэктоўнымі букетамі белых кветак на цёмнай зяляніне, асабліва прыкметны тым, што цьвіце ён пад восень у жніўні месяцы, калі ўсе іншыя расьліны даўно адцьвілі. Каля сажалкі знаходзяцца 2 вялікія кусты, якія добра зімуюць без усялякага догляду за імі.

P. Juglans cinerea — гарэх шэры. У парку растуць два экзэмпляры: адзін магутны, у два абхваты таўшчынёю, а другі яшчэ зусім малады. Малады расьце збоку каля старога, што наводзіць на думку, быццам ён вырас бяз удзелу чалавека. Старэйшае дрэва прыносіць шмат гарэхаў, якія ў некаторыя гады дасьпяваюць і зьбіраюцца сялянамі. Драўніна гарэха вельмі каштоўная, бо дае добры сталярны матар'ял.

P. Ligustrum vulgare — біручына. Гэтая паўднёвая расьліна пышна разраслася каля дому і ўтварае густую агарожу навакол клюмбаў. Прыгожы хмызьняк з вялікімі гронкамі белых кветак. Галінкі яго могуць ужывацца для пляценьня кошыкаў. Ягады даюць сінюю і чырвоную хварбу. На глебу непераборліва.

P. Lyriodendron tulipifera — туліпаннае дрэва родам з Амэрыкі. Паасобнік, які расьце ў парку, выглядае здаровым, моцным і прадстаўляе з сябе нязвычайна прыгожае, даволі вялікае, зграбнае дрэва. Вельмі рэдкая расьліна ня толькі ў Беларусі, але-ж і ў СССР, а між тым яна магла-б значна ў нас пашырыцца і была-б лепшай аздобай нашых паркаў і садоў, бо яна любіць глебу вільготную, глiністую і не баіцца маразоў. Драўніна яе крэмавага колеру, пахучая, добра паліруецца.

P. Morus alba — морва белая. Высокі, моцны экзэмпляр, які знаходзіцца ў парку, прыносіць шмат ягад і зьяўляецца лепшым пацьверджаньнем магчымасьці культуры ў умовах Беларусі гэтай каштоўнай расьліны, якая можа паслужыць асноваю дзеля разьвіцьця новай галіны прамысловасьці—шаўкоўніцтва. Ягады спажываюцца чалавекам, драўніна цьвёрдая, лісьцем кормяць вусеняў-шаўкавічнікаў.

P. Populus pyramidalis — таполя пірамідальная. Увесь шлях, які вядзе ў саўгас, абсаджаны гэтымі таполямі, што надае яму выгляд прысад. Populus balsamifera — таполя бальзамічная. Насупроць кватэры загадчыку саўгасу расьце некалькі вялікіх дрэў, якія асабліва прыемна пахнуць пасьля дажджу.

P. Ptelea trifoliata — вязавік, каменная ліпа. Паўднёвы хмызьняк з далікатным лісьцем расьце ў значным ліку.

P. Quercus pedunculata — дуб. У парку ёсьць некалькі адмен гэтага дубу, надта эфэктоўных, як па ахварбоўцы, гэтак і па знадворнаму выгляду расьліны. Quercus pedunc. atropurpurea з цёмначырвоным лісьцем 1 экз. Quercus ped. aurea — з залацістым лісьцем 3 экз. Quercus ped. fastigiata D. C. — дуб пірамідальны, які мае выгляд зялёнай калюмны 2 экз. і Quercus ped. pendula — плакучы дуб — арыгінальная форма з паніклымі галінамі — 1 экз.

P. Rhus Cotinus — парыковае дрэва. Цікавы хмызьняк, плады якога ў часе дасьпяваньня агорнуты густым, даўгім пухам, які напамінае парык, што прыдае расьліне вельмі асаблівы, маляўнічы выгляд. Лісьце і кара хмызьняку ўжываюцца для гарбаваньня скуры. Паўднёвая расьліна 1 экз.

Rhus typhina — воцатнае дрэва. Паўднёвая расьліна, разводзіцца ў садох. Лісьце ўжываецца для гарбаваньня. Драўніна вельмі шчыльная з прыгожым рысункам. У парку ёсьць 3 вялікія дрэвы.

Staphylea pinnata — клекачка. Прыгожы дэкарацыйны хмызьняк з чароўнымі белымі званочкамі — кветкамі. Паўднёвая расьліна.

Tilia americana — амэрыканская ліпа. Пышны экзэмпляр гэтай ліпы з аграмадным лісьцем расьце ў парку.

Vitis vinifera — вінаград. Па сьцяне будынку, зьвернутай на поўдзень, у пладовым садзе ўецца каля 20 вінаградных лазін, якія ўвосень пакрываюцца буйнымі гронкамі ягад, дасьпяваючых у больш цёплыя гады.

Паміж іншым, у парку намі знойдзены 3 даволі вялікія дрэвы з лісьцем, падобным да ясену, з карою, пакрытаю тоўстым слоем корку, які сяляне часта скарыстоўваюць, з кветкамі, багатымі мёдам, аб чым сьведчыць рой пчол, якія абсыпаюць усё дрэва. Гэтыя дрэвы нам яшчэ не ўдалося азначыць.

Акрамя ўсіх пералічаных расьлін, у парку ёсьць яшчэ значны лік розных хмызьнякоў і дрэў, як напр. Robinia Pseudoacacia—белая акацыя, Larix europea (мардына), Betula (бяроза з выразаным лісьцем), Crataegus coccinea, Oxyacantha (глог), Evonymus europaea (бересклет) і latifolia, Lonicera coerulea (жымаласьць), Deutzia crenata (дэйчыя), Syringa chinensis (бэз кітайскі), Symphoriocarpum (сьнежная ягада), 6 відаў Spiraea, некалькі відаў Ribes, Viburnum і др.

Гэты багаты відамі расьлін парк уваходзіць у склад саўгасу, якому зараз надаецца ўхіл у бок жывёлагадоўлі. У саўгасе ёсьць добрыя пароды кароў, сьвіней, прывезеных з-за межаў, якія пашыраюцца і сярод аколічнага сялянства. Пры саўгасе ёсьць сыраварня, якая выпрацоўвае галяндзкі сыр, 75% якога прызначаецца для вывазу ў Нямеччыну. Сяляне аколічных вёсак дастаўляюць малако ў сыраварню. У саўгасе ёсьць садоўнік, на абавязку якога ляжыць дагляд за пладовым садам, які складаецца з адных маладых яшчэ яблынь і займае плошчу каля 9 гэкт. Усе гаспадарчыя будынкі — добрыя і даволі прыгожыя, як напр. вадакачка пры ўваходзе ў парк. Былы памешчычы дом, новакол якога цягнецца парк, вялікі, на 40 пакояў, з некалькімі ганкамі, з вэрандаю, якая падыходзіць да сажалкі, быў некаліс прыгожы, але зараз увесь абшарпаны; дошкі падлогі і столі, цэглы з печаў, страха — усе гэта разьбіраецца сялянамі, бо дом стаіць зусім пакінуты і не скрыстоўваецца саўгасам. Паркам таксама ніхто ня цікавіцца, у ім пасьвяцца саўгасаўскія коні, якія ламаюць і абгрызаюць гэтыя рэдкія расьліны. Праз парк яшчэ заўсёды ходзяць сяляне з вёскі ў саўгас, і ламаюць галінкі, і абрываюць кветкі. Садоўнік, нагружаны працаю, ня мае часу сачыць за паркам, і гэты прыгожы куток асуджаны на зьнішчэньне. Трэба абавязкова зрабіць што-небудзь, каб захаваць парк, тым больш, што асаблівых выдаткаў тут не патрабуецца: з трох бакоў парк агароджаны моцнай мураванай сьцяной, а з чацьвертага боку яго працякае даволі шырокая рэчка. Трэба забараніць пасьвіць коні ў парку, выцерабіць хмель і маліну, якія глушаць усе расьліны, і павесьці пропаганду сярод сялян за больш беражлівыя адносіны да цікавых расьлін.

# ХРОНІКА.

## Да пытаньня аб зьбіраньні народных тэрміналёгічных матар'ялаў.

Навуковая тэрміналёгія ў іншых дзяржаўных народаў вытваралася сталецьцямі; ад нас гісторыя патрабуе выпрацаваць яе ў ударным парадку. Вось чаму і Комуністычная партыя і Савецкая ўлада адразу-ж зьвярнула належную ўвагу на гэтую важную і адказную справу.

Даць дакладную тэрміналёгію для тае ці іншае навукі, якая-б у поўнай меры адпавядала навуковасьці і здавальняла-б пэдагогічную і штодзённую практыку, — справа нялёгкая, і Інстытут Навуковае Мовы Б. Акад. Навук лічыць, што ўдасканаліць сваю работу зможа ён толькі ў тым выпадку, калі на помач яму прыдзе актыўная работа ўсіх зацікаўленых асоб і ўстаноў.

Спадзяючыся знайсьці вялікае слоўнае багацьце ў жывой народнай мове, Інст. Нав. Мовы думае ў першую чаргу мець падтрыманьне ў сваёй рабоце — у мясцовых краязнаўчых організацыях і таварыствах. Краязнаўчыя таварыствы і гурткі, а таксама іншыя навукова-дасьледчыя і навучальна-асьветныя ўстановы і організацыі на мясцох могуць дапамагчы тэрміналёгічнай справе, зьбіраючы народную тэрміналёгію — назовы ў розных сфэрах народнага жыцьця у розных галінах людзкое працы і ў зьявах прыроды.

Для зьбіраньня народных тэрміналёгічных матар'ялаў Інст. Нав. Мовы выдае програмы, анкеты, друкуе адпаведныя артыкулы ў журналах і газэтах і рассылае іх па жаданьню ўсім культурным работнікам на мясцох.

Кожны, каго абходзіць справа культурнага будаўніцтва ў нашай савецкай краіне, будзе працаваць, зьбіраючы словы - назвы (тэрміны) і запісваць іх дзеля свайго ідэёвага здавальненьня, уласьцівага кожнаму культурнаму работніку, кожнаму дзеячу. Але, каб выдзеліць найлепшых працаўнікоў, Інст. Нав. Мовы пастанавіў прэміяваць лепшыя запісы народных назоў грашоваю нагародаю.

Запісы народных назваў - тэрмінаў могуць падавацца ў альфабэтным парадку асобнымі сшыткамі і на асобных картках, як гэта робіцца з слоўным матар'ялам для слоўніка жывое мовы. Да кожнае назвы трэба дадаць, калі гэта можна, сказ - прыклад, што можа паясьніць значэньне данага слова - назвы. Але можна абмежавацца расійскім ці польскім або іншым перакладам ці беларускім тлумачэньнем або нават рысункам, калі справа ідзе аб тэй ці іншай прыладзе ці прыналежнасьці. Рысункі і наогул вельмі пажаданы.

Пры запісах найлепш трымацца мясцовага вымаўленьня, каб, пераводзячы на літаратурны правапіс, не папсаваць часам кораня слова і яго значэньня.

На ўсе запытаньні Інст. Нав. Мовы дае безадкладныя адказы і парады.

## Чэрвенская экспэдыцыя ЦБК.

У парадку вывучэньня паасобных раёнаў БССР Цэнтральнае Бюро Краязнаўства камандыравала т. Касьпяровіча ў Чэрвенскі раён Менскай акругі. Т. Касьпяровіч М. І. меў на мэце організаваць працу мясцовых краязнаўцаў для ўсебаковага тэматычнага вывучэньня раёну, праінструктаваць іх адносна мэтодаў працы і кіраваць экспэдыцыйнаю працаю тых таварышоў, якія для напісаньня сваіх тэм павінны былі выехаць на раён. Апрача таго, т. Касьпяровіч меў дасьледваць пэўную тэму сам.

Чэрвенскае раённае таварыства краязнаўства ўжо раней распрацоўвала пытаньні апісаньня раёну і таму плян апісаньня быў скарыстаны ранейшы, але значна пашыраны і ўдасканалены. На сходзе актыву таварыства ён быў зноў абмеркаваны і зацьверджаны. Тады-ж былі вылучаны і пэўныя таварышы, якія павінны былі распрацаваць паасобныя тэмы. Такім чынам атрымаўся наступны сьпіс тэм і аўтараў іх:

1. Утварэньне раёну, яго тэрыторыя і паверхня — *Дземяшкевіч.*
2. Абваднeньне раёну — *Бабіцкі.*
3. Клімат раёну — *Катлінскі.*
4. Глебы раёну — *Савіч.*

5. Карысныя выкапні раёну — *Дземяшкевіч.*
6. Расьліннасьць раёну — *Тупяневіч.*
7. Дзікія жывёлы і птушкі — *Дземяшкевіч.*
8. Насяленьне раёну — *Бабіцкі.*
9. Сельская гаспадарка — *Савіч.*
10. Жывёлагадоўля — *Іванова.*
11. Савгасы і колгасы — *Дземяшкевіч.*
12. Коопэрацыя і гандаль — *Якімовіч.*
13. Прамысловасьць — *Дземяшкевіч.*
14. Асьветна-навуковыя ўстановы і культурны стан раёну — *Даўгаленка.*
15. Санітарны стан раёну — *Нісьневіч.*
16. Шляхі зносін — *Цыгановіч.*
17. Грамадзкія організацыі раёну (партыя, комсамол, піонэррух, мопр і. да т. п.) — *Даўгаленка.*
18. Рэволюцыйны рух раёну — *Катлінскі.*
19. Гаспадарчы быт раёну — *М. Касьпяровіч.*
20. К. С. У. — *Грынберг.*
21. Бюджэт раёну — *Васілеўскі.*
22. Пяцігодка раёну — *Буткевіч.*

Тэмы: „Профрух раёну" і „Чэрвень і яго ваколіцы" — будуць узяты з часам іншымі работнікамі. Усе нарысы павінны быць кароткімі і популярна напісанымі.

Вырашана было, што ўсе таварышы апрацуюць свае тэмы на месцы, а на раён у экспэдыцыю павінны выехаць т. т. Дземяшкевіч і Бабіцкі на чале з т. Касьпяровічам. Але т. Бабіцкі ўрэшце ня змог выехаць.

Адбылося дзьве нарады вылучаных на апісаньне раёну краязнаўцаў, на якіх была высьветлена мэтодыка працы, ды, апрача таго, кожны ўдзельнік апісаньня быў праінструктаваны асабіста. Усе таварышы абяцалі выканаць працу на працягу аднаго - двох месяцаў.

Т. т. Касьпяровіч і Дземяшкевіч выканалі свой маршрут па раёну па наступнай лініі: Чэрвень — Новазер'е — Раванічы — Зелянкі — Вайнілава — Рудня — Волма — Лучное — Дзерць — Язоўкі — Горкі. Па меры патрэбы рабіліся адхіленьні ад гэтае лініі выездам у суседнія лініі вёскі. Апрача таго, з Горак т. Дземяшкевіч праехаў у Чэрвень цераз Калодзескую фабрыку і Наталеўск, а т. Касьпяровіч — на ст. Градзянка цераз Ляды.

Т. Касьпяровічам былі сабраны значныя матар'ялы што да этнографіі Чэрвеншчыны і зроблена каля 100 фотоздымкаў, а т. Дземяшкевічам — матар'ялы аб савгасах і колгасах Чэрвеншчыны ды аб фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах.

У Чэрвені т. т. Бабіцкі, Катлінскі і інш. падрыхтавалі матар'ялы для напісаньня сваіх тэм.

Апрача сваёй непасрэднай працы т. т. Касьпяровіч і Дземяшкевіч організавалі ў Раванічах новы гурток краязнаўства і дапамаглі мясцовым таварышом выпрацаваць плян працы гуртка. Была падрыхтавана глеба да організацыі гурткоў у трох другіх пунктах і праінструктаваны мясцовыя работнікі аб гэтым. Апрача таго, шмат часу было аддана інструктаваньню мясцовых настаўнікаў па комплексу „Наш раён" згодна вымаганьням апошніх.

Мясцовае насяленьне вельмі спачуваюча адносілася да працы экспэдыцыі.

## Мазырска-Гомельская этнографічная экспэдыцыя.

Катэдра этнографіі БАН організавала летам этнографічную экспэдыцыю па лініі Скрыгалава—Брагін. У экспэдыцыі прыняў удзел і навуковы сакратар ЦБК т. Касьпяровіч, як член катэдры. Ён працаваў у экспэдыцыі з 23 чэрвеня да 15 ліпня 1929 году і выканаў маршрут: Мазыр—Юравічы—кругом па Юравіцкаму раёну — Хойнікі. Ім запісана каля 200 нумароў фольклёру, сярод якога шмат цікавых космогонічных казак і народных апавяданьняў, зафіксавана каля 50 народных гульняў, з якіх зьнята 12 фотографічных здымкаў, зарысавана каля 40 узораў мясцовых народных вышывак і ператыканьняў з захаваньнем колераў і занатавана біографія надзвычайна цікавага дзеда з в. Аўцюкі Юравіцкага раёну. Трэба адзначыць вельмі спрыяючыя адносіны да працы экспэдыцыі з боку Юравіцкага РВК.

Аб працы другіх членаў экспэдыцыі пісалася ў другім месцы.

## Краязнаўчая экспэдыцыя ЦБК у Чачэрскі раён.

У пачатку верасьня гэтага году ЦБК паслала ў Чэчэрскі раён інструктара т. Шашалевіча для правядзеньня пры ўдзеле мясцовых сіл краязнаўчай экспэдыцыі. Мэта экспэдыцыі—даць нарысы аб Чачэрскім раёне ў галіне вывучэньня колектыўных гаспадарак, этнографіі, экономікі і г. д.

У краязнаўчай экспэдыцы па Чачэрскаму раёну ад мясцовых сіл прымалі ўдзел аграном - колгасьнік Пятроў і настаўнік Чачэрскай шк. II ступені Цыбулькін. З аграномам супольна былі абсьледваны колектыўныя гаспадаркі раёну: комуна Крапоткіна і пяць с.-г. арцеляў. Ніжэйшыя формы колектыўных аб'яднаньняў — машынныя т-вы, т-вы па супольнай апрацоўцы зямлі і інш. былі абсьледваны па матар'ялах, якія былі сабраны ў раёне і ЦСУ. Пэрсональна з іх былі наведаны толькі 2 машынныя т-вы. Колгасы былі абсьледваны з экономічнага і бытавога боку. Поўна абсьледваць экономіку іх ня ставілі мэтай з прычыны вялікай складанасьці пытаньня, але каб больш поўна апісаць гаспадарчы быт колгасаў, трэба было мець належны экономічны фон. Праўда, час экспэдыцыі быў ня зусім удалы для высьвятленьня экономічных рэсурсаў колгасаў—яшчэ не закончылася рэ-

алізацыя сёлетняга ўраджаю. За мінулы год весткі аб эконом. стане колгасаў Чачэр. раёну сабраны поўныя. Усе існуючыя ў раёне колгасы (апрача закладзеных у гэтую восень) абсьледваны галоўным чынам з пункту такіх пытаньняў: Організацыя працы, умовы працы, ахова працы. Аплата працы, формы зарплаты. Продукцыйнасьць працы. Разьмеркаваньне продукцыі. Быт у колгасах. Культурны стан колгаснага жыцьця: пісьменнасьць, гурткі, газэты, клюбы, ясьлі. Санітарны быт—чыстата, лазьні, студні, соцыяльная гігіена. Сямейны быт. Новая мораль. Часаправаджэньне колгасьнікаў. Мастацтва ў колгасах. Музыка. Скокі. Песьні, пашыраныя ў колгасах. Хатні быт, украсы, мэбля, вопратка, туалет, ежа, быт моладзі.

У 3-х колгасах давялося пабыць на сходах. У сярэднім у кажным колгасе абсьледваньне цягнулася 2 дні. Зразумела лепшыя вынікі былі-б пры стацыянарным абсьледваньні. Трэба сказаць, што такія абсьледваньні ўвесь час вядуцца зямельнымі органамі—акрколгассаюзам і аграпунктам, і весткі можна мець досыць поўныя, але гаспадарчы, хатні, сямейны і культурны быт колгасаў яшчэ не ахоплены гэтымі абсьледваньнямі. Такім чынам, краязнаўчая экспэдыцыя магчыма і запоўніць гэты прабел у Чачэрскім раёне.

Чачэрская краязн. організацыя вельмі слабая. Ды і сам кіраўнік яе, на якога разьлічвалі пры накіраваньні экспэдыцыі, незадоўга перад гэтым нечакана зьехаў на курорт. Перад гэтым ён прымаў удзел у Гомельск. кр. эксп. Мясцовая організацыя, з гэтае прычыны, для экпэдыцыйнай працы вылучыла толькі аднаго сябра Цыбулькіна. Двое з сяброў узялі на сябе стацыянарную працу. Настаўнік Кавалёў і настаўніца Сафонцава працу ўзяліся распрацаваць: Харчаваньне насяленьня ў Чачэрскім раёне і ўплыў кліматычных умоў мінулага году на гаспадарчы быт Чачэрскага раёну. Апрача гэтага намечаны яшчэ некаторыя тэмы для выкананьня: скласьці зборнік народных мэлёдый Чачэрскага раёну – ёсьць сілы для гэтага.

РВК для правядзеньня экспэдыцыі вызначыў невялікія сродкі (15 р.). З настаўнікам Цыбулькіным экспэдыцыя была праведзена на левы бок Сажа. Абсьледвана было некалькі вёсак з этнографічнага боку. Тут зроблены апісаньні найбольш характэрных і старажытных гаспадарчых будынкаў, прылад, відаў ежы, вопраткі, зроблены мастацкія зарысоўкі ўсяго гэтага, сабраны значны лексычны матар'ял, дыялектолёгічныя нататкі зроблены, запісана каля 15 нар. мэлёдый і некалькі дзесяткаў фольклёру. На жаль, гэтая экспэдыцыя нядоўга цягнулася і мела больш паказальны характар. Пасьля яе ўдзельнікі экспэдыцыі дэмонстравалі сабраны матар'ял перад мясцовымі культурнымі сіламі.

А. Ш.

## Лепельскае Раённае Т-ва Краязнаўства.

6-га верасьня г. г. адбылася Раённая Краязнаўчая Конфэрэнцыя, на якой была заслухана справаздача Старшыні Праўленьня аб дзейнасьці Т-ва.

У спрэчках па справаздачы было адзначана, што праца Т-ва некаторы час была ў заняпадзе, з прычын об'ектыўнага характару. За апошні месяц праца зноў пачала разгортвацца.

На сеньнешні дзень Т-ва налічвае 56 чалавек сяброў, з якіх нязначная частка ўцягнута ў працу.

Конфэрэнцыя намеціла шэраг конкрэтных мерапрыемстваў і можна сказаць, што праца шпаркім тэмпам пойдзе наперад.

Цяпер Т-ва прыступіла да зьбіраньня розных матар'ялаў па вывучэньні раёну і мяркуе скончыць гэтую працу да студзеня м-ца 1930 г.

Сабраныя матар'ялы павінны ўвайсьці ў зборнік „Наша акруга“, які мае на ўвазе выдаць Полацкае Акруг. Т-ва.

Распачалася праца па санітарна-бытавому дасьледваньню вёсак раёну, таксама і па зьбіраньню фольклёру.

Заснаваны два фэнолёгічныя пункты (у Лепелі і ў Камені). Т-ва мае музэй, у якім знаходзяцца каштоўныя экспонаты. Ёсьць шмат матар'ялаў, якія адлюстроўваюць жыцьцё раёну.

Ёсьць колекцыі шасьціножак, лекавых расьлін раёну, карысных выкапняў, шмат фотоздымкаў раённых краявідаў колекцыя грошай, саматужных вырабаў і інш.

Музэй улетку наведвалі дзьве вучнёўскія экскурсіі Менскіх школ і некалькі экскурсант-актывістаў са Слуцку, Менску і Віцебску. Музэй працуе рэгулярна і за летні час прапусьціў шмат мясцовых экскурсантаў (да 2000 чалавек).

Пастаўлена пытаньне аб пераводзе музэю ў іншае памяшканьне, больш прасторнае. На конфэрэнцыі, абрана новае Праўленьне, якое прыступіла да працы.

С. М.

## Тураўскае Раённае Т-ва Краязнаўства.

У сваёй працы Т-ва мае наступныя дасягненьні: Зорганізаваўся Раённы Краязнаўчы Музэй, для якога ў памяшканьні аграпункту адведзена два пакоі. У музэі стаяць дзьве скрыні археолёгічных знаходак, узоры насеньня збожжа, ёсьць гэрбарыі, некаторыя матар'ялы, якія перададзены краязнаўчай экспэдыцыяй студэнтаў Б. Дз. У. у 1927 г. Пры музэі таксама знаходзіцца каменная труна.

Сабраны апавяданьні старых людзей аб мінулым Турава. Складзена поўная карта помнікаў старасьветчыны і паслана ў БАН.

Зроблена 8 монографічных апісаньняў паселішч і некалькі апісаньняў па гісторыі рэволюцыйнага руху па Тараўшчыне, якія прыслалі сябры т-ва. Лік сяброў т-ва даходзіць да 80.

Трэба адзначыць, што за апошняе паўгодзьдзе праца праўленьня зусім заняпала.

23/IX-29 г. адбыўся агульны сход сяброў Т-ва. Па дакладу аб працы праўленьня т-ва выступала багата таварышоў — сябраў т-ва.

Да недахопаў у працы праўленьня т-ва трэба аднесьці наступнае: Праўленьне мала цікавілася працай і ёсьць выпадкі, калі некаторыя сябры праўленьня не наведвалі сходаў.

Кепска абстаіць справа з спагнаньнем сяброўскіх узносаў. Ёсьць вельмі вялікая запазычанасьць.

Сябры праўленьня мала давалі сябром т-ва мэтодычных указаньняў і мала цікавіліся працай апошніх, дзякуючы чаму некаторыя краязнаўчыя гурткі існавалі толькі на паперы.

Раённы Краязнаўчы Музэй знаходзіцца ў канцы мястэчка. Некаторыя сябры т-ва ня ведаюць аб ім. Многія сябры т-ва нават не пабывалі ў музэі. Трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што музэй знаходзіцца ў глухім пакоі і каб дабрацца да яго, трэба перайсьці ўсе пакоі аграномаў. Музэй таксама мала папаўняецца экспонатамі.

Рэзолюцыю па справаздачы праўленьня прынялі тую самую, што прыймалі і ўвесну г. г. у красавіку м-цы ў часе перавыбараў праўленьня т-ва. Гэтую рэзолюцыю прымаюць ужо некалькі разоў і ня выконваюць.

Цяпер у склад праўленьня т-ва ўвайшлі: Квіцінскі, Бруй, Кіркорава, Лапіцкая, Плышэўскі, Ліўшыц і Гаршкалеп. Кандыдатамі: Кацэвіч, Гальцоў і Паляшчук.

У рэўкамісію: Сіўко, Глозман і Турбёнак, кандыдатам Латышкевіч.

Трэба думаць, што новы склад праўленьня возьмецца за працу і выканае намечаны плян працы.

С. Шаўкавіч.

## Акліматызацыя туркестанскай чарапахі.

### Маленькае нагляданьне.

3-га кастрычніка 1928 году мне была дастаўлена жывая туркестанская чарапаха (Testudo horsfieldi Groy). Яна хадзіла па пакоях, а 29 кастрычніка заснула на зіму. 5-га сакавіка 1929 чарапаха выпаўзла з кутка і зноў пачала хадзіць па пакоях. Трэба было падумаць аб яе харчаваньні. Карыстаючыся кнігай проф. А. М Мікольскага „Гады і рыбы" (стар. 272), я даваў салат, капусту, цыбулю, але жывёліна ня ела. Не знашоў я таксама нічога больш і ў другой кнізе А. М. Мікольскага (Пресмыкающиеся, т. I. 1915. Фауна России, стар. 36-37). Аднак-жа выпадкова, 14 траўня 1929 г., мне давялося бачыць, што чарапаха зацікавілася сухой крапівой (Urtica), якая у мяне была. Тады я аднёс жывёліну ў садзік, дзе ёсьць досыць рознай травы. Чарапаха на маіх вачох пачала есьці перш за ўсё крапіву, потым вельмі ахвотна дмухавец, асабліва не распусціўшыяся кветкі яго, таксама трыпутнік, і зусім мала лісьця лопуха. Такім чынам, зусім добра вырашаецца пытаньне аб мажлівасьці трыманьня ў нашым клімаце туркестанскай стэповай чарапахі. Падобная акліматызацыя можа быць скарыстана ў зоолёгічным садзе, ў школе і г. д.

Проф. Салаўёў.

## Агульны агляд надвор'я па БССР.

### За жнівень м-ц 1929 г.

(*Па даных Беларускай Гэофіз. Службы*).

Надвор'е на працягу ўсяго м-ца стаяла цёплае і сухое. Самую нізкую сярэднюю месячную тэмпэратуру дае Стукачоўская мэтстанцыя (Полацкая акруга) 17,4, самую высокую Васілевіцкая (Гомельскай акругі) 20,7.

Пры параўнаньні сярэдніх мес. т-ур з нормальным і сяр. мес. т-урамі выходзіць, што паўсюды сяр. месячная т-ура жніўня перавышала норму (ад 0°.8 да 3°.5).

Што да паасобных дэкад, дык за першую дэкаду сярэдняе мес. тэмпэратура была вышэй нормальнай (ад 2°.1 да 4°.0), сяр. т-ура за другую дэкаду была вышэй нормальнай (0°.6 да 3°.6) і за трэцюю таксама вышэй (ад 0°.1 да 3°.4).

Сярэдняя сутачная тэмпэратура паветра БССР вагалася:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| I дэкада | ад | 13°.6 | да | 25°.3 |
| II „ | „ | 14°.1 | „ | 21°.1 |
| III „ | „ | 11°.7 | „ | 22°.6 |
| за м-ц | „ | 11°.7 | „ | 25°.3 |

Абсолютныя ваганьні тэмпэратуры паветра (паводле паказаньняў максымальных і мінімальных тэрмомэтраў) наглядаліся:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| I дэкада | ад | 4°.2 | да | 32°.2 |
| II „ | „ | 5°.2 | „ | 31°.5 |
| III „ | „ | 4°.9 | „ | 30°.5 |
| за м-ц | „ | 4°.2 | „ | 32°.2 |

Найбольшы максымум за мінулы м-ц адзначаны ў Турску (Бабр. акр.) 32°.2 (9/VIII) і найбольш нізкі мінімум 4°.2 (Барысаў 4/VIII).

У адносінах ападкаў жнівень зьявіўся месяцам дэфіцытным. Яны (ападкі) выпадалі на працягу ўсяго м-ца і расклад іх па часу можна характарызаваць наступным чынам: у першую дэкаду адзначаны большыя іх сумы (мясцамі выпала больш 1/3 месячных норм) і большыя лікі дзён з ападкамі, у другую дэкаду асабліва мала ападкаў выпалаў Магілеўскай, Аршанскай, Бабруйскай, Мазырскай, Гомельскай акругах, дзе мясцамі зусім ня

было адначана дажджоў, за трэцюю дэкаду па ўсёй БССР ападкаў выпала мала (мясцамі зусім ня было).

За месяц па ўсёй БССР выпала значна менш нормы (прыблізна 50%) і толькі некаторыя мэтстанцыі Менскае акругі (Лагойск, Плешчаніцы, Запрэтнік) паказваюць месячныя сумы больш нормы.

Лік дзён з ападкамі вагаецца ад 3 да 18, прычым у паўночных акругах—Полацкай, Віцебскай, а таксама Менскай адзначаны лік ад 8 да 18, і ў іншых ад 3 да 12.

*Град* па аднаму дню адзначаны толькі ў Плешчаніцах і Чэрвені (Менская акруга) і Вушачы (Полацкая акруга).

*Воблачнасьць* (30—60%) ніжэй нормы прыблізна на 10%.

Зусім *ясных дзён* было ад 3 да 12 (замест ад 4 да 7), а зусім *хмарных* ад 2 да 10 (замест 4—8).

*Ветры* на працягу м-ца панавалі сухія—паўночных і паўночна-ўсходніх румбаў замест нормальных паўднёвых і заходніх.

*Стан палявых культур.*

Паводле вестак, атрыманых ад наглядальнікаў выяўляецца, што надвор'е прыблізна першай паловы жніўня больш спрыяла разьвіцьцю палявых культур чымся ў мінулым годзе—недахопу ў ападках не адчувалася, а яснае надвор'е спрыяла сенажаці, жніву жыта, аўсу і ячменю. Але паколькі пачатак жніўня спрыяў уборцы збожжа, пастолькі яго канец зьявіўся менш здавальняючым для сельскай гаспадаркі. Недастатковая колькасьць ападкаў у канцы жніуня перашкаджала сяўбе азімага жыта.

Наглядальнікі адзначалі, што сухое надвор'е можа адбіцца на стане бульбы.

Аддзел сеткі Белгеафізу.

**За верасень месяц 1929 год.**

Пры параўнаньні сярэдніх месячных тэмпэратур з нормальнымі месячнымі тэмпэратурамі відаць, што па ўсёй БССР сярэдняя месячная тэмпэратура была ніжэй нормы ў межах ад 0,5° да 1,2°.

Сярэдняя сутачная тэмпэратура паветра па БССР вагалася:

Сярэдняя

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1-я дэкада | ад | 6,0° | да | 20,6° |
| 2-я | „ | 5,1° | „ | 13,8° |
| 3-я | „ | 3,1° | „ | 16,6° |
| за месяц— | | 3,1° | „ | 20,6° |

Абсолютныя ваганьні тэмпэратуры паветра (паводле паказаньняў максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1-я дэкада | ад | 2,7° | да | 27,5° |
| 2-я | „ | —2,1° | „ | 21,7° |
| 3-я | „ | —3,2° | „ | 22,9° |
| за месяц— | | —3,2° | „ | 27,5° |

Найбольшы максымум тэмпэратуры за мінулы месяц адзначаны 6-га ў Васілевічах (Гомельскай акр.) 27,5° і мінімум адзначаны ў Турску (Бабруйскай акр.)—3,2° (27 верасьня).

Сярэдняя тэмпэратура за першую дэкаду верасьня ў паўднёвых акругах БССР вышэй нормы на 0,6°—0,8°, у паўночных на 0,8°—1,6° ніжэй нормы і ў сярэдняй частцы БССР блізка да нормы.

Пры параўнаньні з адпаведнай дэкадай верасьня мінулага году сярэдняя тэмпэратура першай дэкады верасьня г. г. ў акругах Полацкай і Віцебскай прыблізна на 1° ніжэй, а ў іншых акругах БССР у гэтым годзе на 1° вышэй.

Сярэдняя тэмпэратура за другую дэкаду па ўсёй БССР на 1-2° ніжэй нормы. Пры параўнаньні з адпаведнай дэкадай мінулага году, другая дэкада верасьня г. г. на 2-3° ніжэй.

Сярэднія тэмпэратуры 3-й дэкады нязначна перавышаюць норму на 0,1°—0,2° у Віцебскай і Полацкай акругах, у Меншчыне сярэднія тэмпэратуры ўжо не адрозьніваюцца ад нормальнай, далей на поўдзень яны ніжэй нормальных (у Гомельшчыне на 2°).

Надвор'е ў верасьні было наогул прахалодлівае. Калі ў другую дэкаду верасьня былі адзначаны прымаразкі ў Меншчыне і паўночных акругах БССР, то ў трэцюю дэкаду, у канцы месяца прымаразкі заўважаны ўжо па ўсёй БССР (згодна кліматычных даных выходзіць, што пачатак прымаразкаў для паўночнай часткі БССР на 3-ю дэкаду верасьня, а для паўднёвай часткі на 1-ю дэкаду кастрычніка).

У гэтым годзе прымаразкі пачаліся прыблізна на 10 дзён раней нормальнага.

*Ападкі.* У адносінах іх раскладу па БССР няма аднастайнага характару (месцамі іх выпала менш нормы, месцамі больш, а месцамі амаль норма).

У першую дэкаду іх выпала больш чымся ў іншыя, па ўсёй Беларусі іх выпала больш 1/3 месячнай нормы, асабліва гэта магчыма заўважыць у паўночных акругах. Пры параўнаньні ападкаў за першую дэкаду верасьня г. г. і за першую дэкаду верасьня мінулага 1928 г., відаць, што ў гэтым годзе ападкаў выпала на 10—20 м/м больш.

Лік дзён з ападкамі вагаўся ад 4 да 9.

За другую дэкаду выпала вельмі нязначная колькасьць ападкаў, нідзе не адзначана больш 7 м/м., у той самы час. калі ў мінулым годзе значыцца 20—35 м/м.

Лік дзён з ападкамі за другую дэкаду вагаецца ад 0 да 5.

Трэцяя дэкада па колькасьці ападкаў блізка падыходзіць да першай. Выпала іх прыблізна ад 20 да 40 мм., што значна перавышае 1/3 месячнай нормы.

У разглядаемай дэкадзе меншы аднастайны расклад іх і меншая інтэнсыўнасьць іх, чымся ў адпаведнай 3-й дэкадзе верасьня мінулага году.

Ападкі за 3-ю дэкаду выпадалі 2—5 дзён.

У суме з значнымі перавышэньнямі месячных сум ападкаў мы сустракаемся ў Ле-

пелі (на 36 мм вышэй нормы), Сянно (на 32 мм. вышэй) і Магілеве (на 30 мм).

Лік дзён з ападкамі за месяц вагаецца ад 4-х да 20.

Зусім *ясных* дзён было за месяц ад 0 да 9 замест ад 4 да 6, зусім *хмарных* ад 3 да 8 замест ад 5 да 9.

*Ветры* на працягу месяца пераважвалі заходніх румбаў.

*Воблачнасьць*—ніжэй нормы ад 49% да 59% замест ад 49 да 64%.

*Стан палявых культур.* У сувязі з характарам надвор'я і асаблівасьцямі раскладу ападкаў па тэрыторыі ў верасьні выходзіць, што глеба зьявілася больш вільготнай у Меншчыне і Віцебшчыне.

Прымаразкі ў сярэдзіне верасьня адбіліся на гурках і на шкодніках у сэнсе зьнішчэньня апошніх (веды з Віцебшчыны).

На працягу верасьня адбыўся пасеў азімага жыта і ўборка бульбы. Умовы надвор'я вельмі спрыялі палявым работам і далі магчымасьць іх добра скончыць.

Назіральнікі адзначаюць здавальняючы стан азімых.

Г. Маслакавец.

Складзены 18/IX-29.

## Экспэдыцыя па вывучэньні Дняпра.

Экспэдыцыя Смаленскага Т-ва Краязнаўства па вывучэньні вытокаў Дняпра ў складзе Г. В. Парфенава, В. Р. Тарасенка, В. Гадоўкіна і Н. Майсеева, якая вышла з Смаленску 24 ліпня г. г., праходзіла праз Вязьму, Сычаўку да вытоку Дняпра і адтуль да г. Дарагабужу, да 24 жніўня прышла ў г. Дарагабуж, прайшоўшы пехатой да 200 кілёмэтраў і ў лодцы да 150 кіл., у выніку прац экспэдыцыі зроблена апісаньне Дняпра ў географічных адносінах.

Сабраны весткі і ўзоры карысных выкапняў (вапнякоў, глін, торпу і інш.).

Сабраны весткі і зроблены некаторыя назіраньні па флёры і фаўне Прыдняпроў'я.

Сабраны некаторыя пісьмовыя матар'ялы і запісана шмат легенд, паданьняў і апавяданьняў.

Абсьледваны бадай усе цэрквы прыбярэжнай паласы ў архітэктурных, маляўнічых, скульптурных і архіўных адносінах.

Праверены межы распаўсюджаньня тыпу сялянскай хаты і яе ўкрасы са здымкамі і зарысоўкамі паасобных тыпаў будоўлі.

Сабрана шмат матар'ялу для распрацоўкі маршрутаў пешага і лодачнага турызму. Намечаны пункты турыстычных і экскурсыйных баз і інш.

Знойдзена і ўпершыню раз абсьледвана 39 неолітычных стаянак (каменнага веку) і зарэгістравана без абсьледваньня больш 30 стаянак.

Зарэгістравана да 15 знаходак буйных каменных і касьцяных прылад.

Абсьледвана і зроблены падрабязныя пляны 8 гарадзішчаў. Зарэгістравана 7 курганных груп.

Зроблена больш 50 фотоздымкаў і больш 100 зарысовак.

Сабрана каля 20 пудоў вялікай каштоўнасьці навуковага матар'ялу.

У час падарожы экспэдыцыя вяла сярод мясцовай насельнасьці політыка-асьветныя гутаркі аб мэтах і задачах экспэдыцыі і па пытаньнях нутраной і замежнай політыкі СССР, галоўным чынам аб ваеннай небясьпецы і таварным голадзе. Члены экспэдыцыі пастаянна вялі тлумачальную і агітацыйную працу па колектывізацыі вёскі і аб 3-й пазыцы індустрыялізацыі.

## Праца беларускага Навукова-Краязнаўчага Гуртка ў Рызе.

Навукова-Краязнаўчы Гурток пры Т-ве „беларусаў-выбаршчыкаў" зьвярнуўся да беларускага настаўніцтва, студэнтаў, вучняў беларускае гімназіі, курсантаў настаўніцкіх курсаў, да старэйшых вучняў пачатковых школ і да ўсіх пісьменных беларусаў з заклікам зьбіраць матар'ялы аб усіх ніжэйпералічаных рэчах і надсылаць весткі аб іх у т-ва.

1. Песьні, казкі, прыказкі, легенды, апавяданьні, замовы, частушкі.

2. Назовы мясцовасьцяй, лясоў, палёў, лугоў, урочышчаў, узвышшаў, нізін і інш. Даваць плян мясцовасьці з паказаньнем адлегласьці эднаго месца ад другога і з абавязковым адзначэньнем вазёр, рэк і цікавых крыніц і ўзгор'яў.

3. Крыніцы і калодзежы, у якіх кепская вада: салёная, кіслая, горкая, або з брыдкім пахам. Калі дзе пры капаньні новых калодзежаў будуць газы, або „кепская вада", дык студні гэтыя не зарываць пакуль ня будуць накіраваны на месца дасьледчык. Гэтак званая „кепская" вада, якую людзі ня п'юць, што кіслая, або брыдкая, дужа часта зьяўляецца вельмі каштоўнай вадой, якой можна лячыць розныя цяжкія хваробы, а таму аб усіх такіх крыніцах зараз-жа трэба паведамляць нас.

4. Ва ўсіх выпадках, калі дзе з-пад зямлі, каля рэк, равоў, канаў,— выходзіць суцэльны камень, або каменны пласт,—трэба зараз-жа паведаміць з падрабязным паказаньнем мясцовасьці. Асабліва важна, калі камень ломіцца пліткамі, або можа гарэць. Цікава ведаць дзе і якога колеру ёсьць гліна (чырвоная, жоўтая, белая, блакітная).

5. Малюнкі і фотографіі мясцовасьцяй, зарысоўкі ўзораў тканін, вышывак і кружава, фотографіі цікавых тыпаў—усё гэта дае вельмі цікавыя весткі аб мясцовасьці, калі на картках і малюнках адзначана: калі, дзе, хто і ад каго запісаў іх.

6. Ва ўсіх выпадках, калі капаючы студні, або канавы знойдуцца шкілеты чалавека і

жывёлы, зараз-жа паведаміць з падрабязным апісаньнем, а косьці захаваць да адказу т-ва. Асабліва важна гэта тады, калі па форме сваёй і выгляду косьці здаюцца непадобнымі да касьцей сучасных стварэньняў.

7. Старыя монэты, мэдалі, бранзалеты, тапары, стрэлы, шаблі, нажы, гліняныя гаршкі і нават чарапкі гаршкоў, калі яны адкапаны разам з чалевечымі касьцямі, трэба пільна захаваць.

8. Каменныя тапары, коп'і, нажы, скрабкі можна знайсьці ў распаханым полі, ля размытых берагоў ракі, пры капаньні канаў і калодзежаў.

9. Вельмі важна ведаць калі ў кожнай мясцовасьці пачынае ісьці сьнег, калі бывае першая навальніца і гром, калі прылятаюць і адлятаюць розныя птушкі, колькі яны і калі выводзяць пцянцоў, калі распушчаюцца розныя кветкі і цьвітуць дрэвы, лугавыя травы, а таксама жыта, канюшына. Каб усё гэта адзначаць, трэба вясьці дзеньнік і туды штодня запісваць свае назіраньні за цэлы год, а потым пераслаць дзеньнік у т-ва.

10. Сабраць усе назовы, якія ўжываюцца ў вашай мясцовасьці для азначэньня хатніх рэчаў, начыньня, сельска-гаспадарчых прылад, зброі і інш., прычым добра-б было гэтыя рэчы хаця-ж-бы зусім проста намаляваць, падпісаўшы як завецца ўся рэч і кожная яе частка паасобку.

11. Якімі хваробамі найбольш хварэюць у вашай мясцовасьці, як, чым і ў каго лечацца. Ці многа ў вас хварэюць, напр., на глісты, тыфус, панос, зоб. З гэтым пытаньнем т-ва зьвяртаецца да тых мясцовасьцяй, дзе ёсьць вялікія вазёры. Заўважана, напр., што асабліва многа глістоў там, дзе вада забруджана чалавечым памётам, у якім ёсьць яічкі глістоў; гэтыя яічкі праглынае рыба, а зьеўшы такую рыбіну, здаровы чалавек набывае сабе глістоў. Насельніцтва з году у год хварэе, а прычыны хваробы ня ведае. Якія ў вас санітарныя варункі: ці ёсьць аптэка, доктар, фэльшар. Ці няма шаптуноў і шаптух, і як да іх адносіцца жыхарства.

12. Заўважана, што ў беларусаў і латышоў шмат агульных слоў, якіх няма ні ў расійцаў, ні ў палякоў. Трэба ўважліва і старанна запісваць усе агульныя словы якія ёсьць і ў нас і ў латышоў і ў латгальцаў з паказаньнем мясцовасьці і з тлумачэньнем іх значэньня.

13. Якія ў вас экономічныя ўмовы жыцьця: колькі зямлі ў ваколіцах прыпадае на душу, колькі малазямельных і безьзямельных, чым зарабляюць сабе на жыцьцё малазямельныя і безьзямельныя; якія крамы, склады, прыватныя і коопэрацыйныя ёсьць у вашай мясцовасьці і хто імі кіруе; які сярэдні гадавы бюджэт (зварот з гаспадаркі) мае ў вашым раёне многазямельны, серадняк і малазямельны селянін.

14. Якія палітычныя партыі і кірункі ёсьць у вашым раёне. Да каго цягнуцца розныя групы сялянства. Якія вымаганьні сяляне ставяць палітычным партыям, чым задаволены і чым незадаволены. Якіх чакаюць і жадаюць зьмен.

Найбольш актыўныя зьбіральнікі будуць залічаны ў лік сталых супрацоўнікаў Гуртка ў якасьці корэспондэнтаў. За найбольш карысныя і поўныя зборы будуць выдавацца прэміі навуковымі і літаратурнымі выданьнямі, а ў асаблівых выпадках і грашовы ганарар.

Сябры беларускага Навукова - Краязнаўчага Гуртка ў Рызе наладзілі ў г. г. экспэдыцыю для азнаямленьня з Ліфляндыяй.

---

# Краёвая бібліографія.

*Працяг*[1]).

У папярэдніх нумарох часопісу ўжо зьмешчаны агульны для ўсіх акруг разьдзел ды разьдзелы Аршаншчыны і Бабруйшчыны. Ніжэй падаецца бібліографія Віцебшчыны. У гэтым разьдзеле, як і ў папярэдніх, Беларускім Аддзелам Дзяржаўнай Бібліотэкі падаюцца матар'ялы з кругабегавага друку, да якіх далучаны толькі найбольш важныя для краязнаўцаў паасобныя выданьні. Бібліографія гэтая абхоплівае час з 1917 да 1928 г. ўключна, бо такі матар'ял лягчэй знайсьці на мясцох. Разам з тым трэба адзначыць, што даная бібліографія далёка не абхоплівае ўсіх кругабегавых матар'ялаў—для гэтага няма месца. Беларускі Аддзел бібліотэкі рыхтуе да друку „Летапіс пэрыодычнага друку", у які ўвойдуць усе артыкулы з часопісаў 1917—1928 г. г. У пачатку 1930 г. гэтая кніжка мае выйсьці з друку.

### Віцебшчына.

[... Абсьледаваньне мікольскага кірмашу ў г. Сянно, Віцебскай акругі (Праведзенае вучнямі Сеньнінскіх сямігодак 20 сьнежня 1925 г. Наш Край. 926. № 4-5 (7-8) с. 46—50.

Адамов, В. Alisms Submersum (Витебщина). Зап. Бел. Дз. Ун-ту С. І. 924. сш. 3. с. 450—456. [Рэзюмэ на франц. яз.].

Адамаў. Бальшалетчанскі Ботанічны сад. Віцебшчына. 925. т. І. с. 173.

Адамаў. Бачэўкаўскі сад і палац. (Бешанкавіцкі раён, Віцебскае акругі). Віцебшчына. 925. т. І. с. 176—179.

Адамаў, Бешанкавіцкі сад. (Башанкавіцкі раён, Віцебскае акругі). Віцебшчына. 925, т. І. с. 167-168.

Адамаў, Фатыньскі сад і гаспадарка. (Па мяжы Бешанкавіцкага раёну Віцебскае акругі). Віцебшчына. 925. т. І. с. 157—163.

Андреев, И. Д. К вопросу об зобе в Витебском округе. (Из работ комиссии по изучению зоба. (предс.—проф. С. М. Рубашев) при медсекции И. Б. К. (предс. М. И. Барсуков). Бел. Мэд. Думка. 928. № 1. с. 39—47.

Арол, К. Чырвона-Зорская паперня і яе праца. (Ля Чашнікаў). Наш Край. 926, № 4-5 (7-8). с. 36—43.

Аршанский, Э. Гастроли Белгостеатра. (Письмо из Витебска). Трибуна Искусства. 925. № 12. с. 9.

Барашка, Іл. З эпохі рэакцыі і ўціску. (Забастоўка на віцебскай фабрыцы „Дзьвіна" ў 1909 г.). Маладняк. 926. № 7-8. (16-17). с. 97—102.

Бессмертный, д-р. Результаты анкеты (анонимной) среди учащихся профтехшколы деревообделочников в гор. Витебске. [Состояние здаровья]. Бел. Мэд. Думка. 925. т. II. № 1-2. с. 42—48.

Бетехтин, д-р. Хирургическая санатория „Черница". (25. V. 1922—25. V. 1925). Бел. Мэд. Думка. 925. т. II. № 1-2. с. 164—175.

[... Бібліографія Віцебшчыны. (З картотэкі Бел. Дзярж. Бібліотэкі). Наш Край. 927. № 1. с. 98—102.

[... Бібліографія Віцебшчыны. (1). Флёра, фаўна, (2) Азёры. (3) Народная асьвета. Наш Край. 926. № 10-11. (13-14). с. 82—85.

Бляхер, М. Обзор кредитного рынка Витебска. Сав. Буд-ва. 928. № 5. с. 161—164.

Богдановский, А. А. Церебраспинальный менингит в б. Витебской губ. и опыты его лечения. Бел. Ветеринария. 925. № 4 (5). с. 11—27.

Брадоўскі. Геолёгічнае вывучэньне Віцебшчыны. Віцебшчына. 925. т. І. с. 91—95.

Булай, Стан пчалярства. (Віцебшчына). Віцебшчына. 928. т. II. с. 61—66.

Буров, зав. хим.-бакт. инст. Деятельность пастеровского отделения Витебского Губернского Бактериологического Института. Бел. Мэд. Думка. 924. т. І. № 1. с. 103-104.

Бурштэйн, М. У. проф. Вынікі 50-цігадовае дасьледчае працы Я. К. Мароза ў садоўніцтве. (Кароткі нарыс). Праца Навук. Т-ва па вывуч. Беларусі. 926. т. І. с. 21—31. (Рэзюмэ на нямец. мове).

Варапаеў, Ір. Буеўскае возера. Наш Край. 926. № 4-5 (7-8) с. 44-45. з плянам.

Васілевіч, Я. Віцебскі Дзяржаўны культурна-гістарычны Музэй. Віцебшчына. 928. т. II. с. 197—203.

---

[1]) Гл. час. „Наш Край" 1929 г., № 5, № 6-7, № 8-9.

Васільлеў, К. Паляўнічыя птушкі і зьвяры. Віцебшчына. 928. т. II. с 97—109.

Васілеўскі, Д. Беларускае Вольна-Экономічнае Т-ва (у Віцебску. Краязнаўчая праца т-ва). Наш Край. 927. № 12. с. 11—17.

Васілеўскі, Д. Школа і настаўніцтва на Віцебшчыне. Асьвета. 924. № 3. с. 184-185. Хроніка.

[... Витебский друг детей. Сборник статей под редакцией М. С. Московой, Ф. О. Гертмана и М. М. Закина. Витебск. Изд. Витебского О-ва „Друзья Детей". 926. с. 43. 1.

[... (Віцебскае акруговае Т-ва Краязнаўства. 1. Статут. 2. Праца Т-ва. 3. Акруговая Сьветазнаўчая Нарада 25-26 красавіка 1925 г. 4. Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя 26. 27 красавіка 1925 г.). Віцебшчына. 925. т. I. с. 187—216.

[... Віцебская дасьледчая с.-г. станцыя. (Нататка). Наш Край. 926. № 10-11. (13-14). с. 75. хроніка.

[... Віцебшчына. Зборнік. Віцебск. Акругавага Т-ва краязнаўства. Віцебск. 928. т. II. с. 203. 3.

[... Віцебшчына. Непэрыядычны орган Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. Пад кіраўніцтвам і рэд. сябра-кор. ІБК. Касьпяровіча. Віцебск. 925. т. I. 216 стар.

Вялішчанскі, С. Сеньненскае возера. Наш Край. 927. № 1. с. 55—58.

Вярхоўскі, Рыгор. На пераломе. (Кнігагандлёвыя пункты ў Віцебшчыне). Шлях Коопэрац. 928. № 14 (74). с. 35-36.

Гавака. Асноўныя рысы эволюцыі сельскае гаспадаркі. (Віцебшчына) Віцебшчына. 928. т. II. с. 33—46.

Гавака, П. Вынікі паказальнага кармленьня кароў у Віцебскай акрузе. Плуг. 926. № 12. с. 7—9.

Гавака, П. аграном. Тэхніка палявое гаспадаркі Віцебшчыны. Сельск. і Лясн. Гасп. 927. № 2. с. 44—48.

Гавака, П. Ільнавадзтва ў Віцебскай акрузе. Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 5. № 2. с. 19—24.

Гавака. Характарыстыка сельска-гаспадарчых раёнаў. (Віцебшчыны). Віцебшчына. 928. т. II. с. 47—52.

Гармизе, И. Деятельность Витебского льнопрядильного об'единения в 1923-24 г. и перспективы 1924-25 г. (По материалам НК РКИ. БССР). Сав. Буд-ва. 925. № 3-4. с. 106—117.

Гаўрыс, І. Вобразнае мастацтва ў г. Віцебску. Віцебшчына. 928, т. II. с. 168—173.

Гнумн, И. Боевой путь 5-й Витебской Им. Чехо-Словацкого пролетариата Стрелковой Дивизии. Изд. Полит. Отд-ла 5 Стр. Див. 928. С. 46.

Гордон, Е. д-р. Санитарное состояние промышленности Витебской губ. 1923 г. Бел. Мэд. Думка. 924. т. I. № 1. с. 62—66.

Гордонова и Пайкин. Сан. врачи. Санитарные условия труда в типографиях г. Витебска. Бел. Мэд. Думка. 924. т. I. № 2-3. с. 62—66.

Даражка. На шляху к працоўнай школе-камуне. (З практыкі Віцебскай яўрэйскай працоўнай школы-камуны ў двары Лукішкі). Асьвета. 927. № 3. с. 87—89.

Дубінскі. С. А. Археолёгічная праца на Беларусі за 1919—1928 г. г. 3. Досьледы культур жалезнага пэрыоду на Віцебшчыне. Зап. Аддз. Гум. Навук ІБК. 928. кн. 5. с. 275—290.

Жарин, М. И. Как живет и работает Витебская окрветсекция. (По материалам обследования Ресбюро 14 и 15 ноября 1926 г.). Бел. Ветеринария. 927. № 1-2. с. 78—80.

Загрецкий, А. Н. Віцебскі Вэтэрынарна-Зоолёгічны Музэй. Бел. Ветеринария. 927. № 9 -10. с. 40—42.

Заграцкі, Віцебскі Вэтэрынарна-Зоолёгічны Музэй. Віцебшчына. 925. т. 1 с. 174-175.

[... З дакладу Межынскага Раённага Выканаўчага Камітэту Віцебскай акругі аб яго дзейнасьці. Бюл. СНК БССР. 925. № 8. с. 60—62.

[... Инструкция по перевыборам сельских и районных советов округа. Витебск. 924. 14 стр.

Кабаков, О. И. Витебщина. (Статистико-экономический обзор). Нар. Хоз-во Бел. 924. № 6-7. с. 44—52.

Кабаков, О. И. Витебщина. (Статистико-эконом. обзор) III. Промышленность. Сав. Буд-ва. 925. № 5-6. с. 81—114.

Кавалеўскі, Н. Ц. Праца з беднатой. (Бешанкавіцкі раён). Бальш. Бел. 928. № 4. с. 98-99.

Кавалеўскі, Н. Ц. Пытаньні калектывізацыі вёскі. (Бешанкавіцкі раён, Віцебскай акругі). Бальш. Бел. 928. № 11. с. 94-95.

Казлоўскі, К. Беларуская праца ў гор. Сянно (Крыху бытавога). Асьвета. 925. № 5. с. 65—67.

Касьпяровіч, М. І. і Багародзкі, М. М. Бібліографія Віцебшчыны. (Матар'ялы). Віцебшчына. 925. № 1 с. 135—147.

Касьпяровіч, М. У. Віцебская архітэктура ў гістарычнай пэрспэктыве. Віцебшчына. 925. т I. с. 37—39.

Касьпяровіч, М. І. Віцебскі краёвы слоўнік. (Матар'ялы). Пад рэдакцыяй М. Я. Байкова і проф. Б. І. Эпімаха-Шыпілы. Віцебск. выд. Віц. Акруговага Т-ва Краязнаўства. ІБК. Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы. 926. Стар. XIX. 3. 192.

Касьпяровіч, М. Вывучэньне культурнага стану краю (з досьледу Віцебшчыны). (Матар'ялы да біо-бібліографіі). Наш Край. 927, № 6-7. с. 64—75.

Касьпяровіч, М. Мастацкі маладняк. [Віцебскі Мастацкі Тэхнікум]. Маладняк. 926. № 5 (14). с. 82—85.

Касьпяровіч. Матар'ялы да вывучэньня віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва. Менск. 927. С. 19.

К-ч, М. На Віцебшчыне [Краязнаўчая праца]. Наш. Край. 926. № 10-11. (13-14) хроніка, с. 73-74.

Касьяровіч, М. На шляхох да беларускага мастацтва. [Аб Віцебскім Мастацкім Тэхнікуме]. Маладняк. 926. № 7-8 (16-17). с. 91—96.

Касьяровіч, М. І. Першыя крокі школьна-краязнаўчай працы. Комплексы „Навікі". (Віцебшчына) і „Леніна" (б. „Целяпуны") (Мазыршчына). Наш Край. 926. № 12 (15). с. 43—48.

Клімко, М. Будаўніцтва і праца камуны „Чырвоны Сьцяг". Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 6. № 3-4. с. 30—42.

Клімко, М. Будаўніцтва колгасу. (Унутраныя ўзаемаадносіны ў камуне „Чырвоны Сьцяг") [Віцебшчына]. Бальш. Бел. 928. № 10. с. 42—51.

Комаровская, А. д-р. Медицинский отчет за время с 25. V. 1925 г. — 1. VIII. 1927 г. (Центр. Бел. хирург. санатория „Черницы" для костно-туберкулезных больных. Бел. Мэд. Думка. 928. № 1. с. 189—194.

[... Краткий отчет о деятельности Витебской Окружной Страховай кассы с 1. X 1924 по 1. X.1925 г. Витебск. 925. 28 стр.

[... Краткий обзор деятельности Витебской Окружной Страховой Кассы. 1923-1924 операц. год. Витебск. 924. 40 стр.

[... Краткий отчет о деятельности Правления Витебского ЦРК за 1926-27 хоз. г. 1-му (12 очередному) Собранию Уполномоченных 4-го созыва. Витебск. 928. С. 23.

[... Краткий отчет о деятельности [Витебской С.-Х. Опытной Станции] за 1923-24 г. Витебск. 925. IV. 22. 24. 21. стр. 1 к. 2 т.

[... Краткий отчет о деятельности Правления Витебского Цент. Рабоч. Кооператива за 1925-26 хоз. год 1-му собранию уполномоченных 3-го созыва. Витебск. 927. с. 21. 1.

Красавіцкі, П. Віцебская Ільінская царква. Зап. Аддз. Гум. Навук ІБК 928. кн. 6. с. 95—103.

√ Красавіцкі. Сад Саломінка. (Віцебшчына). Віцебшчына. 925. т. І. с. 164—166.

Красьнянскі, В. Батлейка Віцебскага аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю. Зап. Аддз. Гум. Навук ІБК. 928. кн. 6. с. 127—140.

Красьнянскі, У. Віцебскі гандаль у 1605 г. Зап. Аддз. Гум. Навук ІБК. 928. кн. 3. с. 363—374.

Красьнянскі, Кніга прывілеяў м. Віцебску. Віцебшчына. 925. т. І. с. 148—150.

Красьнянскі, Г. Музэйныя помнікі старадаўных Віцебскіх Рамесьніцкіх Арганізацыяў. Віцебшчына. 925. т. І. с. 40—48.

Красьнянскі, В. „Чарцёж" месца Віцебску 1664 г., як дакумэнтальны памнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва. Зап. Аддз. Гум. Навук ІБК. 928. кн. 6. с. 39—93. 3 пляны.

[... Краязнаўчая выстаўка. (Віцебск). Наш Край. 926. № 12 (15). с. 76. хроніка.

[... Краязнаўчая праца Віцебскага Акруговага аддзяленьня Саюзу Працаўнікоў зямлі і лесу. (Нататкі). Наш Край. 926. № 10-11 (13-14). хроніка с. 75.

[... Курсы для ветврачей (Витебск). Бел. Ветеринария. 927. № 4. с. 30.

Кусс-Кюз, А. инженер. О произведенных в 1922-23 г. работах и задачах по мелиорации земель в Витебской губернии. (Выборка из отчета). Материалы Запомо. 924. № 3. с. 232—235.

Лебедев, Н. А. и Горегляд, Х. С. Результаты офтально-туберкулинизации крупного скота в гор. Витебске и его окрестностях. Бел. Вэтэрынарыя 928. № 11-12. с. 16—20.

Левченок, Ф. Первые итоги. (Из материалов по обследованию колхозов). [Витебщины]. Бальш. Бел. 928. № 10. с. 81—84.

√ Лубоўскі, Я. Аб патрэбе арганізацыі пэдагагічнай біястанцыі ў Віцебску. Асьвета. 927. № 2. с. 66—68.

Лубоўскі, М. Вінаробства на Віцебшчыне. Плуг. 927. № 10. с. 115-116.

Лубоўскі, І. Праца Віцебскіх гарадзкіх школ. Асьвета. 926. № 2. с. 95—97.

√ Лубоўскі, М. Садоўніцтва. [Віцебшчыны]. Віцебшчына. 928. т. II. с. 53—60.

Лурье, М. Л. Беглый анализ пятилетки местного хозяйства Витебщины. Бальш. Бел. 928. № 4. с. 87—95.

Лурье, М. І. Кірмашы. [Віцебшчына]. Віцебшчына. 928. т. II. с. 67—81.

Лур'е, М. Л. Местное хозяйство Витебщины. (Аналіз 5 летн. плана хозяйства). Сав. Буд-ва. 927. № 11-12. с. 187—194.

Лур'е, М. І. Цэнзавая прамысловасьць Віцебшчыны да вайны і ў часе рэвалюцыі. Віцебшчына, 928. т. II, с. 11—32.

Лур'е і Драгінаў. Чым мы скончылі навучальны год. (Па падрахункавым матэрыялам працы штатных школ-перасовак у 1926-27 навучальным годзе па Віцебскай акрузе). Бальшавік Бел. 927. № 6. с. 30—37.

---

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.
Рэдактар З. Бядуля.

Цана 50 к.